№ 6-7
8-9; 10-12
[6-12]

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

**У НУМАРЫ:** Перадавая — Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы на выкананьне прамфінпляну, на забесьпячэньне програмы трэцяга году пяцігодкі. **С. Б. Традыцыя**. На новым уздыме. **С. Маргелаў**. Дасьледчая справа ў галіне с.-г. экономіі па БССР. **Г. Бондар**. Пакончыць з рэшткамі нованародніцтва. **Пракопчык**. Аб організацыі аплаце працы ў колгасах. **А. Гутман**. Аб загібах пры ўзбуйненьні яўрэйскіх колгасаў у БССР. **С. Агурскі**. Да ліквідацыі еўсэкцыі. **А. Шматкоў**. Некаторыя ўрокі з перавыбарчай кампаніі бюро ячэек.

МЕНСК
1930

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 6—7

ЧЭРВЕНЬ—ЖНІВЕНЬ






МЕНСК—1930

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



Зак. № 3481 Галоўлітбел 2742—1500 экз. Гомель, друкарня „Палесдрук“

## Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы

### на выкананьне прамфінпляну, на забесьпячэньне праграмы трэцяга году пяцігодкі

### Да ўсіх партыйных, гаспадарчых, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый

Праз месяц пачынаецца новы гаспадарчы год—трэці год пяцігодкі. Гэты надыходзячы год высоўвае рад вельмі складаных і адказных гаспадарчых і палітычных задач. Ён мае рашаючае значэньне для выкананьня пяцігодкі за чатыры гады і павінен забясьпечыць пераход ня менш чым паловы сялянскіх гаспадарак на сацыялістычны шлях, на шлях калектывізацыі.

Трэці год пяцігодкі азначае новы гіганцкі крок у справе індустрыялізацыі СССР. Адзін толькі прырост прадукцыі за 1930-31 г. будзе раўняцца ўсёй даваеннай прамысловай вытворчасьці. У трэцім годзе пяцігодкі, побач з закончанымі і ўступаючымі ўжо ў эксплёатацыю Сталінградзкім трактарным заводам, Растоўскім заводам сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва і іншымі новымі заводамі, трэба забясьпечыць разгортваньне на поўны ход будаўніцтва такіх гігантаў, як Магнітабуд, на пабудову якога павінна быць выдаткавана за 1 год больш 200 млн. рублёў, Кузьнецкбуд, Ніжагародзкі аўтазавод, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя, Уральскі гігант цяжкага машынабудаўніцтва, першая чарга буйнейшых хэмічных камбінатаў Беразьнікоўскага і Бобрыкаўскага, Саратаўскі камбайны і г. д. Пераважная большасьць гэтых заводаў, якія па сваёй магутнасьці перавышаюць усё, што краіна мела да гэтага часу ў галіне мэталюргіі, хэміі і машынабудаўніцтва, павінны быць пушчаны ў ход на працягу трэцяга году пяцігодкі, адны поўнасьцю, другія ў першую чаргу.

Апрача таго, у будучым годзе пачынаецца будаўніцтва такіх новых заводаў, як Ніжнятагільскі і Марыўпальскі мэталюргічныя і Днепракамбінат у складзе цэлага раду буйнейшых новых заводаў. У 1930-31 г. мы павінны дабіцца першых буйных рэзультатаў у ажыцьцяўленьні дырэктывы XVI зьезду аб стварэньні новай вугальнай мэталюргічнай базы ў СССР—Урала-Кузьнецкага камбінату.

Праграму будучага году вызначаюць наступныя рашаючыя лічбы: 7,5 млн. тон чыгуну, 74,5 млн. тон вугалю, на 2,5 млрд. руб. новых машын, апрача таго на 845 млн. рублёў сельска-гаспадарчых машын і 745 тыс. конскіх сіл новых трактараў.

Посьпехі ў разьвіцьці цяжкай індустрыі і рост сельска-гаспадарчай сырцовай базы (пашырэньне пасеўных плошчаў, павышаны ўраджай бавоўны, буракоў і раду іншых тэхнічных культур) забясьпечваюць значна больш высокі, чым у мінулыя гады тэмп росту лёгкай прамысловасьці. Побач з правядзеньнем іншых мер, гэта ставарае прадпасылкі для паляпшэньня забесьпячэньня прадметамі шырокага спажываньня і для зьмякчэньня таварнага голаду.

Ажыцьцяўленьне гэтай вытворчай праграмы патрабуе рашучага паляпшэньня якасьці ўсёй гаспадарчай работы. Усе якасныя паказальнікі работы прамысловасьці і ў першую чаргу паказальнікі сабекошту

і прадукцыйнасьці працы павінны быць значна павышаны і ў працягу году павінны выконвацца з бязумоўнай дакладнасьцю. Бяз гэтага ня могуць быць забясьпечаны тое разгортваньне вытворства і той вялізарны плян капітальных работ, якія вызначаны для 1930-31 году.

Гэта праграма разьвіцьця прамысловасьці непарыўна зьвязана з новымі вялізарнымі заданьнямі для транспарту (чыгуначнага і воднага), прад'яўляючы да яго такія высокія запатрабаваньні, якія ня могуць быць выкананы без карэннага і хутчэйшага паляпшэньня ўсёй арганізацыі транспарту і без актыўнага ўдзелу ў гэтай справе ўсёй масы чыгуначнікаў і воднікаў—рабочых і тэхнічнага пэрсаналу.

У будучым 1930-31 г. мы павінны забясьпечыць таксама бальшавіцкія тэмпы разьвіцьця сацыялістычнага, саўгаснага і калгаснага сэктароў у сельскай гаспадарцы, выкананьне вялізарных вытворчых праграм такіх арганізацый, як «Зернотрест», «Скотовод», «Свиновод» і інш., забясьпечыўшы сацыялістычнае будаўніцтва, якое разгортваецца ў вёсцы, поўным ажыцьцяўленьнем заданьняў па вытворстве сельскагаспадарчых машын, трактараў і хэмічных угнаеньняў.

Выкананьне ўсёй гэтай гіганцкай гаспадарчай праграмы магчыма толькі пры самай актыўнай і прытым неадкладнай мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы, усіх партыйных арганізацый, усіх прафсаюзаў, усяго камсамолу і ўсіх без выключэньня гаспадарчых органаў. Неразуменьне гэтага ёсьць забыцьцё асноўнага бальшавіцкага абавязку ў справе забесьпячэньня посьпехаў будаўніцтва сацыялізму і зьяўляецца простым злачынствам перад партыяй з боку перш за ўсё кіраўнікоў гэтых арганізацый. Прызнаньне на словах генэральнае лініі партыі і няпрыняцьце на справе самых рашучых і сваячасовых мер па мабілізацыі ўсяе рабочае клясы для выкананьня гэтай гаспадарчай праграмы—ня варта бальшавікоў і прадстаўляе сабой горшы від правага апартунізму на практыцы.

Толькі неадкладным разгортваньнем работы па падрыхтоўцы выкананьня вытворчае праграмы прамысловасьці будучага году можна забясьпечыць ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця індустрыі, прынятых XVI зьездам партыі.

Важнейшай умовай выкананьня прамфінпляну будучага году зьяўляецца выкананьне прамфінпляну 1929-30 году. *Бальшавіцкая падрыхтоўка да выкананьня гіганцкай вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі заключаецца ў бязумоўным выкананьні прамфінпляну бягучага году.*

Другі год пяцігодкі—год буйнейшых дасягненьняў сацыялістычнай індустрыі. Буйная сацыялістычная прамысловасьць за 10 месяцаў павялічыла сваю валавую прадукцыю на 27 проц., паказаўшы рэкордныя тэмпы росту за ўвесь рэканструкцыйны пэрыяд. Цяжкая індустрыя, гэта аснова сацыялізму, за той-жа пэрыяд павялічыла разьмеры свайго вытворства на 39,5 проц. Аб'ём капітальнага будаўніцтва за 10 месяцаў вызначаецца ў 2,4-2,5 млрд. рублёў. Але за гэтымі посьпехамі і дасягненьнямі мы не павінны прагледзець таго сур'ёзнага прарыву, які выявіўся ў ходзе выкананьня прамысловасьцю ўстаноўленага пляну.

Прырост прамысловае прадукцыі за 10 месяцаў на 27 проц. сьведчыць аб рэзкім адставаньні ад устаноўленага плянам прыросту ў 32 проц. Ня выконваецца плян ня толькі па лёгкай індустрыі, што абумоўлівалася ў бягучым годзе ў пэўнай меры недахватам сырцу, але, што асабліва важна, значна ня выконваецца таксама вытворчая праграма па цяжкай індустрыі. Яўнае паслабленьне работы прамысловасьці за апошнія месяцы стварыла простую пагрозу зрыву прынятай партыяй і савецкай уладай гадавой вытворчай праграмы. Замест

бальшавіцкіх тэмпаў па радзе галін прамысловасьці назіраецца ў апошні час ганебнае зьніжэньне тэмпаў, апартуністычная стаўка на самацёк.

Яўна нездавальняючы таксама ход капітальнага будаўніцтва. Плян капітальнага будаўніцтва за першыя 3 кварталы выкананы менш, чым напалову. Асабліва ганебна адставаньне капітальнага будаўніцтва па «Стройоб'единению», «Всехимпрому», «Коксогазохиму», «Новостали», «Машинооб'единению», «Союзсельмашу», Гэтыя недапушчальныя зьявішчы ў капітальным будаўніцтве ствараюць пагрозу прынятым тэмпам прамысловага разьвіцьця, пагрозу выкананьню пяцігодкі за 4 гады.

Важнейшай прычынай невыкананьня вытворчых заданьняў прамысловасьці і, асабліва ў асноўных яе галінах, зьяўляецца адсутнасьць патрэбнай энэргіі і ініцыятывы ў справе мабілізацыі *ўнутраных рэсурсаў:* невыстарчальнае скарыстаньне наяўнага абсталяваньня, нізкі каэфіцыент зьменнасьці, адсутнасьць энэргіі ў перамозе «вузкіх месц» прадпрыемства, частыя прастоі абсталяваньня з-за неналаджанасьці і неарганізаванасьці матар'яльна-тэхнічнага забесьпячэньня, шматлікія аварыі з-за злачыннай нядбайнасьці і кепскага тэхнічнага кантролю, адсутнасьць сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы і крайняя нездавальняючасьць унутрызаводзкага плянаваньня. Замест бальшавіцкага змаганьня з кансэрватызмам у тэхніка-вытворчым кіраўніцтве прадпрыемтвамі, замест рэвалюцыйнай пільнасьці ў адносінах шкоднікаў і мабілізацыі актыўнасьці перадавых рабочых для садзейнасьці разгортваньню работы прадпрыемстваў, нярэдка гаспадарнікі плятуцца ў хвасьце ўскоснае часткі спэцялістых, а часамі проста шкоднікаў, не аказваюць належнага падтрыманьня больш перадавой частцы інжынэраў і тэхнікаў, адрываюцца ад рабочага актыву,, г. зн., на практыцы абмяжоўваюцца бюракратычнымі мэтадамі работы.

Найбольш адмоўна вынікі ўсяго гэтага адбіліся на машынабудаўніцтве агульным і сельска-гаспадарчым, а таксама па чорнай мэталюргіі і каменнавугальнай прамысловасьці. Так, выяўленая магчымасьць павялічэньня ў будучым годзе праграмы па машынабудаўніцтве ўдвая паказвае, наколькі вялікія нескарыстаныя рэзэрвы магутнасьці нашых прадпрыемстваў. Выкананьне з посьпехам павышаных заданьняў, напрыклад, такімі прадпрыемствамі, як Электразавод, Паўднёварудная прамысловасьць (Крывы Рог), старыя папяровыя фабрыкі зьяўляюцца рэзультатам змаганьня за скарыстаньне ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства. Аднак, такіх прыкладаў яшчэ вельмі мала, прыклады-ж коснасьці і бюракратызму ў скарыстаньні ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці сустракаюцца на кожным кроку.

Шматлікія факты яўна павялічаных патрабаваньняў на *імпартнае* абсталяваньне, бяз спробаў скарыстаць унутраныя рэсурсы прамысловасьці, зьяўляюцца адным з самых яркіх прыкладаў бюракратычных адносін гаспадарчых кіраўнікоў да сваіх абавязкаў і часта адбіваюць апартуністычнае нявер'е ў магчымасьці сацыялістычнай індустрыі. Між тым, нярэдкі яўна нягрунтоўныя спробы апраўдаць невыкананьне прамысловых заданьняў невыстарчальнасьцю імпарту. Калі-б нашы партыйныя, прафэсіянальныя і гаспадарчыя арганізацыі па прыкладзе некаторых заводаў, як ленінградзкі мэталічны завод імя Сталіна (пашырэньне турбабудаўніцтва), праявілі сапраўдную ініцыятыву ў справе скарыстаньня вытворчых рэсурсаў нашых заводаў, дык прамысловасьць атрымала-б дадатковыя магчымасьці ня толькі для выкананьня, але і значнага перавыкананьня пляну.

У радзе выпадкаў, як у нафтавай прамысловасьці, руднай прамысловасьці Ўралу і каляровай мэталюргіі, невыкананьне вытворчага пляну выклікаецца ў першую чаргу яўна нездавальняючым ходам пад-

рыхтоўчых работ-разьведак, бурэньня праходкі шахт, што стварае пагрозу далейшаму разьвіцьцю адпаведных галін індустрыі. Такое становішча асабліва недапушчальна з прычыны выключнай важнасьці гэтых галін прамысловасьці.

Асаблівае значэньне для выкананьня прамысловага пляну ў гэтым годзе мелі зьмены, што адбыліся ў гаспадарчай абстаноўцы, і якія асабліва моцна сказаліся ў пытаньні аб рабочай сіле і перш за ўсё ў пытаньні аб яе *цякучасьці*. Вялізарны размах сацыялістычнай індустрыялізацыі, уцягненьне ў сувязі з гэтым у вытворства старых кадраў рабочых і вялікіх пластоў новых рабочых, асабліва з вёскі і *адначасова* з гэтым разгорнутае калгаснае і саўгаснае будаўніцтва пры наяўнасьці да таго-ж падвышанага ўраджаю,—унесьлі буйнейшыя зьмены параўнаўча з тым пэрыядам, калі кадры беспрацоўных у гарадох былі параўнаўча яшчэ значныя, а ў дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарках асабліва востра адчуваецца лішак вольных рабочых рук.

Гэтыя зьмены ў абстаноўцы ня былі ўлічаны гаспадарчымі органамі і профсаюзамі. Між тым, у сувязі з імі стаіць, з аднаго боку, прылію у прамысловыя прадпрыемствы новых рабочых, якія не прайшлі школы буйное вытворчасьці, і нярэдка прасякнутыя дробна ўласьніцкімі, рвацкімі настроямі, і, з другога боку, адліў пэўнай часткі гэтых рабочых у вёску, асабліва ў пэрыяд уборачных работ і разьмеркаваньня ўраджаю. Замест сапраўднага ўліку абстаноўкі, якая стварылася, і прыняцьця патрэбных мер (па лініі разьвіцьця пралетарскай грамадзкасьці, адпаведнага прыстасаваньня арганізацыі забесьпячэньня рабочых, прэм'яваньне лепшых рабочых з вытворчасьці і г. д.) для замацаваньня рабочага складу на прадпрыемствах і рашучага змаганьня з рвацкімі, выпадковымі для прадпрыемства элемэнтамі (лятунамі і г. д.), гаспадарчыя органы і прафсаюзы, а таксама партыйныя арганізацыі праявілі зусім недапушчальную пасыўнасьць у гэтай справе і тым самым дапусьцілі значнае разьвіцьцё цякучасьці рабочай сілы.

Асабліва трэба адзначыць бюракратычныя адносіны да гаспадарчых задач з боку органаў Наркампрацы, а таксама некаторых прафсаюзаў. Досыць сказаць, што пры яўна выяўленым недахваце рабочых на фабрыках і заводах, у капальнях і на будаўніцтвах ва ўсіх прамысловых раёнах, органы Наркампрацы да апошняга часу абмяжоўваліся друкаваньнем бюракратычных «даных» аб сотнях тысяч беспрацоўных і выплачвалі дзесяткі мільёнаў рублёў дапамогі «па беспрацоўі», не вядучы змаганьня з рвацкімі элемэнтамі, лятунамі, якія адмаўляліся ад работы, і г. д.

Ня меншы бюракратызм і няздольнасьць да вырашэньня новых задач выявіла спажывецкая каапэрацыя, якая ня здолела правесьці патрэбную перабудову сваёй работы ў адпаведнасьці з задачай замацаваньня рабочага складу на вытворчасьці, мабілізаваць свае вытворчыя магчымасьці для сапраўднага паляпшэньня забесьпячэньня рабочых, разгарнуць масавы кантроль з боку рабочых і работніц над работай усіх органаў каапэрацыі. Адказнасьць за гэта ляжыць у пэўнай меры і на органах Наркамгандлю.

Найбольш яскравым праяўленьнем замяшанасьці гаспадарчых органаў і прафсаюзаў і няўжыцьця імі сваячасовых мер для змаганьня з цякучасьцю, што падрывае працоўную дысцыпліну і ўносіць дэзарганізацыю ў вытворчасьць, трэба прызнаць тое становішча з рабочай сілай, якое стварылася ў сувязі з новай гаспадарчай абстаноўкай на прадпрыемствах «Саюзвуглю», Уралу, на радзе будаўніцтваў і нават на паасобных прадпрыемствах Масквы і Ленінграду, і якое прывяло да буйнейшых прарываў у вытворчых праграмах.

Галоўным і рашаючым недахопам у гаспадарчай рабоце застаецца няўменьне *арганізаваць і стаць на чале бурна ўзрастаючай актыўнасьці рабочае клясы.* Ня гледзячы на гіганцкі размах сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на фабрыках і заводах, нашы гаспадарчыя, прафэсіянальныя, камсамольскія і партыйныя арганізацыі нярэдка адстаюць у гэтай справе, а часамі апартуністычна плятуцца ў хвасьце пралетарскага актыву (прыклад—Сормава і інш.).

Разьвіцьцю сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва нямала спрыяе давядзеньне заданьняў вытворчай праграмы да цэху, да брыгады, да паасобнага варштату. З другога боку, на аснове разьвіцьця пралетарскай актыўнасьці, скарыстаньня вытворчых дасягненьняў ударнікаў, іх рацыяналізатарскай ініцыятывы, а таксама сапраўднага ўліку на практыцы рабочых прапаноў у справе скарыстаньня рэзэрваў вытворчай магутнасьці, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва пераходзяць на больш высокую ступень. Гэта знаходзіць сваё адлюстраваньне ў выпрацоўцы рабочымі фабрык і заводаў *сустрэчнага прамфінпляну,* значэньне якога заключаецца ў большай эканоміі рэсурсаў прадпрыемства пры ажыцьцяўленьні вытворчай праграмы, у павышэньні якасьці прадукцыі і асабліва ў далейшым паскарэньні бальшавіцкіх тэмпаў прамысловага будаўніцтва. Сустрэчны прамфінплян набывае асабліва значэньне, як мэтад сапраўднага ўцягненьня ўсіх рабочых у справу сацыялістычнага будаўніцтва і як важнейшы сродак змаганьня з контррэвалюцыйным шкодніцтвам.

Аднак, на справе ў шмат выпадках з боку партыйных і іншых заводзкіх арганізацый ня толькі няма належнага падтрыманьня рабочай ініцыятывы ў выпрацоўцы сустрэчнага прамфінпляну, але і адсутнічае адпаведная арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва ў яго розных і ўсё новых формах («сквозные» ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), а бяз гэтага нельга забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнай індустрыі, якая разгортваецца. Усё яшчэ наглядаецца шмат выпадкаў ілжэўдарніцтва ў прамысловасьці і на транспарце, усё яшчэ шмат фармальна-бюракратычных адносін да спаборніцтва. Усё яшчэ значная частка членаў партыі не разумее ролі і абавязкаў камуністых на прадпрыемстве, як пачынальнікаў у барацьбе за выкананьне прамфінпляну.

З боку гаспадарнікаў, якія стаяць на сапраўды перадавых пастох сацыялістычнай будоўлі, нярэдка яшчэ няма сьвядомасьці выключнай адказнасьці за сваю справу і няма разуменьня бязумоўнай абавязковасьці—цьвёрдае правядзеньне адзінаначальля на прадпрыемстве злучыць з уменьнем абаперціся ва ўсёй сваёй рабоце на партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі, на ўвесь камуністычны і беспартыйны актыў рабочых і работніц.

Буйнейшыя недахопы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва знайшлі сваё адлюстраваньне ў выяўленых вытворчых прарывах і ў сур'ёзьнейшай пагрозе зрыву прамфінпляну гэтага году, якая стварылася.

Становішча, якое стварылася ў прамысловасьці, патрабуе рашучых і неадкладных мер па мабілізацыі сіл усёй партыі і ўсяе рабочае клясы для выкананьня прынятага партыяй прамысловага пляну бягучага году. Гэта тым больш неабходна і тым больш неадкладна, што ліквідацыя выяўленага прарыву ў прамфінпляне зьяўляецца асноўнай умовай для забесьпячэньня выкананьня вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі.

З гэтага вынікаюць наступныя асноўныя *задачы* партыі і ўсяе рабочае клясы:

1. Усе сілы партыйных і камсамольскіх арганізацый, прафсаюзаў і гаспадарчых органаў на разьвіцьцё справы *сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва,* на падтрыманьне ініцыятывы рабочых у гэтай справе ва ўсіх яе формах («сквозные» ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), усе сілы—на разгортваньне *сустрэчнага прамфінпляну* на фабрыках і заводах, у капальнях і на будаўніцтвах, на чыгуначным і водным транспарце.

ЦК цалкам і поўнасьцю падтрымлівае ініцыятыву ЎсеЦСПС па арганізацыі на працягу верасьня разгорнутай кампаніі прафсаюзаў за сустрэчны прамфінплян, за арганізацыю *1-га кастрычніка ўсесаюзнага «дня ўдарніка».* ЦК паказвае на тое, што толькі пры неадкладным, і прытым не на словах, а на справе, уцягненьні ў гэту канпанію ўсіх прафсаюзных арганізацый, яна зробіцца сапраўдным сродкам ліквідацыі прарываў у прамысловым пляне і забясьпечыць выкананьне вытворчай праграмы.

2. Неадкладна правесьці мерапрыемствы, якія забясьпечваюць рашучае ўмацаваньне *працоўнай дысцыпліны* і сапраўднае змаганьне з расхлябанасьцю, прагуламі. Гэтыя мерапрыемствы павінны забясьпечыць хутчэйшы пералом у справе ўзьняцьця прадукцыйнасьці працы і ажыцьцяўленьня на справе адзінаначальля ў гаспадарчым кіраўніцтве, без чаго немагчыма перамаганьне затрудненьняў, якія стварыліся ў прамысловасьці.

3. Забясьпечыць разьвіцьцё вытворча-тэхнічнай ініцыятывы *інжынэраў і тэхнікаў* і ўсямерна фарсаваць выпрацоўку новых кадраў з рабочае клясы, больш сьмела і настойліва высоўваючы перадавікоў—рабочых і асабліва рабочых-арганізатараў спаборніцтва на гаспадарчыя пасты, перамагаючы пры гэтым ускоснасьць, бюракратызм і апартуністычнае нявер'е ў сілы рабочае клясы.

4. У мэтах барацьбы з *цякучасьцю* на прадпрыемствах, правесьці сыстэму мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць замацаваньне рабочых на вытворчасьці шляхам адпаведнага разьвіцьця пралетарскай грамадзкасьці, правядзеньня самаабязвязацельстваў рабочых перад пралетарскай грамадзкасьцю аб рабоце на даным прадпрыемстве ня менш пэўнага тэрміну і ўжываньня ўсіх мер грамадзкае ўзьдзейнасьці аж да байкоту злосных дэзэртыраў з вытворчасьці, а таксама ўстанаўленьня сыстэмы розных форм прэм'яваньня і забесьпячэньня, якія стымулююць працяжныя тэрміны прабываньня рабочага на заводзе.

З прычыны неадпаведнасьці раду законадаўчых норм і, у прыватнасьці, палажэньня аб біржах працы ў цяперашняй гаспадарчай абстаноўцы, тэрмінова зрабіць перагляд гэтых норм пад кутом погляду скасаваньня іх у тэй іх частцы, якая ўскладняе змаганьне з лятунамі, дэзэртырамі з вытврчасьці і г. д., і разам з тым забясьпечыць узмоцненае ўцягненьне ў вытворчасьць рабочай моладзі, а таксама жонак рабочых і іншых працоўных.

5. Арганізацыя справы *забесьпячэньня рабочых* мае важнейшае значэньне ў справе выкананьня прамфінпляну. У мэтах паляпшэньня арганізацыі разьмеркаваньня, каапэрацыі трэба разгарнуць апраўдаўшыя сябе такія яго формы, якія ў найбольшай меры забясьпечваюць інтарэсы вытворчых рбочых (закрытыя разьмеркавальнікі, прымацаваньні карточкамі, талёнамі і г. д.) і фарсаваць у прамысловых раёнах кражамі ў каапэрацыйным апараце, узмоцненыя рэпрэсіі за злоўжываньні картачкамі, талёнамі і г. д.) і фарсаваць у прамысловых раёнах арганізацыю прыгарадных гаспадарак (агародных, малочных, жывёлагадоўчых). Партыйныя, прафэсіянальныя, камсамольскія і гаспадарчыя арганізацыі павінны аказаць усякую дапамогу разьвіцьцю сама-

дзейнасьці рабочых у гэтай справе, умацаваць каапэрацыю і ўсямерна ўзмацніць разьвіцьцё масавага кантролю рабочых і работніц над работай каапапарату.

6. *Друк* правёў на аснове разгортваньня самакрытыкі вялікую работу ў справе мабілізацыі рабочых мас для выкананьня прамфінпляну. Разам з тым, у шмат якіх выпадках, абмяжоўваючыся павярхоўнай кампанейскай агітацыяй, друк не дабіўся завастрэньня змаганьня рашаючых канкрэтных недахопаў гаспадарчай работы і не спраўляўся з задачай сваячасовай арганізацыяй мас вакол новых пытаньняў, якія высоўваліся зьменамі ў гаспадарчай абстаноўцы.

7. Рашучае змаганьне з паслабленьнем тэмпу работы ў сувязі з летнімі *адпускамі,* які набыў у радзе гаспадарчых органаў агідную форму пакіданьня ўстаноў бяз кіраўніцтва і які прадстаўляе адну з сур'ёзьнейшых перашкод для выкананьня бягучага прамфінпляну і падрыхтоўкі да трэцяга году пяцігодкі. Без неадкладнага і рашучага выкараненьня дэмабілізацыйных настрояў гэтага году, якія зьяўляюцца адным з яўных праяўленьняў апартунізму на практыцы, мабілізацыя партыйных сіл і рабочых для ліквідацыі прарыву і выкананьня вытворчых заданьняў застанецца толькі словамі.

Такавы важнейшыя задачы сёньняшняга дня.

Вытворчая праграма бягучага году і гаспадарчы плян трэцяга году пяцігодкі азначаюць практычную праграму сацыялістычнага будаўніцтва і разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце. Ня гледзячы на выяўленыя буйнейшыя недахопы ў ажыцьцяўленьні вытворчых заданьняў, будаўніцтва сацыялізму пераможна прасоўваецца наперад, бязьлітасна зьнішчаючы на сваім шляху ўсякія спробы супраціўленьня клясавага ворага (кулакоў, контррэвалюцыйных шкоднікаў, буржуазных рэстаўратараў, у тым ліку і тыпу Громана, Кандрацьцева, Суханава). Правыя панікёры, гэтыя падгалоскі кулацтва і трацкісцкія элементы, якія на справе абярнуліся з учарайшых «левых» у фактычных падпявалаў правых апартуністых, а таксама ўсякага роду прымірэнцы да правых і трацкістых, зьяўляюцца выказьнікамі буржуазнага ўплыву на пралетарыят, і таму праніканьне ў партыйнае асяродзішча ўсякага роду апартуністычных настрояў, якія падрываюць баяздольнасьць пралетарыяту ў яго разгорнутым наступленьні на капіталістычныя элемэнты, павінна сустрэць рашучы бальшавіцкі адпор. Гэта зьяўляецца асноўнай умовай пераможнага прасоўваньня сацыялізму ўперад і, забясьпечваючы бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, тым самым зьяўляецца прадпасылкай перамогі труднасьцяй, што стаяць на шляху гэтага будаўніцтва.

Перамаганьне труднасьцяй, якія стаяць перад намі, перш за ўсё залежыць ад нашай работы, ад нашага ўменьня весьці пасьлядоўнае і непрымірымае змаганьне з расхлябанасьцю, разгільдяйствам і бюракратызмам у нашых органах, і асабліва ад нашай здольнасьці мабілізаваць рабочую клясу, якая зьяўляецца крыніцаю хутка ўзрастаючай і проста невычарпальнай рэвалюцыйнай энэргіі, для справы барацьбы за камунізм.

Прамфінплян стаіць пад ударам. Гэтым ставіцца пад удар праграма трэцяга году пяцігодкі. Зробім з гэтага бальшавіцкі вывад:

Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы—на выкананьне прамфінпляну, на забесьпячэньне праграмы трэцяга году пяцігодкі!

**Цэнтральны Камітэт**
**Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў.**

**С. Б. Традыцыя**

# На новым уздыме [1])

Польшча заўсёды была найбольш слабым зьвяном у сыстэме пасьляваеннай стабілізацыі. Рэволюцыйныя традыцыі рабочае клясы т. зв. «конгрэсувкі», г. зн., тае часткі Польшчы, якая была окупавана расейскім царызмам, з аднаго боку, надзвычайна цяжкое экономічнае становішча краіны, якая была тэатрам непасрэдных вайсковых дзеяньняў і была разбурана дашчэнту нямецкімі окупантамі, з другога боку, рабілі становішча кіруючых і заможных клясаў Польшчы вельмі хісткім і няўстойлівым.

Польшча апошняй увайшла на рэйкі капіталістычнай стабілізацыі і першай зышла з гэтых рэек пасьля кароткатэрміновага ўздыму 26-27 г. г. Экономічны крызіс вось ужо другі год трэпле фашысцкую Польшчу. Сусьветна-экономічны крызіс, які ў свой кругазварот уцягнуў нават найбольш магутную імпэрыялістычную дзяржаву капіталістычнага сьвету САЗШ, надзвычайна пагоршыў і да таго катастрофічнае становішча Польшчы.

Сусьветна-эконом. крызіс, узьнікшы на глебе агульнага крызісу капіталістыч. сыстэмы і страшэнна абвастрыўшы гэты апошні ў цэлым шэрагу капіталістычн. дзяржаў, перарастае ў агульна-політычн. крызіс. Польшча зьяўляецца аднэй з першых краін капіталістычн. сьвету, у якіх экономічны крызіс усё шырэй перарастае ў агульна-політычны.

Спробы буржуазіі перакласьці цяжар крызісу на плечы рабочае клясы і эксплёатуемых працоўных мас сялянства, а таксама зьняволеных імпэрыялістычнай Польшчай народаў (З. Беларусь і З. Украіна) выклікалі вялічэзны ўздым працоўных мас зьняволеных народаў.

Барацьба рабочае клясы, у тым ліку найбольш прыгнечанай яго часткі—неорганізаваных рабочых, прымае пад кіраўніцтвам компартыі ўсё больш яскравы наступальны характар.

Вялічэзныя масы беспрацоўных, якія складаюць звыш ⅓ усяе рабочае клясы Польшчы (апошнія ⅔ у большасьці выпадкаў працуюць ня поўны тыдзень), адыгрываюць усё больш рашучую ролю ў барацьбе рабочае клясы. Дэмонстрацыі беспрацоўных прамысловых цэнтраў карэннай Польшчы, роўна і окупаваных вобласьцяй Зах. Беларусі і Зах. Украіны прымаюць характар крывавых сутычных боек з паліцыяй і фашысцкімі «боюўкамі» (баявымі дружынамі). Падзеі ў Згержы, Дамброўскім раёне, Беластоку, Вільні зьяўляюцца яскравым паказальнікам рэволюцыйнай напружанай сытуацыі і баявой рашучасьці мас. Ня менш яскравым паказальнікам зьяўляецца таксама ход шэрагу кампаній, якія праводзіліся компартыяй Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіны, як, напрыклад, першамайская кампанія, а таксама кампанія барацьбы з беспрацоўем 6 сакавіка і г. д.

---

1) Гл. „Б. Б.“ № 1-2 і 3-4 за 1930 г. Аддзел матар'ялаў-рэзолюцый аб сытуацыі на З. Б і аб дзейнасьці КПЗБ (Рэд. „Б. Б.“).

Рэволюцыйны рабочы рух знаходзіць моцнае падтрыманьне ў барацьбе сялянскіх мас, абураемых усёй політыкай фашысцкага ўраду і ходам аграрнага крызісу. За апошні час пад уціскам падатковага прэсу сялянскія масы Польшчы прымушаны збываць прадукты свае працы па надта нізкіх цэнах, прыкладна, 100 кілё бульбы сяляне прымушаны прадаваць па аднаму злотаму, г. зн., па 22 к. У той жа час цэны ў раздроб і на прамысловыя і на сельска-гаспадарчыя продукты, якія прымушаны купляць рабочыя і сяляне, трымаюцца спэкулянтамі на надзвычайна высокім монополістычным узроўні.

Барацьба сялянскіх мас накіравана, у першую чаргу, супроць фашысцкай падатковай політыкі. Сяляне адмаўляюцца плаціць падаткі, якія вынаходны ўрад Пілсудзкага накладае на сялян у вялікай колькасьці. Акрамя таго, сяляне вядуць жорсткую барацьбу з натуральнымі павіннасьцямі, пры дапамозе якіх фашысцкі ўрад спрабуе, для разгортваньня свае авантурнай вайсковай антысавецкай політыкі, павялічыць даходнасьць казны. Нездаволенасьць сялян асабліва выклікаюць «шарваркі» (гужавая павіннасьць), якія шырока прымяняюцца ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне, дзе яны служаць непасрэдна справе падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

Сялянскія абурэньні выклікаюцца таксама аграрнай політыкай фашысцкага ўраду, які мае на мэце ўзбагаціць памешчыкаў, паляпшае экономічнае і політычнае становішча кулацтва.

«Дзікая парцэляцыя», г. зн., распродаж па надзвычайна ўзьвінчаных цэнах асобных кавалкаў няўдобнай або гаспадарча-непатрэбнай памешчыку зямлі, падлягае найбольш жорсткім нападкам з боку шырокіх сялянскіх мас, якія пакутуюць ад зямельнага голаду і беспрацоўя.

«Дзікая парцэляцыя» выгодна памешчыку, бо яна дае яму прыбыткова-зваротныя сродкі ў гаспадарцы. Яна выгодна і кулаку, які можа пашыраць сваю зямельную плошчу і павялічваць свае магчымасьці эксплёатаваць батракоў, безьзямельных і малазямельных сялян.

Фашысцкі ўрад ставіць сваёй задачай энэргічную дапамогу пераходу памешчыцкіх гаспадарак на рэйкі капіталістычнай продукцыі шляхам ліквідацыі для памешчыкаў перажыткаў фэўдалізму. Ён ліквідуе ў прымусовым парадку так зв. сэрвітуты, г. зн., права сялян зьбіраць ягады, грыбы, сухастой у памешчыцкіх лясох, пасьвіць сваю карову і на сенажаці памешчыка. Гэтае сэрвітутнае права, узьнікшае ў пэрыод захвата ў асабовую ўласнасьць памешчыкамі абшчынных удоб'яў, мае аграмаднае значэньне для бяднейшых і серадняцкіх гаспадарак, бо толькі на аснове гэтага права бедната і серадвякі, пазбаўлены выгану, ня могуць трымаць кароўку, сьвіньню і авечкі.

Пры ліквідацыі сэрвітутаў памешчык звычайна выдзяляе ў якасьці эквівалентаў кавалак нядобрай зямлі або аплачвае сялянству вызначаную суму грашыма, прызначаную ўрадавым комісарам. Кулак або буйна-заможны селянін ахвотна прыбірае да кішэні дадатковы кавалак зямлі, або сьцягвае грашыма вядомую суму. З прычыны таго, што разьдзел ідзе па колькасьці гэктараў зямлі ў гаспадарцы, дык кулаку простая выгада згадзіцца на ліквідацыю сэрвітутаў. Бедната-ж і маламоцныя серадвякі дзякуючы гэтаму разбураюцца, бо яны атрымліваюць няўдобную зямлю, якую яны скарыстаць ня могуць, або нязначную колькасьць грошай, ад якой таксама ніякай карысьці ня маюць, губляючы адначасова пашу для свае жывёлы.

Гэта шлях разбурэньня шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас, з аднаго боку, і з другога—шлях узбагачэньня вясковай верхавіны і ўмацаваньня памешчыцкай гаспадаркі на капіталістычнай аснове.

Фашысцкі ўрад, ня гледзячы на ўпартае супраціўленьне беднаты і серадняцтва ліквідацыі сэрвітутаў, змог у значнай частцы ліквідаваць іх ня толькі ў карэннай Польшчы, дзе яны былі менш распаўсюджаны, але і ў Заходняй Беларусі і ў Заходняй Украіне.

Нарэшце, фашысцкі ўрад праводзіць так званую комасацыю, г. зн. зямляўпарадкаваньне, пры чым увесь цяжар гэтага зямляўпарадкаваньня падае на бядняцка-серадняцкія масы; у выніку тое, што, калі трэба плаціць, дык буржуазія робіцца гарачай прыхільніцай поўнай роўнасьці. Такім чынам, і на памешчыцкі двор, і на кулацкую гаспадарку, і на бедняка, і на серадняка падае аднолькавая сума выдаткаў па комасацыі, якая і разбурае асноўныя масы сялянства. Даволі сказаць, што ў асобных выпадках сума, якая спаганяецца за зямляўпарадкаваньне з асобнай бядняцкай або серадняцкай гаспадаркі, раўняецца 1000 злотых, што складае сур'ёзную частку (іншы раз ⅓-½) каштоўнасьці ўсяе бядняцка-серадняцкай гаспадаркі.

Супроць фашысцкай зямельнай політыкі і, у першую чаргу, супроць яе падатковай політыкі вядуць непрымірлівую барацьбу асноўныя масы сялянства. Барацьба гэта прымала характар організаваных выступленьняў у выглядзе дэмонстрацый, мітынгаў, організаванага адмаўленьня ад выплаты падаткаў і выкананьня павіннасьцяй, падпалу памешчыцкіх маёнткаў і кулацкіх гаспадарак. Абурэньне асноўных сялянскіх мас знайшло свой адбітак і ў часе перавыбараў мясцовых самакіраўніцтваў і ў сойм. З аднаго боку, гэта абурэньне вылілася ў форму ўсеагульнага байкоту выбараў, што, вядома, адбілася на недаверлівасьці сялянскіх мас да ўсіх «дэмократычных» установаў фашысцкай дыктатуры. З другога боку, на грунце гэтых настрояў былі банкруцтва на выбарах партыі ўрадавага блёку, а таксама шэраг соцыял.- нацыянал.- народніцкіх фашысцкіх партый. У большасьці выпадкаў на выбарах перамагалі антыфашысцкія рэволюцыйныя рабоча-сялянскія сьпісы або тыя з народніцкіх фашысцкіх партый, якія змаглі хутка прыстасавацца да растучай радыкалізацыі сялянскіх мас і абярнуць яскрава «левыя» ў яўна рэволюцыйныя лёзунгі і гэтым пасеяць у масах ілюзіі, што яны сапраўды вядуць барацьбу супроць фашысцкага ўраду.

Уздым рэволюцыйнай хвалі і ўсё абвастраючыся экономічны крызіс выяўляе зародкі распаду ў фашысцкім лягеры. У фашысцкім лягеры, які ідзе пад гэгемоніяй кіруючай фашысцкай клікі пілсудчыкаў, праяўляецца ўсё больш элемэнт разброду. Бязумоўна, у вачох значнай часткі сярэдняй буржуазіі і верхавінных пластох дробнай буржуазіі аўторытэт Пілсудзкага значна пахіснуўся. Гэтыя пласты шукаюць новага збаўца. Тым тлумачацца сур'ёзныя перамогі над урадавым блёкам старой партыі польскай буржуазіі—нацыянал-дэмократаў (эндэкаў), якія ідуць пад кіраўніцтвам вядомага Рамана Дмоўскага. Аднак, хаця ў кіруючым лягеры зьяўляюцца шчыліны, неабходна падкрэсьліць, што армія, паліцыя, дзяржапарат яшчэ моцна і надзейна падпарадкаваны пілсудчыкам. Праўда, за апошні час рэволюцыйная барацьба рабочае клясы і выступленьні сялянскіх мас знайшлі адбітак ў шэрагах польскай арміі. Цэлы шэраг салдацкіх хваляваньняў, асабліва хваляваньні новабранцаў, паказваюць, што ўстойлівасьць гэтай апоры фашысцкага ўраду становіцца ўсё больш проблематычнай.

Усе гэтыя факты сыгналізуюць, што ў Польшчы разгортваецца процэс нарастаньня, хоць і няроўнамерна, элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі.

У Заходняй Беларусі, якая пакутуе ад нацыянальнага прыгнёту польскай окупацыі і ад колёніяльных форм эксплёатацыі краіны польскай буржуазіяй, якая ідзе поплеч з мясцовай «бацькаўскай» беларускай

буржуазіяй, нарастаньне элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі ідзе яшчэ больш шпаркім тэмпам, чым у карэннай Польшчы. Рост рэволюцыйнай барацьбы працоўных мас Заходняй Беларусі выклікае сур'ёзны непакой ня толькі сярод польскіх памешчыкаў і фашысцкіх чыноўнікаў, якія прадстаўляюць окупанцкую ўладу, але і сярод «бацькаўскай» беларускай буржуазіі. Беларуская буржуазія, пад уплывам абвастрэньня клясавай барацьбы ў Заходняй Беларусі і дасягненьняў социялістычнага будаўніцтва ў БССР, рэзка павярнула са шляху опозыцыі супроць польскай окупацыі, са шляху барацьбы за «незалежную» буржуазную беларускую рэспубліку на шлях цясьнейшага саюзу і супрацоўніцтва з польскім фашызмам. У сваёй клясавай нянавісьці да рэволюцыйнай барацьбы працоўных і эксплёатуемых мас Заходняй Беларусі беларуская буржуазія стала простаю зброяй замацаваньня польскай окупацыі ў З. Б., простай зброяй полёнізатарскай політыкі польскага фашызму. Ва ўсіх подступах польскага фашызму супроць БССР і СССР беларуская буржуазія прымае актыўны ўдзел і прымае на сябе ролю павадыра. Яна зьяўляецца агентам і саюзьнікам польскай буржуазіі ў справе падрыхтоўкі вайсковага нападу на БССР, у справе паднявольненьня беларускіх працоўных мас польскім імпэрыялізмам.

Польскі фашызм, які разьдзіраецца рэволюцыйным рухам, экономічным крызісам, зрабіў беларускай буржуазіі шэраг уступак, якія дапамагаюць палегчыць гэтай апошняй яе здрадніцкую работу. Вядуцца размовы аб адчыненьні беларускай настаўніцкай сэмінарыі. Прэзыдэнт Мосьціцкі прыняў дэлегацыю беларускіх контррэволюцыйных дзеячоў з Астроўскім на чале і «милостиво» вёў з імі размову. Аднак усе гэтыя манэўры польскага фашызму і беларускага нацыянал-фашызму ня прыводзяць да жаданых для фашыстаў вынікаў. Лідзкія і Сьвянцянскія выбары паказваюць, што беларускі нацыянал-фашысцкі лягер ад Луцкевіча і Янкі Станкевіча да Ярэміча і беларускай хр. дэ-тыі (хрысьціянскай дэмократыі) ізаляваны рэволюцыйным беларускім нацыянальным вызваленчым рухам, у якім прымаюць удзел рабочая кляса і шырокія працоўныя масы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. На выбарах гэты лягер панёс поўнае паражэньне і выявіў сваё банкруцтва.

У беларускай вёсцы і ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху ўзмацняецца і пашыраецца ўплыў комуністычнай партыі Зах. Беларусі, якая становіцца ўсё больш аўторытэтным кіраўніком усяго рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

Разам з нарастаньнем элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі ў Польшчы і ў З. Б. выяўляецца ўсё больш контррэволюцыйная роля беларускай буржуазіі. Беларуская буржуазія, у асобе сваіх нацыянал-фашысцкіх партый, пераходзіць усё больш да простай барацьбы супроць рабочае клясы і асноўных мас сялянства. Баявыя дружыны нацыянал-фашыстых імкнуліся разграміць пад аховай польскай паліцыі памяшканьне краявога сэкратарыяту беларускага рабоча-сялянскага соймавага клюбу «Змаганьне». Гэтыя банды атрымалі надзвычайна рашучы адпор ад віленскага пролетарыяту. Фактам, аднак, застаецца, што беларуская буржуазія пераходзіць да тых мэтодаў, якія яна скарыстала ў гады рэволюцыі і грамадзянскай вайны ў 1917-20 г. г., калі Некрашэвічы, Луцкевічы, Ластоўскія пасылалі вернападданыя тэлеграмы Вільгельму або францускаму генэралу Бэртэлё, калі яны організавалі сваю «армію» ў выглядзе атрадаў бандыта Булак-Балаховіча і прадаваліся разам і ў розьніцу кожнаму, хто мог даць адпор бальшавіцкай рэволюцыі беларускіх працоўных мас. У сучасны момант мы зноў назіраем нарастаньне і выяўленьне элемэнтаў грамадзянскай бойкі ўнутры бе-

ларускай грамады, як гэта мела месца ўжо ў час кастрычніцкіх боек, калі беларускія рабочыя і сяляне клалі падмурак Савецкай рэспублікі.

Характэрнай адзнакай рэволюцыйнага руху за апошні час зьяўляецца выраўніваньне фронту барацьбы ў горадзе і вёсцы. Актыўнасьць вясковых мас значна ўзьнялася і пачынае ісьці ў ногу з рэволюцыйнай барацьбой у гарадох.

Рэволюцыйная барацьба за апошні час усё больш паказвае на той факт, што масы пераходзяць у наступленьне на фашысцкую дыктатуру. Пры сутычках з поліцыяй масы ўсё часьцей даюць актыўнае супраціўленьне і пераходзяць у большасьці выпадкаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў контрнаступленьне на поліцыю і фашысцкія баявыя дружыны. У рабочых і сялянскіх дэмонстрацыях усё часьцей выяўляе актыўную ролю масавая рабоча-сялянская самаабарона, якая абараняе штандары і рэволюцыйных прамоўцаў. Праўда, у гэтай галіне работы дасягненьні комуністычнай партыі далёка недастатковыя. Перад тварам насьпяваючых рэволюцыйных здарэньняў фашысцкі ўрад усё настойлівей шукае выхаду ў шалёным тэроры і падрыхтоўцы вайны. Фашысцкі тэрор прымае самы жудасны характар. Ён мяжуецца з мэтодамі грамадзянскай вайны. У першую чаргу, фашысцкі тэрор накіраваны супроць комуністычнай партыі, як авангарду рэволюцыйных мас. Ён разьлічан на фізычнае зьнішчэньне перадавікоў рэволюцыйнага руху. За распаўсюджваньне лістовак суды фашысцкай Польшчы, асабліва на так званых «усходніх крэсах», г. зн. на З. Б. і З. У„ выносяць прысуд да пакараньня сьмерцю. За прыналежнасьць да партыі прысуды фашысцкага суду даюць максымальнае пакараньне, прадугледжанае *царскім крымінальным кодэксам,*—восем гадоў катаргі. Пераапранутыя поліцэйскія і фашысцкія баявікі зьбіваюць да страты прытомнасьці рабоча-сялянскіх паслоў і радыкальных грамадзкіх дзеячоў. Пад відам провокатарскіх абвінавачваньняў арыштоўваюцца рабоча-сялянскія дэпутаты (арышт комдэпутата Жарскага).

Абвастраючы да крайнасьці тэрор, фашысцкі ўрад шалёна рыхтуецца да вайны, бяручы па прыкладу царскага ўраду стаўку на вайсковы разгул шовінізму, які павінен адцягнуць увагу мас ад соцыяльных проблем, ад рэволюцыі. У гэтых умовах разгортваецца работа і барацьба комуністычнай партыі З. Беларусі, якая складае разам з комуністычнай партыяй Заходняй Украіны частку комуністычнай партыі Польшчы, сэкцыі Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

## Унутрыпартыйнае становішча КПЗБ

Асноўнай задачай КПЗБ ва ўмовах усё паглыбляючагася распаду капіталістычнай стабілізацыі і абвастраючагася палітычнага крызісу фашысцкай дыктатуры ў Польшчы, які разгортваецца на фоне нарастаньня ўсеагульнага крызісу сусьветнай капіталістычнай сыстэмы, згодна рашэньням X пленуму ВККІ, XI пленуму ЦККПП і III пленуму ЦК КПЗБ зьяўлялася барацьба за заваёву большасьці рабочае клясы, за ўзмацненьне гэгемоніі пролетарыяту ў адносінах сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху, за ўзмацненьне кіраўніцтва партыі ў гэтай галіне, як важнейшай умовы і прадпасылкі ў справе падрыхтоўкі рашучых боек, за нізьвяржэньне фашысцкай дыктатуры пролетарыяту —рабоча-сялянскага савецкага ўраду.

Умовамі пасьпяховага выкананьня гэтай асноўнай, на даным этапе, задачы зьяўляліся організацыя рабочае клясы і працоўных мас на базе іх штодзённай барацьбы за іх непасрэдныя экономічныя і палітычныя інтарэсы і патрабаваньні, самастойная падрыхтоўка і разгорт-

ваньне гэтай барацьбы насуперак соцыял-фашыстым на аснове рашучага прымяненьня тактыкі *адзінага фронту зьнізу,* самы шырокі ахоп парткіраўніцтвам гэтай барацьбы і далейшае прасоўваньне ўперад, але ня інакш, як разам з масамі і на чале іх, не адрываючыся ад іх, значыць не адрываючыся ад разьвіцьця іх рэволюцыйнасьці, але і не забягаючы наперад, непераскокваючы няўхільных этапаў барацьбы.

Прыступіць як найбліжэй да вырашэньня асноўных задач, якія стаяць на даным этапе перад КПЗБ, можна было-б толькі пры ўмове консолідацыі партыі навакол адноўленага кіраўніцтва КПП і КПЗБ на аснове правільнай комінтэрнаўскай лініі і непрымірлівай барацьбы супроць правай небясьпекі, якая застаецца галоўнай на даным этапе, супроць носьбітаў правай небясьпекі ў КПП, на чале якой стаяла група Костышава, Сьцяфанскага і Бранда, а таксама пры ўмове непрымірлівай барацьбы супроць «левых» загібаў і прымірэнцтва да ўсіх гэтых відаў опортунізму. ЦК КПЗБ правільна вёў рашучую барацьбу за консолідацыю партыі супроць правага і «левага» опортунізму і прымірэнцкіх адносін да іх, а таксама з рэшткамі фракцыйнасьці, самым рашучым чынам перамагаючы вынікі доўгай фракцыйнай барацьбы, якая не магла адмоўна не адбіцца на організацыйным становішчы партыі, паслабляючы консьпірацыю партдысцыпліны, шкодзячы адзінству дзеяньняў і паніжаючы тым самым баяздольнасць партыі. ЦК КПЗБ пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б правільна вёў барацьбу за консолідацыю партыі, прымяняючы ў асобных выпадках у выглядзе крайняй меры меры організацыйнага парадку і сконцэнтроўваючы агонь партыйнай крытыкі на непапраўных опортуністых, на ўпартых фракцыянэрах і тых таварышох, якія лічылі магчымым набліжацца да партыйнай лініі з боем і на тормазох. Адначасова ЦК рашуча прыцягваў да працы ўсіх апошніх таварышоў, ня гледзячы на іх мінулую фракцыйную орыентацыю і давяраючы ім кіруючыя позыцыі ў партыі. Партыя таксама своечасова ліквідавала організацыйныя прарывы, якія зьявіліся вынікам рашучай атакі фашысцкай дыктатуры на рабочую клясу, у першую чаргу, на яго авангард—комуністычную партыю. У выніку большасьць разбураных поліцыяй партыйных організацый адноўлена.

*Рэалізацыя правільнай палітычнай лініі партыі,* якую намеціў X пленум ВККІ, якая разьвівалася стасоўна да ўмоў Польшчы XI пленумам ЦК КПП і была конкрэтызавана для З. Б. III пленумам ЦК КПЗБ, абумоўлівалася ня толькі бязьлітаснай барацьбой з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і «левым» опортунізмам—няглясным пасобнікам правых, якія выступалі часта супроць лініі КПП і КПЗБ пад прыкрыцьцём фраз, узятых з арсэналу «левых» загібшчыкаў, і рашучым адпорам прымірэнцам да ўсіх відаў опортунізму. *Гэтая рэалізацыя ўпіралася ў проблему хуткай перабудовы організацыйнай структуры партыі і выразнага вызначэньня і ажыцьцяўленьня новых задач організацыйнай політыкі партыі.*

Рэорганізацыя партапарату і мэтодаў партыйнай работы праведзена была ў духу рашэньняў III зьезду КПП, шляхам далейшага разгортваньня фабрычна-заводзкіх і фальваркавых ячэек, далейшага і пасьлядоўнага выцясьненьня імі ячэек, організаваных па тэрыторыяльнаму і профэсіянальнаму прынцыпу. Рэорганізацыя адбівалася пад лёзунгам—павярнуць партыю тварам да фабрык, заводаў, чыгунак і фальваркаў. Аднэй з задач рэорганізацыі было аднаўленьне і пашырэньне партактыву і вылучэньне новых партыйных кадраў у горадзе і вёсцы, у першую чаргу, вылучэньне нізавога партактыву, што мела і мае сур'ёзнае значэньне ў сувязі са значным зьмяншэньнем гэтых кадраў, па-першае, у выніку абвостранага шалёнага фашысцкага тэрору і,

па-другое, у выніку фракцыйнай барацьбы. Работа партыі і партыйнага кіраўніцтва ў гэтай галіне была далёка недастаткова і патрабавала рэзкага пераломy. Адным з асноўных падважнікаў рэарганізацыі партапарату, ажыўленьня ўсяе партыйнае работы і хуткага, на хаду, выпраўленьня дапушчаных памылак зьяўляецца *бальшавіцкая самакрытыка*. Гэты мэтод узьняцьця рэволюцыйнай актыўнасьці членаў партыі і цэлых партыйных організацый ва ўмовах *нелегальнай работы мае рашучае значэньне*. Бальшавіцкая самакрытыка зьяўляецца адным з сур'ёзных стымулаў політычнага росту партыйнай організацыі КПЗБ, а таксама вылучэньня і выхаваньня новых пластоў партактыву. Самакрытыка ўзмацняе адначасова і рост давер'я працоўных мас у адносінах да партыі. Да гэтага часу самакрытыка ня была штодзённым мэтодам работы ўсяе партыйнай організацыі зьнізу да верху. Яна прыстасоўвалася ад выпадку да выпадку і, галоўным чынам, у верхавінных парторганізацыях. У сучасны момант прымаюцца меры, каб замацаваць і пашырыць тыя нясумненныя посьпехі, якія КПЗБ мае ў справе ўкараненьня самакрытыкі і ў мэтоды работы ўсяе партыйнай організацыі. КПЗБ паставіла сабе задачай, каб самакрытыка, як мэтод штодзённага контролю работы, стала даступнай кожнай ячэйцы, кожнаму гаркому, райкому, як і ўсім вышэйстаячым партыйным органам.

Ня меншае значэньне для ажыўленьня партыйнай работы, узьняцьця актыўнасьці партыйных мас, падвышэньня якаснага боку партыйнай работы, узьняцьця політычнага ўзроўню і баяздольнасьці парторганізацый, узмацненьня іх організацыйнай гнуткасьці і мобілізацыйных здольнасьцяй мае новы мэтод работы—соцыялістычнага спаборніцтва, правераны на практыцы соцыялістычнага будаўніцтва СССР і параены X пленумам ВККІ ўсім сэкцыям Комінтэрну. Аднак, ва ўмовах КПЗБ гэты мэтод работы яшчэ ня вышаў з галіны пропаганды.

Правільная партыйная лінія, якая ажыцьцяўляецца ЦК КПЗБ *няўхільна* і пасьлядоўна шляхам рэорганізацыі партапарату, і новыя мэтоды партработы дапамаглі партыі дабіцца шэрагу сур'ёзных політычных і організацыйных посьпехаў. Сярод гэтых посьпехаў на першым месцы трэба паставіць поўную консолідацыю КПЗБ навокал аднаўленага кіраўніцтва КПП і ЦК КПЗБ на правільнай комінтэрнаўскай лініі. ЦК КПЗБ пад кіраўніцтвам аднаўленага ЦК КПП правёў пасьпяховую ліквідацыю перажыткаў фракцыйнасьці і фракцыйнай барацьбы ў мясцовых партыйных організацыях. Адначасова неабходна падкрэсьліць, што сярод таварышоў, якія ўваходзілі ў мінулым у склад актыву фракцыі былой правай большасьці ЦК КПП, або зьяўляўшыхся ў мінулым складанай часткай кіруючага цэнтру гэтай фракцыі на З. Б., маюць месца рэцэдывы фракцыйнасьці (фракцыйныя дакуманты, якія захоўваліся ад партыі ўжо пасьля III пленуму ЦК КПЗБ, беспрынцыповыя спробы дыскрэдытаваць кіраўніцтва КПЗБ, а таксама асобных адказных работнікаў партыі), мэтод замоўчваньня сваіх адносін да лініі партыі, з аднаго боку, і правых ухілістых у Польшчы, з другога (т. Зоркі), недастатковая крытыка права-опортуністычных памылак, установак і тэорый Косташава, Сьцяфанскага і Бранда, пры аднача-совым ухіленьні самакрытыкі ў адносінах уласных права-опортуністычных памылак.

Партыйная організацыя, у выніку рэорганізацыі, набыла здольнасьць гнутка і хутка дапасоўвацца да ўмоў абвастраючагася тэрору на фоне шалёна-разгортваючайся падрыхтоўкі вайсковага нападу польскага імпэрыялізму на СССР, а таксама здольнасьць хутка мобілізаваць працоўныя і эксплёатаваныя масы на барацьбу за заваёвы

рабочае клясы, якія ідуць пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго комуністычнай партыі.

У выніку рэорганізацыі партапарату і ўнядрэньня новых мэтодаў работы, а, уласна, інтэнсыфікацыі партработы і ўнясеньня ў яе большай плянавасьці, асабліва ў галіне барацьбы за заваёвы прамысловых цэнтраў і буйных прадпрыемстваў, КПЗБ удалося дабіцца некатарага пераломy ў справе барацьбы за заваёвы большасьці рабочае клясы на З. Б. (аднаўленьне і стварэньне новых чыгуначных організацый, стварэньне ячэек на шэрагу шкляных заводаў, стварэньне новай раённай парторганізацыі і першай ячэйкі тэкстыльшчыкаў у адным з раёнаў), пераломy, які сьведчыць, па-першае, па магчымасьці для партыі дамагчыся значна большых вынікаў як у галіне пашырэньня сеткі сваіх парторганізацый, павялічэньня колькасьці членаў партыі і ліку ячэек, у першую чаргу, на буйных прадпрыемствах, так і ў галіне падвышэньня якаснага складу парторганізацыі па лініі падвышэньня політычнага ўзроўню партактыву, паглыбленьня тэорэтычнай чуласьці і настаражонасьці парторганізацыі і барацьбы супроць ухілаў ад лініі партыі, а таксама па лініі пасіленьня консьпірацыі, партдысцыпліны, адзінства дзеяньняў і падвышэньня масавага характару партработы.

## Работа КПЗБ, дасягненьні і недахопы

*Політычныя кампаніі.* Чырвонай ніткай ва ўсёй рабоце КПЗБ за час ад III пленуму (верасень 1929 г.) праходзіла настойлівая, нясупынная барацьба супроць *шалёнай падрыхтоўкі фашысцкай дыктатуры да ўзброенага нападку на СССР* і яго форпосты на мяжы з капіталістычным сьветам—БССР і ЎССР, *барацьба ў абарону соцыялістычнага будаўніцтва СССР.* КПЗБ, якая мобілізуе працоўныя эксплёатуемыя масы на барацьбу супроць імпэрыялістычнай бойкі і контррэволюцыйнай бойкі супроць бацькаўшчыны сусьветнага пролетарыяту, кожную сваю кампанію, кожнае сваё дзеяньне, кожнае выступленьне мас у абарону сваіх экономічных і політычных інтарэсаў і запатрабаваньняў прапітвала лёзунгамі рэволюцыйнай барацьбы супроць ваеннай пагрозы, лёзунгамі абароны СССР, пропагандай пэратварэньня імпэрыялістычнай і контррэволюцыйнай бойкі ў бойку грамадзянскую, за зьнішчэньне дыктатуры буржуазіі і ўстанаўленьне пролетарскай дыктатуры, барацьбу рабочых мас за хлеб і работу супроць беспрацоўя, супроць капіталістычнай рацыяналізацыі (барацьбы за вуліцу, кампанія 6-га сакавіка, жаночы дзень, антыгалодная, 1 мая і г. д. і г. д.).

Гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі, тыдзень «3-х Л», кампанія пасылкі рабоча-сялянскай дэлегацыі ў СССР і справаздачная кампанія гэтай дэлегацыі, мопраўская кампанія ў гадавіну Парыскай комуны, нарэшце, контр-выступленьне рабочае клясы і рэволюцыйных мас сялянства супроць організаванага рымскім папай крыжацкага паходу супроць СССР, кампанія ў сувязі з 10-годзьдзем польска-савецкай вайны, паходам Пільсудзкага на Кіеў і вызваленьнем Менску ад польскай окупацыі—усе гэтыя кампаніі цалкам і поўнасьцю былі афяраваны выкрыцьцю злачынных замыслаў імпэрыялістых і прайшлі з вялікім посьпехам пры актыўным удзеле шырокіх працоўных эксплёатуемых мас гораду і вёскі.

*Неабходна падкрэсьліць асаблівы посьпех, з якім прайшлі антыпапскія выступленьні.* Гэтыя спонтанічаскія выступленьні мас у абарону Савецкага Саюзу былі падняты і арганізаваны КПЗБ у шырокую політычную кампанію, якая прывяла да зрыву на ЗБ папоўскага крыжацкага паходу. Спробы фашыстых і папоў уцягнуць шырокія рабо-



ча-сялянскія масы ў папскую антысавецкую авантуру, карыстаючыся рэлігійным фанатызмам найбольш адсталай часткі гэтых мас, пацярпелі поўнае крушэньне. Фашыстыя і папа ня толькі атрымалі належны адпор з боку сьвядомых рабочых і рэволюцыйных сялян, якія сьмела выступілі супроць папскай авантуры ў абарону Савецкага Саюзу на антысавецкіх мітынгах, арганізаваных фашыстымі і папай, але і наткнуліся на шэраг магутных контр-дэмонстрацый (Вільня, Беласток).

Напружаная антывайсковая работа КПЗБ, якая знайшла свой адбітак у кожным выступленьні рабочых і сялянскіх мас, настойлівая пропаганда КПЗБ ідэі пераходу салдат імпэрыялістычнай, контррэволюцыйнай польскай арміі на бок Чырвонай арміі, заклікі партыі да салдат, каб апошнія перайшлі на бок змагаючыхся рабочых і сялянскіх мас Польшчы і павярнулі штыхі супроць бацькаўскіх прыгнятальнікаў і эксплёататараў, сур'ёзна блытаюць вайсковыя пляны фашысцкай дыктатуры і ўтрудняюць пасьпяховае правядзеньне польскім імпэрыялізмам сваіх захватніцкіх контррэволюцыйных замыслаў у адносінах СССР (рэкруцкія бунты—Ораны, Семяцічы, Вільня і інш., выступленьні салдат у абарону рабочых і сялянскіх дэмонстрацый і т. п.).

Аднак, вельмі сур'ёзным мінусам работы КПЗБ зьяўляецца барацьба супроць анты-літоўскіх махінацый польскага фашызму, для якога зьняволеньне Літвы шляхам узброенага захопу або «мірнага» згавору з літоўскімі замежнымі клясамі, зьяўляецца важнейшай прадпасылкай наступленьня на СССР. КПЗБ ставіць перад сваімі організацыямі задачу пасіліць барацьбу з махінацыямі фашысцкай дыктатуры, накіраванай на нацыянальнае зьняволеньне літоўскіх працоўных мас, сыстэматычна з дня ў дзень выкрываючы контррэволюцыйную сутнасьць гэтых махінацый для мобілізацыі працоўных ЗБ на барацьбу з імі. Асабліва настойліва КПЗБ дамагаецца ўзмацненьня работы сярод літоўскіх працоўных мас ЗБ, накіроўваючы агонь супроць літоўскіх фашыстых наогул і супроць літоўскіх агентаў фашысцкай дыктатуры ў Польшчы, у прыватнасьці.

У шэрагу дакумантаў КПЗБ прызнае работу парторганізацыі ў арміі і ў вайсковых фашысцкіх організацыях зусім нездавальняючай і не адпавядаючай па свайму напружаньню тым задачам, якія вырастаюць перад рабочай клясай і працоўнымі масамі вёскі, у сувязі з вайсковай падрыхтоўкай фашысцкае дыктатуры. Узмацненьне работы ў самой арміі і работы сярод навабранцаў і адпускнікоў, у першую чаргу, шляхам распаўсюджаньня партыйнай літаратуры сярод салдат, індывідуальнай пропагандысцкай работы—вось якія задачы ставіць КПЗБ перад кожнай партыйнай і комсамольскай ячэйкай.

Сярод політычных кампаній, праведзеных КПЗБ за мінулы пасьля III пленуму пэрыод, неабходна выдзеліць кампанію па перавыбарах у сойм, якія партыя выкарыстала для популярызацыі сваіх лёзунгаў, генэральнай лініі і мобілізацыі вакол яе шырокіх працоўных і эксплёатуемых мас гораду і вёскі. Вынік Лідзкіх перавыбараў сьведчыць, па-першае, аб тым, што роўналежна процэсу радыкалізацыі мас ідзе рост і паглыбленьне *політычнага недавер'я* мас да ўсіх парлямэнцкіх-дэмократычных інстытутаў буржуазіі, разгортваючагася на глебе выкрыцьця і дыскрэдытацыі гэтых інстытутаў, як аднэй з форм ажыцьцяўленьня дыктатуры буржуазіі наогул, у сучасны-ж момант зьяўляючыхся дапаўненьнем і фіранкай для фашысцкай дыктатуры.

Лідзкія выбары, якія адбываліся ва ўмовах самага шалёнага фашысцкага тэрору і цынічных махінацый і падтасовак выбараў з боку адміністрацыйнага апарату і дэфэнзывы, прывялі да далейшага ўзро-

сту радыкалізацыі і рэволюцыйнай актыўнасьці мас як у процэсе перавыбарчай кампаніі, так і ў час выбараў.

Неабходна, аднак, усьлед за ЦК КПЗБ з усёй сілай падкрэсьліць, што КПЗБ не змагла выкарыстаць гэтых фактараў для ўзьняцьця рэволюцыйнай сьвядомасьці мас на вышэйшую ступень, не змагла мобілізаваць масы на актыўную барацьбу супроць фашысцкай дыктатуры і яе «парлямэнцка-дэмократычных» агентаў, на барацьбу з фашысцкім тэрорам, шляхам масавага ўдзелу ў выбарах, дэмонстрацыйнага галасаваньня нават за скасаваныя сьпісы рабоча-сялянскага блёку.

Гэты буйнейшы недахоп у рабоце партыйнай організацыі зьявіўся ў выніку характэрнай для асобнай організацыі КПЗБ недаацэнкі значэньня выбарчай кампаніі, як падважніку ў справе ўзьняцьця сьвядомасьці мас, у справе іх організацыі, а таксама ў справе праверкі росту, сілы і баявой гатоўнасьці ўсяго антыфашысцкага лягеру. Простым вынікам гэтай недаацэнкі было недастатковае разьвіцьцё работы партыйных організацый КПЗБ у справе мобілізацыі мас для ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

На фоне гэтага буйнейшага недахопу асабліва сурьёзнае значэньне набывае атрыманьне рабоча-сялянскімі сьпісамі 24.851 галасоў, г. зн., 25,5% усіх удзельнікаў у выбарах. Гэты факт сьведчыць аб пашырэньні політычнага ўплыву КПЗБ, аб росьце давер'я мас партыі, аб росьце радыкалізацыі мас, іх рэволюцыйнай актыўнасьці і паглыбленьні політычнай сьвядомасьці.

Побач з гэтымі сур'ёзнымі дасягненьнямі неабходна падкрэсьліць таксама банкруцтва тае часткі беларускага нацыянал-фашысцкага лягеру, якая ідзе пад сьцягам Луцкевіча і Станкевіча, а таксама буйнай перамогі другіх частак гэтага лягеру, якія ідуць пад сьцягам беларускай хадацыі і «Сельсаюзу» Ярэміча, аб чым мы гаварылі вышэй.

Гэты разгром беларускага нацыянал-фашызму зьявіўся ў выніку энэргічнай работы КПЗБ і сьведчыць аб далейшым росьце гэгемоніі КПЗБ у нацыянальным вызваленчым руху.

Аднак, значная перамога народніцка-фашысцкага «Строньніцтва Хлопскага», сыгналізуючы аб узмацніўшайся небясьпецы перахопу рэволюцыйных настрояў сялянскіх мас гэтымі агентамі фашызму, сьведчыць адначасова, што актыўнасьць вясковых організацый КПЗБ адстае ад росту актыўнасьці сялянскіх мас, і што ў рабоце сярод польскіх і беларускіх каталіцкіх мас наша партыя не зварочвала належнай увагі.

Тварам да фабрык, заводаў, чыгунак і фольваркаў—вось лёзунг, пад якім разгортвала сваю работу КПЗБ пасьля III пленуму свайго ЦК. Глебай, на якой разгортвалася барацьба рабочай клясы, былі ўзмацняемыя ўсё абвастраючымся экономічным крызісам атакі капіталу на заработную плату, на рабочы дзень, на ўмовы працы і на мускульную моц тае часткі рабочай клясы, якая яшчэ захавала работу. Зьніжэньне жабрацкай заработнай платы ня мае масавага і організаванага характару (чыгуначнікі, нагрузка якіх павялічвалася ў $2\frac{1}{2}$ разы ў параўнаньні з 1926 г., а зарплата зьнізілася, улічваючы прэміяльныя амаль на 50%; шкляры, кахляры, друкары—Вільня; выработчыя запалкі і фанеру—Пінск, Горадня; сталяры—Брэст і г. д.). У сувязі з скарачэньнем вытворчасьці і з мэтаю падрыхтоўкі ўмоў для правядзеньня капіталістычнай рацыяналізацыі—далейшай інтэнсыфікацыі, эксплёатацыі і пагоршаньня ўмоў працы—скарачэньне працы практыкуецца капіталістымі, як сыстэма.

Беспрацоўе становіцца ўсё больш усеагульным ліхам, ня гледзячы на часовыя сэзонныя затрымкі яго паступальнага росту.

У гэтых цяжкіх умовах абвастраючагася крызісу—аб'яднаньня працоўных мас, росту беспрацоўя, націску адзіным фронтам капіталістых, фашысцкай дыктатуры і соцыял-фашысцкіх профбюрократаў і штрэйкбрэхераў, рабочая кляса Польшчы і ЗБ разгарнула шырокую контр-наступальную барацьбу, перамагаючы на сваім шляху перамогі ў выглядзе фашысцкага арбітражу і здрадніцкай палітыкі соцыял-фашызму. Гэта барацьба прымае ў асобных выпадках формы ўзброенай барацьбы (Брыдгош, Санок, Заверце і г. д.).

Рост забастовачнага руху ва ўмовах жорсткага гаспадарчага крызісу пры страшэнным росьце беспрацоўя, працяжнасьць і ярка вызначаны баявы палітычны характар забастовак выяўляюць сугуба опортуністычны характар сьцьвярджэньня прыхільнікаў правай групы Косташава, Сьцяфанскага і Бранда аб адсутнасьці нібы рэволюцыйнага ўздыму і пасыўнасьці рабочай клясы. Гэта барацьба ахоплівае ўсё новыя і новыя шэрагі рабочай клясы, усё шырэй пераплятаецца з барацьбою беспрацоўных (600 сэзонных сельгас. рабочых у Кобрынскім раёне, 1200 гандлёвых служачых у Вільні, рабочыя шкляной гуты «Вітрыум», 700 рабочых фанернай ф-кі ў Горадні; рабочыя папяровай ф-кі Беластоку, 500 чал., выпрабляючых запалкі ў Пінску, тэкстыльшчыкі ў Васількове, сельгас. рабочыя ў Падбярэзьзі, Шылавічах і др. мясцох, забастоўка пекароў, шофэраў, друкароў, рабочых цукернай фабрыкі і кахлянага заводу ў Вільні, работніц кордоннай фабрыкі ў Горадні, сталяроў і грузчыкаў у Брэсьце, рабочых лясных распрацовак у Лышчацкім раёне і г. д. і г. д.).

Ва ўсіх забастоўках, як і ў выступленьнях беспрацоўных, прыметны ўдзел прымаюць жанчыны-работніцы і моладзь, якая арганізавала шэраг самастойных забастовак.

У галіне падрыхтоўкі арганізацыі забастовачнай барацьбы і самастойнага кіраўніцтва ёю, увязкі барацьбы з барацьбой беспрацоўных КПЗБ мае шэраг буйных дасягненьняў, якія зьявіліся ў выніку рашучага павароту партыі тварам да фабрык, заводаў, чыгунак і фольваркаў. У процэсе кіраўніцтва барацьбой рабочых мас партыя найбліжэй падышла да ажыцьцяўленьня асноўных задач, высунутых яшчэ на першым зьезьдзе КПЗБ: заваёвы большасьці рабочай клясы. Ня глядзячы на тое, што ўвогуле і цалкам КПЗБ змагла стаць на чале і кіраваць бурна нарастаючай рэволюцыйнай барацьбой рабочай клясы, у асобных мясцох актыўнасьць партыйных організацый КПЗБ значна адстае ад рэволюцыйных настрояў, якімі ахоплена рабочая маса. Такія факты мелі месца, напрыклад, у Лапах у адносінах чыгуначных рабочых, якія былі ахоплены рэволюцыйным бражэньнем і жаданьнем актыўнай барацьбы за свае штодзённыя інтарэсы, але не знайшлі ў мясцовай партыйнай арганізацыі дапамогі ў справе падрыхтоўкі, арганізацыі і кіраўніцтва гэтай барацьбой.

Пры разгортваньні забастовак у шэрагу раёнаў мелі месца буйнейшыя опортуністычныя памылкі, галоўным чынам, права-опортуністычнага парадку, а таксама і «лева-опортуністычнага». Гэтыя памылкі выяўляліся ў яўным скрыўленьні партыйнай лініі і тактычных установак партыі. Памылкі гэтыя заключаліся ў першую чаргу, у адсутнасьці шырокай масавай падрыхтоўкі забастовачнага руху, у хвасьцізьме, стаўцы на найбольш адсталыя элемэнты працоўных, у адсутнасьці пляну, у стыхійнасьці, профсаюзным фэтышызьме і легалізьме.

Конкрэтна: Віленскі АК і ГК нічога не зрабілі для падрыхтоўкі забастоўкі гандлёвых служачых, ня імкнуліся нават організаваць самастойнае забастовачнае кіраўніцтва і праз яго распрацаваць конкрэтныя патрабаваньні барацьбы. Яны абмежаваліся «прадраканьнем

здраднікства з боку Бунду» ў той час, калі неабходна было папярэдзіць і перасьцерагчы магчымасьць самога здраднікства. ГК адмаўляўся выконваць або скрыўляў нават палавінчатыя і спазьніўшыяся дырэктывы АК, такім чынам, плёўся ў хвасьце махравых опортуністаў з ячэйкі гандальслужачых, якія на справе былі агентамі бундаўскіх соцыял-фашыстаў у шэрагах КПЗБ.

Тут жа, у Вільні, як быццам дзеля таго, каб давесьці, што «левыя» загібы зьяўляюцца няўхільным дапаўненьнем права-опортуністычнай практыкі, партыя мела справу з выпадкам «камандваньня зьверху». Пры падрыхтоўцы забастоўкі пекароў у Вільні былі дапушчаны «левыя» загібы: ГК не правёў падрыхтоўчай масавай кампаніі, не мобілізаваў мас, не організаваў кіраўніцтва забастоўкай, абранага масамі і карыстаючагася ў іх давер'ем і аўторытэтам, ГК прызначыў у габінэтным парадку тэрмін агульнай забастоўкі пекароў без падліку конкрэтнай сытуацыі і, вядома, застаўся на мелі.

Кобрынскі РК КПЗБ і КСМ ЗБ, кіруючы забастоўкай у 7 фальварках 600 сэзонных рабочых, выключна змагаючыся з штрэйкбрэхерамі і паліцыяй, пайшоў па шляху *мінімалістычных запатрабаваньняў*, што не адбівалі ні настрояў, ні сапраўдных запатрабаваньняў рабочай масы. РК абмежаваўся толькі патрабаваньнем 50-100% надбаўкі да заработнай платы, мінаючы патрабаваньні агульнай надбаўкі ў 100% і патрабаваньні 8-гадзіннага рабочага дня, не гаворачы аб пропагандзе патрабаваньні сямігадзіннага рабочага дня, хаця рабочыя працавалі па 12-14 гадзін і схільны былі змагацца за скарачэньне рабочага дня. Патрабаваньне прызнаньня памешчыкамі фальварачных комітэтаў ня было высунута. Кобрынская організацыя нават не прыступіла да організацыі фальварачных комітэтаў. Гэтыя груба опортуністычныя памылкі кобрынскія таварышы апраўдвалі тым, што нібы гэтыя патрабаваньні нерэальны, і што бастуючыя ня згодзяцца іх падтрымаць. На настойлівасьць акругкому, які ў процэсе ўсяе справы высунуў гэтыя запатрабаваньні, яны адказалі заявай, што такія патрабаваньні могуць зацягнуць забастоўку, прывесьці да інтэрвэнцыі паліцыі, а рабочыя не падрыхтаваны змагацца за гэтыя патрабаваньні. *Тут мы маем яскравы прыклад права-опортуністычнай недаацэнкі радыкалізацыі працоўных мас і яўнае адставаньне партыйнай і комсамольскай організацыі ад росту рэволюцыйнай актыўнасьці мас.*

У Пінску асобныя таварышы, не сустракаючы павіннага адпору з боку парторганаў, праявілі ня толькі недапушчальны хвасьцізм у час стыхійна выбухнуўшай забастоўкі протэсту супроць зьдзекаў майстра над работніцамі, але і злачынна тормозілі барацьбу рабочых. Яны ў цяснейшым саюзе з Бундам і ПЦ адцягвалі бастуючых рабочых з рэволюцыйнага шляху барацьбы на шлях фашысцкага арбітражу; калі-ж інспэктар працы адказаўся ўмяшацца ў конфлікт, заклікалі рабочых спыніць забастоўку, матывуючы гэта «неблагоприятной коньюнктурой».

У шэрагу месц чуліся асобныя галасы, якія адмаўлялі налічча контрафэнзыўных боек пролетарыяту і высоўвалі права-опортуністычны тэзіс, што «забастоўкі магчыма толькі пры спрыяючай коньюнктуры».

Работа сярод сельска-гаспадарчых рабочых за справаздачны час была зрушана ЦК КПЗБ з мертвага пункту і пастаўлена перад партыйнымі організацыямі, аб чым сьведчыць шэраг забастовак сель.-гасп. рабочых. У шэрагу фальваркаў абраны комітэты барацьбы, якія ўжо прыступілі да організацыі і кіраўніцтва забастоўкамі. Ідзе падрыхтоўка да генэральнай забастоўкі сель.-гасп. і сэзонных рабочых. Аднак, неабходна паказаць, што ў шэрагу вясковых організацый, у частцы

партактыву маюць месца антыбатрацкія настроі. Гэтыя праявы кулацкага ціску на паасобныя зьвеньні нашай організацыі зьяўляюцца сур'ёзнай перашкодай на шляху да організацыі і актывізацыі мас сель.-гасп. рабочых, на шляху замацаваньня гэгемоніі пролетарыяту ў адносінах да барацьбы сялянскіх мас.

*Рух беспрацоўных* набывае ўсё большае і большае рэволюцыйнае значэньне. На жаль, парторганізацыі, ня гледзячы на сваячасовыя і выразныя дырэктывы ЦК КПЗБ, з вялікім спазьненьнем прыступілі да організацыі, кіраўніцтва і разгортваньня *руху беспрацоўных*. У важнейшым асяродку беспрацоўя—у Беластоку ён прыступіў да гэтай задачы толькі ў самы апошні час. Больш таго, Віленская і Беластокская організацыі выпусьцілі з сваіх рук ініцыятыву ў справе організацыі руху беспрацоўных, даўшы магчымасьць на час соцыял-фашыстым захапіць гэтую ініцыятыву ў свае рукі. Горадзенская і Пінская організацыі не змаглі ў належнай меры разгарнуць кампанію ў сувязі з 6 сакавіка і організаваць выступленьні беспрацоўных у дзень 6-га сакавіка.

У Вільні ў час забастоўкі на шкляной гуце «Вітрыум» была дапушчана профаддзелам ЦК КПЗБ і Віленскім АК памылка, якая заключалася ў няўменьні ўвязаць барацьбу працуючых рабочых з барацьбой беспрацоўных (лёкаўтыраваных) рабочых шклозаводу «Шапіро». Рабочых гэтага апошняга заводу памылкова заклікалі стаць зноў на работу, каб пасьля гэтага пачаць зноў забастоўку солідарнасьці, але гэты плян праваліўся.

Мы прывялі найбольш яскравыя факты, якія з усёй відавочнасьцю сьведчаць, што ў шэрагу організацыі КПЗБ няма яшчэ пералому ў справе ажыцьцяўленьня пастаноў IV Конгрэсу Профінтэрну *па самастойнай падрыхтоўцы, організацыі і кіраўніцтве барацьбой рабочай клясы і рухам беспрацоўных*. Гэтыя організацыі ня выжылі яшчэ свае адарванасьці ад асноўных пролетарскіх мас, у першую чаргу, ад рабочых буйных фабрык, чыгуначнікаў і сел.-гасп. рабочых, ад мас польскага і беларускага пролетарыяту. Яны яшчэ не павярнуліся на справе тварам да фабрык, заводаў, чыгунак і фальваркаў.

Акрамя таго, да гэтага часу ня выжыты яшчэ ў шмат якіх організацыях «легальніцкія» настроі, а таксама профсаюзны фэтышызм, які выяўляецца ў опортуністычных сьцьвярджэньнях, што без профсаюзу нельга організаваць стачачнай барацьбы і кіраваць ёю. Разам з схіленьнем перад профсаюзнай легальнасьцю і профсаюзным фэтышызмам у асобных партыйных работнікаў наглядаецца ігнараваньне работы непасрэдна на прадпрыемствах і па ўцягненьню ў барацьбу неорганізаваных рабочых, а таксама слабая актыўнасьць справы організацыі фабрычна-заводзкіх комітэтаў, комітэту беспрацоўных і комітэту барацьбы на прадпрыемствах. Такія права-опортуністычныя памылкі дапаўняюцца памылкамі другіх таварышоў, якія ідуць па лініі «левага» опортуністычнага ігнараваньня работы ў профсаюзах наогул і ў соцыял-фаш. профсаюзах у прыватнасьці. Усе гэтыя памылкі тормозяць разгортваньне самастойнага кіраўніцтва партыі экономічнай барацьбой рабочай клясы, узьняцьцё экономічнай барацьбы рабочай клясы на вышэйшую ступень, вырашэньне асноўнай задачы партыі,—заваёвы большасьці рабочай клясы.

Усе праявы правага і «левага» опортунізму на практыцы, роўна як і тэорытычныя права—«лева» опортуністычныя ўстаноўкі атрымлівалі рэзкі і сваячасовы адпор з боку ЦК КПЗБ і падлягалі жорсткай крытыцы, пры чым ЦК у адносінах да ўпіраючыхся правільна дапасаваў організацыйныя вывады.

Да гэтага часу КПЗБ *не ўдалося дабіцца зруху ў працы рэвалюцыйных профсаюзаў і левай опозыцыі,* якія або слаба кіруюць экономічнымі бойкамі рабочай клясы або адносяцца да іх пасыўна.

Левыя профсаюзы і профсаюзная опозыцыя да гэтага часу маюць слабую сувязь з масамі, у іх адсутнічае належная апора на прадпрыемства (адсутнічаньне фабрычна-заводзкіх комітэтаў, упаўнаважаных, комітэтаў барацьбы і інш.). У выніку пасыўнасьці рэволюцыйных профсаюзаў, дзейнасьць іх часта мала чым адрозьніваецца ў вачох мас ад дзейнасьці соц.-фашысцкіх профсаюзаў, таму яны ня маюць давер'я ў мас, якія пачынаюць абыяк і нават адмоўна адносіцца да профруху наогул.

Вялікім недахопам профсаюзнай работы застаецца слабое разгортваньне работы па організацыі фабрычна-заводзкіх комітэтаў. Таксама нездавальняюча абстаіць справа з разгортваньнем і ўзмацненьнем чырвоных і комуністычных фракцый.

Асноўнай крыніцай права-опортуністычных памылак на практыцы, наогул, і ў галіне кіраўніцтва экономічнай барацьбой рабочых мас, у прыватнасьці, зьяўляецца тое, што частка партактыву не змагла перамагчы опортуністычныя концэпцыі і тэорыі групы т. т. Косташава, Бранда і Сьцяфанскага. Гэтыя концэпцыі і тэорыі знаходзяць яскравы адбітак у недаацэнцы росту рэволюцыйнай актыўнасьці мас, у ілюзіях у адносінах да соцыял-фашызму, у асаблівасьці да Бунду, у выніку чаго нашы таварышы часта плятуцца ў хвасьце соцыял-фашыстаў, выступаючы з імі адзіным фронтам, не вядуць работы па выкрыцьцю контррэволюцыйнай ролі соцфашызму і маюць легальніцкія надзеі, імкнучыся любой цаной захаваць глебу профсаюзнай легальнасьці.

Організацыі КПЗБ далёка яшчэ не перамаглі па лініі профсаюзнага руху тае сыстэмы палітычных і організацыйных памылак, якая вядома ў профруху ЗБ пад назвай «довідзізму» і зводзіцца да адмаўленьня на практыцы ад кіруючай ролі партыйных організацый. У адносінах профорганізацый гэтая права-опортуністычная плынь сярод профработнікаў была экспозытурай правай групы Косташава, Сьцяфанскага і Бранда ў профруху ЗБ.

У выніку, ня гледзячы на слоўнае асуджэньне правага ўхілу і далучэньне да рашэньняў VI пленуму ЦК КПП, шэраг таварышоў, асабліва з профсаюзнага актыву, паўтараюць і апраўдваюць опортуністычныя памылкі, карані якіх уваходзяць у тэорытычную глебу групы Косташава.

ЦК КПЗБ разам з усёй партыяй даваў самы рашучы адпор гэтым памылкам і выкрываў іх тэорытычную прыроду і карані.

*Новыя моманты ў барацьбе сялянскіх мас* вызначаюцца існаваньнем у вёсцы ўсё абвастраючайся барацьбы двух клясавых лягераў— памешчыкаў, кулацтва і асаднікаў-колёністаў з Польшчы, з аднаго боку, і с.-г. пролетарыяту, паўпролетарыяту (беднаты) і серадняком, з другога, якія ідуць на барацьбу за зямлю бяз выкупу, за зьнішчэньне фашысцкай дыктатуры і зьніштажэньне памешчыцка-кулацкай эксплёатацыі ў саюзе і пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго компартыі.

Радыкалізацыя працоўных эксплёатуемых мас вёскі Заходняй Беларусі і каранной Польшчы праяўляецца ўжо ў асобных сустрэчных бойках і сутычках. У цэлым шэрагу раёнаў ЗБ мелі месца за справаздачны пэрыод сутычкі бядняцка-серадняцкіх мас з памешчыкамі, асаднікамі, кулакамі, сэквэстратарамі, паліцыяй і шпікамі на глебе правядзеньня комасацыі, ліквідацыі сэрвітуту, шарварковага прыгону і адмаўленьня ад плацяжу падаткаў (Лідзкі, Капатлоўскі і Транспольскі раёны).

*Пытаньне падаткаў і шарваркаў стала цэнтральным пытаньнем, навакол яго нарастае рэвалюцыйная актыўнасьць сялянскіх мас і абвастрэньне іх барацьбы супроць фашысцкай дыктатуры.*

Антыпадатковая, антышарварачная барацьба стала на даным этапе галоўнай праявай клясавай барацьбы ў вёсцы і павінна складаць частку агульна-клясавых боек працоўных мас гораду і вёскі пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі. Гэта барацьба ў сучасны момант зьяўляецца ў вёсцы важнейшым зьвяном для таго, каб падвесьці сялянскія масы ў барацьбе за зямлю да агульна-пролетарскай барацьбы за зьнішчэньне фашысцкай дыктатуры і ўстанаўленьне рабоча-сялянскага савецкага ўраду. Вядома, гэта ні ў якім выпадку не выключае з парадку дня пытаньня антыкомасацыйнай і антыпарцэляцыйнай барацьбы і барацьбы супроць фашысцкай ліквідацыі сэрвітуту [1]).

Кіруючы антыпадатковым і антышарварачным рухам, арганізуючы асноўныя сялянскія масы на глебе гэтага руху на барацьбу за зямлю бяз выкупу, КПЗБ уключыла і павінна ўключаць яго ў агульнае рэчышча барацьбы пролетарыяту і сялянства ўсяе Польшчы за зьнішчэньне фашысцкае дыктатуры, за зямлю бяз выкупу, за права нацыі на самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ і БССР, за рабоча-сялянскі савецкі ўрад, за дыктатуру пролетарыяту.

Асноўным лёзунгам, пад якім партыя праводзіла антыпадатковую кампанію ў сучасных умовах хуткага, хаця і няроўнамернага нарастаньня элемэнтаў рэволюцыйнае сытуацыі, быў і застаецца лёзунг: «ніводнага граша фашысцкаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны». Лёзунг гэты партыя разглядае, як генэральны пропагандысцкі лёзунг на дадзеным этапе. Такім гэты лёзунг павінен па лініі КПЗБ застацца і надалей да таго часу, пакуль разьвіцьцё сітуацыі не патрабуе ад партыі ператварэньня яго ў лёзунг дзеяньня, конкрэтызацыі ягом як закладку да актыўнага адмаўленьня да плацяжу падатку, страхавых узносаў, плацяжу нядоімак, штрафаў, звароту запазычанасьці і ўплаты процантаў па іх, адмаўленьня ад шарварак і другіх натуральных павіннасьцяй, як заклік да бойкоту падаткаў.

*Разгортваючы кампанію барацьбы з голадам,* які душыць зах. беларускую вёску ўжо 6 год *урад,* і з *фашысцкай дыктатурай, як яго крыніцай,* КПЗБ надала ёй яскрава-політычны характар, раскрываючы фіктыўны характар «дапамогі» ўрадавых філантропскіх організацый і іх сапраўдныя мэты і імкненьні: зьняволіць працоўныя і эксплёатуемыя масы, зрабіць іх пакорлівым нявольнікам клясаў багацеяў, якія на голадзе мас намнажаюць свае багацьці, разграміць і разлажыць рэволюцыйную барацьбу асноўных мас сялянства.

Як важнейшы тактычны і практычны лёзунг галоднае кампаніі, якая мобілізуе масы на барацьбу раёнаў, ахопленых голадам, КПЗБ высунула лёзунг неадкладнага актыўнага адмаўленьня ад плацяжоў падатку, страхавых узносаў, звароту запазычанасьці і ўплаты процантаў па іх, плацяжу нядоімак, штрафаў, адмаўленьня ад шарваракаў і ўсялякіх павіннасьцяй. У гэтых раёнах у такой форме быў конкрэтызаваны і ажыцьцяўляўся генэральны лёзунг партыі: «ні граша фашысцкаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны». У раёнах, не ахопленых непасрэдна голадам, партыя праводзіла галодную кампанію ў выглядзе выступленьня солідарнасьці сялянскіх мас пад лёзунгам «барацьбы з усёй фашысцкай політыкай голаду і тэрору». У гэтых раёнах генэраль-

[1]) Падрабязнае значэньне гэтых тэрмінаў было высьветлена ў пачатку гэтага артыкулу—.Рэд. „Б.Б.“.

ны лёзунг партыі «ніводнага граша фашысцкаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны»—заставаўся прапагандысцкім і агітацыйным лёзунгам.

ЦК КПЗБ даў зусім правільную ўстаноўку па пытаньнях супроць падатковай і антышарварачнай кампаніі. У выніку гэтай зусім правільнай устаноўкі напружаная барацьба працоўных мас пад кіраўніцтвам партыі, пролетарыяту прымусіла фашысцкі ўрад зманэўраваць і адкласьці збор падаткаў у галодных раёнах. Гэты манэўр партыя выкрыла і, у далейшым выкрываючы, робіць гэтае выкрыцьцё выходным пунктам далейшага разгортваньня барацьбы ў галадаючых раёнах.

Разгортваючы антыгалодную кампанію, КПЗБ разгарнула работу па організацыі *сялянскіх камітэтаў барацьбы.* У гэтай галіне гэтыя дасягненьні зьявіліся ў выніку выразных і яскравых дырэктыў, якія вызначаюць характар гэтых комітэтаў менавіта як комітэтаў барацьбы. Перад сялянскімі комітэтамі партыя паставіла задачу ўзглаўляць пад кіраўніцтвам партыі барацьбу сялянскіх мас супроць самай шырокай фашысцкай дыктатуры ў вёсцы, супроць яе непасрэдных прыхільнікаў і агентаў-кулакоў і іх падхлебнікаў, організаваных у розныя фашысцкія, народніцка-фашысцкія і нацыянал-фашысцкія організацыі (сел.-гасп.-крэд. коопэр., сельсаюзьніцкія, хадзецкія і інш. органзацыі), партыя перад сялянскімі комітэтамі паставіла адну з важнейшых задач політычнага выхаваньня шырокіх мас працоўнага і эксплёатуемага сялянства. Сялянскія комітэты барацьбы павінны раскрыць вочы шырокім сялянскім масам на процэс клясавай барацьбы і клясавага расшаратаваньня вёскі, якое выдзяляе кулака як эксплёататара асноўных мас сялянства, робіць саюзьнікам і дапаможнікам памешчыкаў і буржуазіі ў справе зьняволеньня працоўных мас гораду і вёскі. Сялянскія комітэты барацьбы павінны самым цесным чынам увязваць барацьбу сялянскіх мас з барацьбой гарадзкіх рабочых і, у першую чаргу, з барацьбой беспрацоўных. Яны павінны весьці бязьлітасную барацьбу з усякага роду вайскова-фашысцкімі організацыямі, як «Стралец», організацыяй вайсковага прыстасаваньня дапрызыўнае падрыхтоўкі, барацьбу супроць вайсковай падрыхтоўкі фашысцкай дыктатуры, накіраванай супроць Савецкага Саюзу. Адначасна *гэтыя комітэты павінны організаваць рабоча-сялянскую самаабарону для абароны рэволюцыйных мітынгаў і дэмонстрацый ад кулацкіх, асадніцкіх і фашысцка-поліцэйскіх нападаў.*

КПЗБ выразна і ясна паказала ў сваіх дакумантах, што сялянскія комітэты барацьбы павінны ахапіць шырокія колы сялянскіх мас і ўцягваць у свой склад беспартыйных сялян, у тым ліку і сялянак, а таксама сялянскую моладзь, ствараючы асяродкі гэтых комітэтаў з паўпролетарскіх-бядняцкіх элемэнтаў сялянства, групуючы гэтыя апошнія навакол сельска-гаспадарчых рабочых, а таксама фабрычна-заводзкіх рабочых бліжэйшых прамысловых прадпрыемстваў. Рабочыя павінны стаць кіруючым асяродкам сялянскіх комітэтаў барацьбы, ажыцьцяўляючы сваё кіраўніцтва праз групы беднаты, організаваныя ўнутры сялянскіх комітэтаў. Аднаачасова партыйная організацыя павінна забясьпечыць, апіраючыся на рабочую і бядняцкую праппластоўку сялянскіх комітэтаў барацьбы, дастаткова моцнае партыйнае кіраўніцтва. Для гэтага неабходна ўнутры сялянскіх комітэтаў ствараць комуністычныя фракцыі.

У сувязі з далёка нездавальняючым соцыяльным складам часткі вясковага партактыву, за апошні час маюць месца *праявы яўна кулацкіх настрояў.* Чуюцца галасы, што «ў нашым раёне наогул няма кулакоў», або што «падатковы прэс цісьне кулака так сама, як і бедняка»

(Ліда), або што «ад зьліквідаваньня сэрвітутаў кулак пакуткуе роўна з беднатой, і таму яго трэба абараняць роўна з беднатою».

Гэта яўна хлусьлівыя заявы, накірованыя непасрэдна супроць бедняты, разбураемай фашысцкім зьліквідаваньнем сэрвітутаў і падатковай сыстэмай у карысьць памешчыкаў і кулакоў.

Некаторыя таварышы заяўляюць, што за КПЗБ ідзе «уся вёска», пры чым гэтыя таварышы настойліва не жадаюць прызнаць антыпартыйны характар гэтай установкі і не адмаўляюцца ад яе. Яны ня хочуць зразумець, што сваімі заявамі яны раззбройваюць партыю і працоўныя масы ў іх цяжкай барацьбе супроць заўзятага ворага працоўных і эксплёатуемых кулаком, які зьяўляецца дапаможнікам і апорай буржуазнай дыктатуры, соцыяльнай базай беларускага нацыянал-фашызму ўсіх гэтых Луцкевічаў Станкевічаў, Ярэмічаў—саюзьнікаў і агентаў польскай буржуазіі, окупуючых Заходнюю Беларусь.

Усім гэтым опортуністычным антыпартыйным устаноўкам, якія зьяўляюцца адбіткам ідэолёгіі і інтарэсаў клясавага ворага, КПЗБ давала хуткі і зруйнавальны адпор, так сама, як яна давала адпор усім тым кулацкім агентам у горадзе і вёсцы, у першую чаргу, так зван. «працоўнай» (чытай кулацка-буржуазнай) інтэлігенцыі, якая ідзе пад сьцягам нацыянал-фашызму, якая распаўсюджвае фальшывыя погляды аб яўна цяжкім становішчы ня толькі асноўнай бядняцка-серадняцкай масы вёскі, але і *ўсяе вёскі, у тым ліку* і кулака, і ў яўным адыходзе гэтага «абожанага» кулака ад фашызму і пераходу яго на опозыцыйныя да фашысцкай дыктатуры позыцыі. У сваёй штодзённай працы КПЗБ выкрывала і будзе выкрываць сапраўдную, г. зн., контррэволюцыйную дзейнасьць гэтых «радыкальных» фраз кулацкіх агентаў, падхлебнікаў і ідэолёгаў.

Самую жорсткую барацьбу КПЗБ вяла з найбольш хітрай і небясьпечнай формай атакі ідэолёгіі клясавага ворага-кулака, які змог пралезьці нават у шэрагі некаторых вясковых організацый і сеяў там *антыбатрацкія настроі*. У асобных вясковых організацыях чутны былі галасы: «работа сярод батракоў зьяўляецца ня толькі непатрэбнай, але і лішняй і злачыннай, бо батракі—гэта панскія падлізы». У сувязі з такімі размовамі і настроямі праца сярод батракоў не вялася нават у такіх раёнах, дзе ёсьць значная колькасьць абшарніцкіх эканомій, якія абцяжарваюць дзесяткі тысяч парабкоў, і дзе партыйная організацыя ў вёсцы дастаткова моцная. Гэтым складаліся перагародкі на шляху да ахопу парторганізацыяй сельска-гаспадарчых рабочых, што зьяўлялася перашкодай у справе ўмацаваньня гэгемоніі пролетарыяту ў галіне кіраўніцтва барацьбой сялянскіх мас.

З такімі размовамі і настроямі, роўна як і з усімі іншымі праявамі правага опортунізму на практыцы, КПЗБ вяла непрымірлівую барацьбу, не застанаўліваючыся перад выключэньнем з партыі ўсіх, якія ўпіраюцца ў права-опортуністычную блытаніну, усіх, хто на справе скочваецца да рэнэгацтва, да здрады прынцыпам комунізму. Вядучы самую бязьлітасную барацьбу супроць правага опортунізму на практыцы і ў тэорыі, КПЗБ давала і дае зруйнавальны адпор і «леваму» опортунізму і ўсякім праявам дробнабуржуазнага радыкалізму, які знаходзіць адбітак, напрыклад, у бойкоцкіх тэндэнцыях у адносінах да працы комуністаў у самакіраўніцтвах.

Мелі месца выпадкі праявы бойкоцкіх настрояў у Слонімшчыне і Навагрудчыне ў час апошніх перавыбараў, больш таго, у Брэсцкай акрузе радыкальныя галосныя адмовіліся ад сваіх паўнамоцтваў, ад далейшай барацьбы ў самакіраўніцтвах. Найбольш яскравая праява недастатковага адпору бойкоцкім настроям мела месца ў час Лідзкіх вы-

бараў, калі яскрава рэволюцыйныя настроі рабочых і сялянскіх мас, расчараваўшыся ў буржуазным парлямэнтарызьме, ня былі скарыстаны партыйнай організацыяй для актыўнай барацьбы з фашысцкай дыктатурай, роўна як і парлямэнцкай фіранкай гэтай дыктатуры. Масы пайшлі па шляху пасыўнага протэсту супроць тэрору фашысцкай дыктатуры і абмежаваліся шырокай хваляй бойкоту, якая была скарыстана фашызмам у тым сэнсе, што на выбарах найбольшую колькасьць галасоў сабралі польскія народніцка-фашысты з «Строньніцтва Хлонскаго», якія зьяўляюцца складанай часткай фашысцкага лягеру і агентамі кіруючай хэўры Пілсудзкага.

КПЗБ правільна давала, дае і будзе далей даваць адпор усім «левым» размовам аб тым, што мы, быццам, «гатовы да рэволюцыі, але прымаць актыўны ўдзел у дэмонстрацыях і кожнадзённай рабоце не жадаем таму, што лічым неабходным ня мець лішніх ахвяр». Тут палахлівае бахвальства на руку толькі клясаваму ворагу і фашысцкаму ўраду.

У барацьбе супроць рабоча-сялянскага блёку фашысты ўсіх колераў і масьцей разгарнулі шалёную паклёпніцкую кампанію, накіраваную на дыскрэдытацыю соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі ў СССР, на дыскрэдытацыю барацьбы бядняцка-серадняцкіх мас СССР, пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі, за ўзьняцьце свайго добрабыту шляхам добраахвотнага пераходу ад індывідуальна-жабрацкай да магутнай машынна-фабрычнай колектыўнай гасападаркі.

Гэтай паклёпніцкай кампаніі нізавыя організацыі КПЗБ не змаглі адразу даць адпор і паралізаваць манэўры буржуазіі. У асобных выпадках таварышы абвяшчалі нават самую колектывізацыю вымыслам буржуазіі, якая нібы мае на мэце дыскрэдытаваць рабоча-сялянскі ўрад Савецкага Саюзу ў вачох працоўнага і эксплёатуемага сялянства Польшчы і Заходняй Беларусі, у якім моцна яшчэ сядзяць карані прыватнаўласьніцкіх інстынктаў. Мелі месца і супроцьлеглыя зьявішчы, калі рэволюцыйна настроеныя сяляне прымалі рашэньні зараз жа ісьці па прыкладу савецкіх беднякоў і сераднякоў у выглядзе протэсту супроць фашысцкай дыктатуры, аб'яднаць свае гаспадаркі ў колектыў. Гэта ўтаропленасьць, з аднаго боку, і «левыя» загібы, з другога, якія былі праяўлены шэрагам ніжэйшых організацый і асобнымі сябрамі партыі, мелі сваёй крыніцай недастатковасьць работы КПЗБ і ўсяе КПП у галіне растлумачэньня і пропаганды разгорнутай установкі комуністаў у аграрным пытаньні.

Да гэтага часу КПЗБ і КПП зусім правільна зьварталі максымум увагі на пропаганду лёзунгу зямлі бяз выкупу для сялян і на барацьбу за перамогу ўнутры партыі старых соцыял-дэмократычных установак у аграрным пытаньні, установак, якія зьяўляліся адлюстраваньнем недаацэнкі ролі сялянства ў пролетарскай рэволюцыі, пазбаўлялі пролетарыят дапамогі шырокіх сялянскіх мас у барацьбе за зьнішчэньне дыктатуры буржуазіі. Аднак недахопам работы КПЗБ у гэтай галіне было тое, што партыя, укараняючы ў сьвядомасьць сваіх сяброў, што асноўнай умовай перамогі пролетарыяту над буржуазнай дыктатурай зьяўляецца злучэньне пролетарскай рэволюцыі з сялянскай вайной за зямлю пад кіраўніцтвам пролетарыяту, не асьвятляла задач пролетарыяту ў справе кіраўніцтва далейшай барацьбой мас сялянства за карэннае палепшаньне сялянскіх мас, пасьля захопу памешчыцкай зямлі, шляхам соцыялістычнага будаўніцтва.

У земляробстве КПЗБ зусім правільна высоўвала лёзунг дзеяньня сялян за зьнішчэньне памешчыцкай уласнасьці на зямлю і памешчыцкай эксплёатацыі. Але партыя павінна падрыхтаваць сваіх сяброў, як

авангард пролетарыяту, як перадавы шэраг клясы, гэгемона і кіраўніка барацьбой асноўных мас сялянства, да неабходнасьці вырашыць аграрнае пытаньне папролетарску, каб умець на практыцы пераканаць сялянскія масы, што толькі шлях пролетарыяту, шлях соцыялістычнай організацыі сельскай гаспадаркі прывядзе да караннога палепшаньня становішча сялян працаўнікоў, зьнішчыць няроўнасьць паміж рабочай клясай і асноўнай масай сялянства, зьнішчыць «ідыётызм» вясковага жыцьця.

Гэты шлях патрабуе ня толькі зьнішчэньня памешчыцкай уласнасьці на зямлю і перадачы зямлі бяз выкупу працоўнаму сялянству, але і патрабуе пасьлядоўнага зьнішчэньня прыватнай уласнасьці на зямлю (нацыоналізацыя), каб забясьпечыць працоўныя масы ад магчымасьці адраджэньня новых памешчыкаў, вясковых капіталістых і ў далейшым перайсьці да больш высокіх гаспадарчых форм сельскай гаспадаркі, шляхам колектывізацыі, абагуленьня на добраахвотных пачатках дробных, жабрацкіх, адсталых сялянскіх гаспадарак і замены іх соцыялістычнай формай—машыннай сельска-гаспадарчай вытворчасьцю. Канчатковай мэтай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца ліквідацыя апошняй капіталістычнай, эксплёататарскай клясы ў вёсцы—кулацтва. Ліквідацыя кулацтва як клясы, ва ўмовах усеагульнай колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, зьяўляецца адным з рашучых крокаў па шляху пролетарскай рэволюцыі да зьнішчэньня клясаў наогул і стварэньня бясклясавай грамады.

Ня гледзячы на некаторае на першы час адставаньне парторганізацый у справе колектывізацыі ў СССР, партыя цалкам, пад кіраўніцтвам ЦК, змагла хутка перабудавацца, усвоіць правільныя ўстаноўкі і організаваць адпор антыколгаснай контррэволюцыйнай пропагандзе фашысцка-памешчыцка-кулацкага лягеру. Дзякуючы гэтаму працоўнае сялянства ЗБ і ЗУ, як асноўныя сялянскія масы ўсяе Польшчы, усё лепш разьбіраюцца ў паклёпе буржуазіі, памешчыкаў, кулакоў і іх падхлебнікаў. Гэтыя масы ўсё глыбей усьведамляюць той факт, што мільёны і мільёны бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак Савецкага Саюзу *добраахвотна* адмаўляюцца ад капіталістычнага шляху разьвіцьця, які нясе разбурэньне мільёнаў, жабрацтва і беспрасьветную эксплёатацыю, высоўвае на разбурэньнях мільёнаў адзінкі ў разрад кулацкіх, буржуазных гаспадарак эксплёататарскага тыпу. Сяляне ЗБ і ЗУ ўсяе Польшчы ведаюць, што мільённыя масы беднаты, серадвякоў у СССР добраахвотна ўступілі на шлях абагуленьня сваіх гаспадарак, каб на рэйках соцыялістычнай гаспадаркі рашуча ўзьняць і палепшыць сваё матар'яльнае і культурнае становішча. Вось чаму асноўныя масы сялянства ў Польшчы з вялічэзнай нянавісьцю сустракаюць падрыхтоўку вайсковага нападу фашысцкай Польшчы на СССР, як справу разбурыць узброенай рукой соцыялістычнае будаўніцтва, якое праводзіцца рабочай клясай і апіраецца на беднату і колгасьнікаў і ідзе ў цесным саюзе з серадняцкім сялянствам пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі ўсяго Савецкага Саюзу.

Толькі вясною 1930 г. (сакавік) ЦК КПЗБ даў яскравую, выразную, усебаковую пастаноўку гэтай проблемы. У лісьце па гэтаму пытаньню аб падрыхтоўцы забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых ЦК КПЗБ гаворыць:

«Асноўным зьвяном, якое злучае барацьбу сельска-гаспадарчага пролетарыяту і працоўнага сялянства, павінен быць лёзунг: «зямля бяз выкупу для сялян і сельска-гаспадарчых рабочых». Наша партыя павінна падкрэсьліваць, што для вызваленьня ад эксплёатацыі абшарнікаў як сельска-гаспадарчых рабочых, так і мас працоўнага сялянства,

нямінуча адабраньне зямлі абшарнікаў і перадача яе бяз выкупу сялянам і сельска-гаспадарчым рабочым, зьнішчэньне фашысцкай дыктатуры і стварэньне рабоча-сялянскага ўраду. Партыя павінна ўжо цяпер растлумачваць масам, што пасьля адабраньня зямлі ад абшарнікаў яны самі будуць вырашаць пытаньне аб формах карыстаньня гэтай зямлёю, паказваць пры гэтым на вялізарныя дасягненьні Савецкага Саюзу, што адзінай формай, якая цалкам зьнішчае ўсе балячкі на вёсцы, зьяўляецца социялістычная перабудова сельска-гаспадарчага ладу на падставе будаўніцтва вясковых колектыўных гаспадарак і вялізарных фабрык збожжа-саўгасаў (совхозов). Гэта ўразумелі сельска-гаспадарчыя рабочыя і сяляне СССР, у выніку чаго зьяўляецца стыхійнае імкненьне беднаты і сераднякоў у колгасы, якія ўжо ў сучасны момант ахопліваюць звыш 40% вясковых сялянскіх гаспадарак СССР.

***

Комуністычная партыя Заходняй Беларусі паставіла перад сабой шэраг задач, якія яна, пад кіраўніцтвам адноўленага ЦК КПП і ЦК КПЗБ, цьвёрда праводзіць у жыцьцё. На першым месцы КПЗБ паставіла барацьбу супроць вайсковых падрыхтовак фашысцкай дыктатуры, за заваёву рашучай большасьці рабочай клясы, за ўзмацненьне гэгемоніі пролетарыяту і кіраўніцтва комуністычнай партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху. У сувязі з хуткім нарастаньнем рэволюцыйнай сытуацыі, партыя паставіла перад сабой задачу самай рашучай барацьбы і паказаньне контррэволюцыйнай сутнасьці социял-фашысцкіх, народніцка-фашысцкіх і нацыянал-фашысцкіх партый, якія зьяўляюцца апошняй апорай выратаваньня фашысцкай дыктатуры. Адначасова партыя ўкараняе ў сьвядомасьць сваіх сяброў і шырокіх беспартыйных мас, якія знаходзяцца пад уплывам партыі, неабходнасьць стварэньня адзінага фронту барацьбы *зьнізу,* з рабочымі, якія ідуць яшчэ з социял-фашыстымі.

КПЗБ удзяляе вялізарную ўвагу шырокай пропагандзе ідэі ўзброенага паўстаньня, як адзінага шляху для зьнішчэньня фашысцкай дыктатуры. Адначасова КПЗБ змагаецца супроць усялякіх настрояў, роўна як і супроць усялякіх дэмократычных ілюзій і супроцьстаўляе ўсім формам буржуазнай дыктатуры лёзунг саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў—дыктатуру пролетарыяту.

Комуністычная партыя Заходняй Беларусі вядзе няпрымірлівую барацьбу з фашысцкай дыктатурай, бязьлітасна ачышчаючы свае шэрагі ад правых опортуністых і «левых» загібшчыкаў. Гэта барацьба на два фронты супроць капітулянцкіх тэорый групы т.т. Косташава, Сьцяфанскага і Бранда, б. лідэраў правага ўхілу ў КПП, супроць права-опортуністычных памылак на практыцы, супроць «левых» заскокаў і прымірэнцтва да ўсіх відаў опортунізму, за бальшавіцкую монолітнасьць і сапраўдную консолідацыю партыі навакол адноўленага ЦК КПП і ЦК КПЗБ зьяўляецца залогам далейшых посьпехаў партыі ў справе бальшавізацыі сваіх шэрагаў і пераможнага кіраўніцтва рэволюцыйнай барацьбой пролетарыяту і працоўных мас Заходняй Беларусі, якая ў цесным саюзе з працоўнымі масамі ўсяе Польшчы і пад кіраўніцтвам ЦК КПП і Комінтэрну змогуць высока ўзьняць чырвоны сьцяг пролетарскай рэволюцыі над Заходняй Беларусьсю і Польшчай.

С. Маргелаў

# Дасьледчая справа ў галіне с.-г. экономіі БССР

У задачу гэтага артыкулу ўваходзіць—даць крытычны нарыс мінулага і сучаснага стану навукова-дасьледчай справы ў галіне с.-г. экономікі як з боку яе організацыйных форм, так з боку тэматыкі і мэтаду. Таму над характарыстыкай паасобных прац мы падрабязна застанаўлівацца ня будзем, лічачы адначасова, што падобнага роду спэцыяльны нарыс таксама неабходна зрабіць у бліжэйшы час.

I.

Аб даваенным стане навукова-дасьледчай справы ў галіне с.-г. эканомікі на Беларусі ня можа быць доўгай гутаркі з тэй прычыны, што ў той час навукова-дасьледчае справы як гэтакай зусім не існавала.

У задачу акраіннае політыкі царскага ўраду былой «адзінай і непадзельнай» Расіі зусім ня ўваходзіла наданьне такой раскошы «отсталым народностям». Падобныя рэчы падмяняліся сапраўднай колёніяльнай політыкай з неадымаемымі ад яе атрыбутамі: узмоцненым соцыяльным і нацыянальным уціскам, аграрызацыяй і, як вынік, экономічнай і культурнай адсталасьцю. Таму мы зараз можам гаварыць толькі аб некаторых статыстычных матэрыялах з дарэволюцыйных часоў на Беларусі, як дадзеныя ЦСК, губэрскія справаздачы і перапісы, сельска-гаспадарчыя перапісы 1916 і 1917 і інш.гадоў, даныя транспортнае статыстыкі і некаторыя працы статыстычнага характару, як Ф. Ястрэмскага і інш. Вось усё тое, што нам засталося ад царскага ладу ў гэтай галіне. Організацыйнага афармленьня, або грунтоўных прац у галіне навуковых дасьледваньняў па с.-г. экономіі зусім ня было. Не вялася на Беларусі нават і такая праца, як земская статыстыка.

З падобнага роду статыстычных матар'ялаў пасьлярэволюцыйных часоў можна адзначыць перапіс 1920 г. і штогоднія працы ЦСКБ па вясеньніх і асеньніх роспытах 0,1 часткі гаспадарак, а таксама бюджэтныя матар'ялы па гнёздах, закладзеных у розных раёнах БССР у ліку каля 20 гнёзд.

Акрамя гэтых прац чыста статыстычнага характару, у пасьлярэволюцыйныя часы пачынае паступова разгортвацца сапраўды дасьледчая праца ў галіне с.-г. экономікі. Гэтая праца, ня маючы ў першыя часы пэўнае лёкалізацыі і організацыйных форм, праводзілася як існаваўшымі тады сельска-гаспадарчымі інстытутамі Менскім і Горы-Гарэцкім, так НКЗБ, Інбелкультам і проста паасобнымі працаўнікамі. Друкаваныя працы паасобных аўтараў зьмяшчаюцца як у запісках памянёных інстытутаў, так і ў часопісе «Народное Хозяйство БССР» і паасобнымі выданьнямі. Мы тут ня будзем пералічваць паасобных аўтараў і іх працы, ня будзем, згодна ранейшаму ўмаўленьню, займац-

ца і характарыстыкай гэтых прац. Зараз гэта не ўваходзіць у нашы мэты. Мы тут толькі адзначым агульную рысу, якая ўласьціва ўсёй гэтай працы. Гэта—адсутнасьць у ёй організацыйнага аб'яднаньня, адгэтуль адсутнасьць плянаваньня і ідэолёгічнага кіраўніцтва ёй.

Толькі з часу організацыі Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту 26/I-1927 г. пачынаецца некаторае організацыйнае аформленьне як наогул навукова-дасьледчае справы па сельскай і лясной гаспадарцы БССР, так і ў прыватнасьці па с.-г. экономіцы. Організацыйнае аформленьне і кіраваньне апошняю галінаю навукова-дасьледчае справы ўскладаецца на Аддзел сельска-гаспадарчай экономіі і аграрнае політыкі БНДІ, які існаваў аж да канца 1929 году, калі (15/XII-1929 г.) ён быў рэорганізаваны ў Аддзел сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі на грунце новага пэрспэктыўнага і рабочага пляну працы.

Зараз мы застановімся на характарыстыцы 3-гадовае працы былога Аддзелу с.-г. экономіі і аграрнае політыкі як з мэтаю крытычнае яе ацэнкі, так і з мэтаю складаньня належнага ўяўленьня аб падставах, неабходнасьці і сутнасьці зробленай рэорганізацыі.

## II.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што зацяжка організацыйнага аформленьня навукова-дасьледчае працы наогул па БНДІ адбівалася і адбіваецца аж дагэтуль і на разглядаемым намі аддзеле, конкрэтызуючыся ў такім фокусным яго пункце, як пэрспэктыўныя і рабочыя пляны.

Аддзелу даводзіцца мець справу аж з трэцім пэрспэктыўным плянам свае працы. Гэта азначае, што амаль з кожным годам, пры складаньні гадовага рабочага пляну, нямінуча падымаецца пытаньне аб пераробцы і пэрспэктыўнага пляну. Праўда, падобнае становішча ўласьціва ў той або іншай форме ўсім нашым плянам. Соцыялістычнае будаўніцтва ўва ўсіх галінах нашае гаспадаркі ідзе такімі моцнымі крокамі ўперад, што пляны адстаюць, патрабуюць час ад часу папраўак і прыстасаваньня. Гэта зусім натуральна.

Але-ж гэта натуральна і прыймальна тады, калі нашы пляны сапраўды выпраўляюцца і прыстасоўваюцца да жыцьця. У выпадку-ж, калі мы гэтага выпраўленьня фактычна ня маем, калі ўсё прыстасаваньне плянаў да запатрабаваньняў жыцьця абмяжоўваецца тым, што ў падзагалоўку, замест «на 1926-30 г. г.», ставіцца «на 1928-29 і 1932-33 г.г.», то гэта ўжо проста недарэчнасьць, якая мяжуе з шкоднасьцю. А такое становішча фактычна мы мелі з пэрспэктыўнымі плянамі Аддзелу с.-г. экономіі і аграрнае політыкі.

Па зьместу працы як пэрспэктыўныя, так і гадавыя пляны работ б. Аддзелу с.-г. экономіі і аграрнае політыкі, ня кажучы ўжо аб іх поўнай непрыстасаванасьці да абслугоўваньня процэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі ў сельскай гаспадарцы БССР, ня мелі наогул яскрава вызначаных установак, не надавалі выразнага месца аддзелу ў сыстэме НДІ, а адгэтуль і ўва ўсёй сыстэме навукова-дасьледчай працы. Так, у справаздачы БНДІ за 1927 год—«Першы год працы»—наступным чынам вызначаюцца задачы Аддзелу: «Аддзел сельска-гаспадарчай экономіі і аграрнай політыкі мае перад сабою нялёгкую задачу вывучыць і высьветліць экономічныя, соцыяльныя, гісторычныя і політычныя ўмовы, у якіх жыла даўней і цяпер жыве сельская гаспадарка Беларусі і яе паасобныя галіны, вывучыць структурныя і організацыйныя формы гаспадаркі, якія складаюцца ці то ў парадку сты-

хійнага разьвіцьця, ці плянавага ўплыву дзяржавы, высьветліць эканомічную рацыянальнасьць гэтых форм і галін, а нават і паасобных спосабаў ды мерапрыемстваў, адным словам, даць адказ на шэраг пытаньняў, без выясьненьня якіх немагчыма сьвядомае плянавае кіраваньне паасобнай гаспадаркай і яшчэ больш немагчымы мэтазгодны ўплыў на масавую гаспадарку».

У гэтым вызначэньні, як бачыце, ёсьць ўсё, што толькі пажадана, аж да «плянавага кіраваньня паасобнай гаспадаркай», няма тут толькі нічога конкрэтнага, выразнага, што-б давала працы Аддзелу прынцыповую базу.

Важнейшай працай Аддзелу, на працягу ўсяго часу яго існаваньня, лічылася «устанаўленьне ў сялянскіх гаспадарках розных раёнаў пастаянных рахунковых запісаў» («Першы год працы»), «працы па сыстэматычнай закладцы і вядзеньню рахунковых запісаў і іх дэталёвай апрацоўцы Аддзел надае выключна паважнае значэньне («Другі год працы»), гэта праца лічыцца пастаўленай «па прыкладу замежных краін з інтэнсыўнай сельскай гаспадаркай» («Другі год працы») і г. д. Нарэшце лічылася, што «завядзеньне рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадарках мае не малое значэньне ў справе рэорганізацыі іх у бок большай рацыянальнасьці і зыскоўнасьці» («Першы год працы»). Але гэтага яшчэ мала. «Аддзел лічыць неабходным,—пішацца ў пэрспэктыўным пляне працы,—уключыць у плян і распрацоўку проблем, якія маюць чыста тэорытычнае значэньне (?), што зьвяжа навуковую працу Аддзелу з разьвіцьцём сусьветнай эканомічнай думкі»(!) Мала гэтага, Галоўнавука, пры разглядзе плянаў працы навукова-дасьледчых установ, у агульнай зводцы—«Навукова-дасьледчая праца па сельскай гаспадарцы»—лічыць, што плян працы (гэтага Аддзелу на пяцігодку) распрацаваны дэтальна і правільна» і з асаблівым задавальненьнем адзначае, што «Аддзел лічыць неабходным уключыць у плян і распрацоўку проблем, якія маюць чыста тэорэтычнае значэньне, што зьвяжа навуковую працу Аддзелу з разьвіцьцём сусьветнай экономічнай думкі».

Гэтыя вытрымкі даюць натолькі яскравае ўяўленьне аб выходных прынцыпах пабудовы працы б. Аддзелу, што ім ня толькі непатрэбны комэнтарыі, але яны самі тлумачаць нявыразныя агульныя формуліроўкі аб «нялёгкіх задачах» Аддзелу.

Такім чынам, калі адкінуць не атрымаўшыя ніякай конкрэтызацыі «соцыялістычныя» фразы, то выразна выяўляецца ўстаноўка ўсіх плянаў працы Аддзелу на абслугоўваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак з об'ектыўным або суб'ектыўным наданьнем іх разьвіцьцю капіталістычнай пэрспэктывы. Гэтыя ўстаноўкі цалкам пераносіліся на працу Аддзелу, на вынікі яго дасьледваньняў. Праца і яе вынікі абумоўліваліся яшчэ і структураю аддзелу, наяўнымі працаўнікамі і мэтодам, якім гэтая праца ажыцьцяўлялася. У організацыйнай структуры Аддзел ставіў сабою бясформеную, бюрократычную адзінку. У ім проектавалася згарнуць аж 12 габінэтаў. Ня кажучы ўжо аб тым, што такая структура ні ў якім разе не вымагалася запатрабаваньнямі працы, што яна ўносіла ў працу толькі бюрократычную валакіту, нярэальнасьць і нерацыянальнасьць ажыцьцяўленьня такой структуры працы як з боку сродкаў, так і сіл была відавочна.

Фактычнага заснаваньня такая організацыйная сыстэма не атрымала і атрымаць не магла. Але ўсё-ж і тая структура, якая фактычна існавала ў складзе трох габінэтаў 1) аграрнай політыкі і соцыялістычнага земляробства, 2) сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі,

3) сельска-гаспадарчай географіі, раёнаваньня і статыстыкі), самастойнага бюро рахунковых запісаў і станцыі НАП,—зьяўлялася няжыцьцёвай.

Гэтая організацыйная сыстэма разрозьнівала, індывідуалізавала працу Аддзелу паміж паасобнымі габінэтамі і працаўнікамі і ня была зьвязана агульным ні адміністрацыйным, ні ідэолёгічным кіраўніцтвам. Дзякуючы гэтаму, нават і тыя нязначныя сілы, якія меліся пры Аддзеле, не маглі быць належным чынам выкарыстаны. І, калі ўвесь Аддзел грунтаваўся ў дасьледчай працы на выпадковых проблемах па заказу розных установ, дык паасобныя працаўнікі выконвалі даручаную ім працу выключна індывідуальна, ізолявана ад другіх і адгэтуль саматужна. Крайняя індывідуалізацыя зьяўлялася характэрнай рысай усяе працы Аддзелу. Гэтая індывідуалізацыя, разам з амаль поўнай адсутнасьцю марксыцкі вытрыманых працаўнікоў, з наяўнасьцю выхаванцаў буржуазнае і нэонародніцкае школы; адсутнасьць належнай організацыйнай сыстэмы, а таксама адсутнасьць ідэолёгічнай праверкі і кіраўніцтва склалі найлепшыя ўмовы для росквіту саматужніцтва, бясконтрольнае працы кожнага па свойму, для зьяўленьня цэлага шэрагу прац—большай часткі ўсіх прац Аддзелу—буржуазнага, дробнабуржуазнага і эклектычнага характару, об'ектыўна або суб'ектыўна шкодных па сваіх выніках для соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы (праца па экономіцы земляўпардкаваньня—Ліадта, Кісьлякова, Макарава; умовы разьвіцьця рынкавай сьвінагадоўлі на Беларусі—Ждановіч; нарыс па грамадзкай агрономіі Беларусі—Лайкова і інш.).

Гэтыя працы, замест навуковага асьвятленьня шляхоў колгаснага і саўгаснага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы і пераваг гэтага будаўніцтва перад капіталістычным разьвіцьцём вёскі, даказвалі якраз адваротнае: перавагі хутарскога, высялковага і дробна-пасялковага будаўніцтва. Атрымоўвалася такая недарэчнасьць таму, што аўтары не аказаліся на належнай вышыні для тэорэтычнага вырашэньня проблем сучаснага будаўніцтва, яны не змаглі перамагчы навуковаю об'ектыўнасьць свае дробнабуржуазнае, буржуазнае і эклетычнае прыроды.

Гэтыя працы часткова ўжо былі падвергнуты марксыцкай крытыцы, а большасьць з іх яшчэ патрабуе яе. На жаль, самі працаўнікі Аддзелу абыходзяць гэтыя яўна шкодныя працы маўчком, а ў свой час нават іх узаемна расхвальвалі.

Яшчэ аднэй характэрнейшай рысай працы Аддзелу, на якой трэба застанавіцца, было страшэннае зацягваньне ў выкананьні прац, зацягваньне аж да таго, што вынікі звычайна рабіліся непатрэбнымі для практыкі (рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках, эфэктыўнасьць капіталаўкладаньняў і інш.), уся праца ператваралася ў нікому непатрэбнае паўтарэньне задоў, у звычайны хвасьцізм. Падобнае зацягваньне тэрміну выкананьня паасобных прац афіцыйна лічылася нормальным. У пэрспэктыўным пляне былога Аддзелу т... і кажацца, «што кожная тэма для сваёй канчатковай апрацоўкі патрабуе ад аднаго да трох год».

Зацягваньне выкананьня кожнай з тэм на тры гады, падвоенае адсталасьцю ад жыцьця самім тэм, не магло нарадзіць нічога лепшага і іншага, чым недапушчальны хвасьцізм. Праўда, навукова-дасьледчай працы апошняга часу наогул уласьціва адсталасьць ад практычнага жыцьця, ад яго запатрабаваньняў, што так выразна было падкрэсьлена тав. Сталіным у яго прамове на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых, дзе ён сказаў: «...калі мы маем падставу гонарыцца практычнымі пось-

пехамі соцыялістычнага будаўніцтва, то нельга тое-ж самае сказаць аб посьпехах нашае тэорэтычнай работы ў галіне экономікі наогул, у галіне сельскай гаспадаркі ў асаблівасьці. Больш таго, трэба прызнаць, што за нашымі практычнымі посьпехамі не пасьпявае тэорэтычная думка, што мы маем некаторы разрыў паміж практычнымі посьпехамі і разьвіцьцём тэорэтычнае думкі».

Калі ў гэтай адсталасьці ад запатрабаваньняў жыцьця навукова-дасьледчая справа ў галіне с.-г. экономікі на БССР ня мае нічога асаблівага і новага, дык яна мае свае асаблівасьці ў тым, што ў ёй недахоп адсталасьці падвойваўся яшчэ больш моцным недахопам,—шкоднасьці па выніках.

III

Ня меў Аддзел належнай выразнасьці і ў справе падрыхтоўкі навуковае зьмены ў дасьледчых кадрах—асьпірантаў. Гэтая актуальнейшая справа, ня гледзячы на дэкларацыі аб тым, што «другім разьдзелам працы Аддзелу зьяўлялася падрыхтоўка ў выглядзе асьпірантуры высокакваліфікаваных навуковых працаўнікоў» («Другі год працы»), ня мела організаванасьці ні па НДІ наогул, ні па Аддзелу; ня было нават яскравага ўяўленьня аб організацыі гэтай справы, і пытаньне аб гэтым не падымалася з боку Аддзелу. Праўда, недахопы па падрыхтоўцы кадраў уласьцівы ня толькі НДІ, ці яго Аддзелм, а ўсім навукова-дасьледчым і навучальным установам БССР. І асабліва балюча адчуваецца неорганізаванасьць справы падрыхтоўкі кадраў якраз на ідэолёгічных вышынях клясавае барацьбы на аграрным фронце, г. зн. на кадрах навучальных і навукова-дасьледчых. У гэтай галіне, у момант бурнага соцыялістычнага будаўніцтва, калі роля навукі падымаецца надзвычайна высока, і небходнасьць у навукова-дасьледчай працы адчуваецца на кожным кроку, мы амаль на кожным жа кроку спатыкаемся з такімі зьявішчамі, што тая або іншая адказьнейшая кіраўнічая роля выконваецца звычайным земскім агрономам, які па сваёй сутнасьці ня можа належным чынам успрымаць соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы. Мы маем прыклады, калі гэтымі гора-вучонымі старанна пішуцца аб'ёмістыя кнігі па «Организации крупного обобществленного сельского хозяйства» і калі ў гэтых кнігах не асьвятляецца абсолютна ніводнае з пытаньняў організацыі колгасаў і саўгасаў, калі ўся прыстасаванасьць гэтых прац да колгасаў і саўгасаў абмяжоўваецца ўжываньнем гэтых тэрмінаў замест хутароў, капіталістычных фэрм і г. д. Па сутнасьці ж уся пабудова гэтых прац прыстасавана якраз да гэтых фэрм і кулацкіх хутароў аж да ўжываньня ня толькі мэтодаў, але і тэрмінолёгіі, адпаведных соцыяльнаму тыпу капіталістычных фэрм і кулацкіх хутароў,—буржуазнага мэтоду, капіталістычных катэгорый.

Наогул жа праца б. Аддзелу с.-г. экономіі і аграрнай політыкі можа быць ахарактарызавана так:

1. Ня маючы ні выразнай організацыйнай структуры, якая-б надавала Аддзелу належнае месца ў сыстэме навукова-дасьледчае працы і спрыяла чоткасьці гэтае працы, ні сталага навукова-адміністрацыйнага і ідэолёгічнага кіраўніцтва, якое-б каардынавала ўсю працу і забясьпечвала дабраякаснасьць яе вынікаў.

2. Прынцыповай ўстаноўкай Аддзелу была орыентацыя ўсіх плянаў працы на абслугоўваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

3. Крайняя індывідуалізацыя ўсяе працы паміж працаўнікамі.

4. Наяўнасьць сярод працаўнікоў выхаванцаў буржуазнай, дробнабуржуазнай школ і эклектыкаў пры амаль поўнай адсутнасьці марксыцкі вытрыманых кадраў.

5. Недапушчальная сыстэма зацяжкі выкананьня прац на некалькі год аж да поўнай страты іх практычнай актуальнасьці.

6. Нізкая і об'ектыўна або суб'ектыўна шкодная якасьць большасьці выпушчаных прац.

7. Адсутнасьць сыстэмы і выразнасьці ў справе падрыхтоўкі асьпірантаў.

Вось характэрныя асаблівасьці працы б. Аддзелу сельска-гаспадарчай экономіі і аграрнай політыкі, асаблівасьці, якія прымусілі катэгорычна паставіць пытаньне аб каранной рэорганізацыі ўсяе структуры і працы Аддзелу.

## IV.

Рэорганізацыя Аддзелу с.-г. экономіі і аграрнай політыкі ў Аддзел сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі конкрэтызуецца ў наступным.

Перш за ўсё карэнным чынам зьмяняецца орыентацыя ўсяе навукова-дасьледчае працы Аддзелу з абслугоўваньня індывідуальных сялянскіх гаспадарак на абслугоўваньне запатрабаваньняў соцыялістычных форм сельскай гаспадаркі (саўгасы, колгасы). Гэтая пераорыентацыя працы Аддзелу адбываецца як праз зьмену ўсяе тэматыкі працы, так і праз зьмену мэтоду яе выкананьня.

Калі рабочыя пляны былога Аддзелу амаль зусім ня мелі ў сабе тэм з калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, а грунтаваліся на такіх працах, як рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках, нормы землякарыстаньня і проблемы недрабімасьці, географічнае разьмяшчэньне і дынаміка форм землякарыстаньня, вывучэньне дынамікі сельскае гаспадаркі этнографічнае Беларусі з 1890 г. да 1915 году, зямельныя адносіны Беларусі ад другой паловы XIX стагодзьдзя да Кастрычнікавай рэволюцыі і ў пэрыод утварэньня БССР і інш. у гэтым родзе,— то плян працы рэорганізаванага Аддзелу пабудаваны на такіх працах, як складаньне тыповых організацыйных плянаў для колгасаў розных вытворчых тыпаў, цэлы комплекс тэм па дасьледваньню колгасаў БССР, комплекс тэм па саўгасах БССР, па тэхнічных культурах і бульбе, па індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР, па малочнай жывёле і сьвіньнях і г. д. Некаторыя тэмпы з мінулых гадоў, ня маючыя актуальнага практычнага значэньня, хоць і пастаўлены ў плян для таго, каб іх скончыць, але яны аднесены на апошнюю чаргу як па адпушчаных на іх эпэрацыйных сродках, так і сілах[1]).

Індывідуалізацыя і адгэтуль саматужніцтва ўласьцівае працы б. Аддзелу зьнішчаецца рашучым курсам на колектывізацыю навуковых працаўнікоў Аддзелу навакол комплекснага дасьледваньня тых або іншых проблем і паасобных тэм з соцыялістычнага будаўніцтва сельскае гаспадаркі. Гэтая колектывізацыя ў працы ажыцьцяўляецца як праз організацыю рабочых груп, працуючых на тым або іншым заданьні з боку Аддзелу, так і праз абгаварэньне на пленумах і нарадах Аддзелу мэтодолёгіі падрыхтоўкі дасьледваньня, правядзеньне апошняга, распрацоўку матар'ялаў і абгаварэньне літаратурна-аформленых вынікаў. Такім шляхам надаецца поўная мажлівасьць дапамогі паасоб-

[1]) Мы ня можам тут прывесьці ўсяго раб. пляну Аддзелу, таму адсылаем зацікаўленых чытачоў да справаздачы ВНДУ.—„Трэці год працы", Менск, 1930 г., дзе зьмешчаны гэты плян цалкам.

ным таварышом у выпраўленьні іх памылак, мажлівасьць рашучай і жорсткай сваячасовай барацьбы супроць усякае буржуазнае, дробнабуржуазнае і інш. блытаніны, мажлівасьць колектыўнае творчасьці ў навукова-дасьледчай справе.

Пры такой організацыйнай пабудове самога мэтоду навукова-дасьледчае працы адпадае фактычна ўсякая неабходнасьць ня толькі шматлікіх, але і наогул габінэтаў. Уся кіраўнічая праца па Аддзелу можа концэнтравацца ў агульным прэзыдыуме ў складзе: загадчыка Аддзелу, яго намесьніка і навуковага сэкратара. Штат вучоных спэцыялістых, асыстэнтаў, аспірантаў і статыстыкаў Аддзелу ў дасьледчай справе аб'яднаецца ў рабочыя трупы навакол распрацоўваемых пытаньняў. Такая фактычная організацыя працы сучаснага Аддзелу, хоць фармальна ён яшчэ і не пазбавіўся наяўнасьці габінэтаў, лік якіх, праўда, зьведзены да двух: 1) габінэт сельска-гаспадарчай эканоміі, 2) габінэт організацыі соцыялістычнае сельскае гаспадаркі. Існаваньне і гэтых габінэтаў абмяжоўваецца непатрэбнаю формальнасьцю, ад якой у самы бліжэйшы час неабходна пазбавіцца. Акрамя прэзыдыуму і паказаных габінэтаў, пры Аддзеле існуюць два бюро: програмна-мэтодолёгічнае і сталага назіраньня за тыповымі колгасамі і саўгасамі, якія складаюцца з працаўнікоў Аддзелу і працуюць па мэтоду тых жа рабочых груп.

Програмна-мэтодолёгічнае бюро мае сваёй задачай даваць консультацыі і заключэньні па програмах як экспэдыцыйных досьледаў, так і па распрацоўцы матар'ялаў гэтых досьледаў. Гэта зусім новая організацыйная форма, якая мае на ўвазе падпарадкаваць паасобныя дасьледваньні сталаму кірўніцтву колектыўнае думкі Аддзелу, дысцыплінаваць програмы паасобных досьледаў задачам гэтых досьледаў і г. д.

Бюро сталага назіраньня за тыповымі колгасамі і саўгасамі замяніла сабою б. пры Аддзеле бюро рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадараках і мае на мэце праз абраныя гаспадарчыя базы і пастаноўку належнага назіраньня ў іх концэнтраваць і дапасаваць навуковыя дасьледваньні да запатрабаваньняў саўгаснага і колгаснага гаспадарчага разьвіцьця, зьвязаць іх належным чынам організацыйна.

Акрамя таго, Аддзелу падпарадкаваны такія самастойныя організацыі, з спэцыяльнымі штатамі, плянамі і каштарысамі, як станцыя НАП і земляўпарадкаваўчая сэкцыя.

Сэкцыя змляўпарадкаваньня, якая концэнтруе сваю працу ў Горках, організавана і далучна да Аддзелу с.-г. экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, выходзячы з паўстаўшых актуальных проблем земляўпарадкаваньня колгасаў і саўгасаў, проблем ператварэньня земляўпарадкаваньня наогул у такія формы організацыі тэрыторыі, якія-б былі цалкам дапасаваны да сучасных тэмпаў і форм соцыялістычнай перабудовы вёскі. Над гэтымі проблемамі і сконцэнтравана праца земляўпарадкаваўчай сэкцыі.

Станцыя навуковай організацыі працы мае задачаю вывучэньне і рацыяналізацыю процэсаў працы ў сельскай гаспадарцы. Базай станцыі зьяўляюцца дасьледчыя станцыі НДІ і НКЗ, а таксама тыповыя колгасы і саўгасы. Фактычнага заснаваньня гэтая станцыя яшчэ ня мела за адсутнасьцю належных працаўнікоў. Мала таго, падрыхтоўка навуковых працаўнікоў у галіне НАП пачалася толькі з гэтага году, калі быў пасланы адзін аспірант для падрыхтоўкі на Кіеўскую станцыю НАП. Падобнае да ганебнасьці запушчэньне працы ў галіне НАП у сельскай гаспадарцы не зьяўляецца выпадковасьцю, наадварот, тут зноў-ткі сказалася «дальнавіднасьць» кіраўніцтва былой Галоў-

навукі. Так, у раней ужо памянёнай зводцы—«Навукова-дасьледчая праца па сельскай гаспадарцы»,—дзе ўхваляецца «чыстая» навука і сувязь праз яе з «сусьветнай» навукай, існаваньне станцыі НАП пры НДІ прызнаецца проста «немэтазгодным».

## V.

Праца Аддзелу сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі па вырашэньню тых або іншых проблем з колгаснага і саўгаснага будаўніцтва павінна грунтавацца на пэўных даных. Данымі гэтымі зьяўляюцца маючыяся ў БССР матар'ялы літаратурныя і сырыя, матар'ялы стацыянарных дасьледваньняў (рахункаводзтва і гадавыя справаздачы колгасаў і саўгасаў, хрономэтраж) і матар'ялы спэцыяльна організаваных экспэдыцый. За пасьлярэволюцыйныя часы на БССР назьбіралася шмат матар'ялаў па сельскай гаспадарцы; матар'ялы гэтыя параскіданы па розных установах і ня маюць належнага выкарыстаньня. Шмат чаго з гэтых матар'ялаў можа быць выкарыстана і неабходна выкарыстаць. Таму Аддзел ставіць сваёй задачай усё, што мажліва, сабраць, узяць на вучот, організаваць архіў і наладзіць мажлівасьць выкарыстаньня ўсіх гэтых матар'ялаў.

## VI.

Калі сучасны размах і тэмп соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі вымагае неабходнасьць концэнтрацыі і павялічэньня ўвагі на навукова-дасьледчай працы і тым самым надае вялікае значэньне БНДІ імя Леніна, як асяродку і організатару гэтае навуковадасьледчае працы, дык гэтым жа самым вызначаецца ня менш вялікае значэньне, у сыстэме самога інстытуту, Аддзелу сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Гэты аддзел робіцца такім органам інстытуту, які, разам з непасрэдным абслугоўваньнем запатрабаваньняў з боку соцыялістычнай рэконструкцыі, павінен даваць кірунак усяе навукова-дасьледчай працы па шляху яе рацыяналізацыі. На падставе вывучэньня асаблівасьцяй запатрабаваньняў соцыялістычнае рэконструкцыі ў раёнах дзейнасьці дасьледчых станцый Аддзел павінен зрабіць ацэнку ўсіх праведзеных дасьледваньняў і плянаў дасьледчай працы як дасьледчых станцый, так і аддзелаў НДІ з боку іх дапасаванасьці да гэтых запатрабаваньняў. Выкананьне апошніх задач Аддзел ажыцьцяўляе праз сувязь з аддзеламі організацыі соцыялістычнае сельскай гаспадаркі ўсіх дасьледчых станцый, організацыі якіх вымагае само жыцьцё. Гэтыя аддзелы, не атрымаўшыя яшчэ належнага юрыдычнага афармленьня, ухвалены ўсебеларускай нарадай па дасьледчай справе і прызнаюцца ўсімі дасьледчыкамі як актуальная неабходнасьць. У самым хуткім часе гэтая справа атрымае конкрэтную рэалізацыю як з боку НДІ, так і НКЗ.

Аддзелы організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, будучы організаваны па ўсіх дасьледчых станцыях і ўваходзячы ў гэтыя станцыі, як іх асноўная, кіруючая частка, адначасова зьвязваюцца і падпарадкуюцца Аддзелу сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БНДІ ў навуковым кіраўніцтве (увязка і зацьверджаньне плянаў, дача консультацый, нарады).

Адзначанымі момантамі даволі выразна і адпаведна вызначаецца месца Аддзелу ў навукова-дасьледчай справе на БССР. Тут нам хацелася-б яшчэ раз падкрэсьліць усю веліч значэньня навуковадасьледчае працы, як падставы замацаваньня яе належнаю ўвагаю, сродкамі і сіламі. Конфэрэнцыя аграрнікаў марксыстых, надаючы гэ-

таму пытаньню вялікую ўвагу і бачачы практычныя перашкоды ў гэтай справе з боку празьмернага практыцызму паасобных працаўнікоў, палічыла неабходным напісаць у сваёй рэзолюцыі па дакладу тав. Міпоціна спэцыяльны пункт, які кажа: «Соцыялістычная рэконструкцыя ўсяе народнае гаспадаркі і ў тым ліку сельскае гаспадаркі вымагае значнага пашырэньня і паглыбленьня навукова-дасьледчае працы, якая павінна абслугоўваць інтэрэсы соцыялістычнай рэконструкцыі.

Проблемы плянаваньня сельскае гаспадаркі, асабліва на базе суцэльнае колектывізацыі, перарастаньне больш простых відаў колгасаў у вышэйшыя формы, утварэньне буйнейшых абагуленых гаспадарак на машына-трактарнай базе, арганізацыя саўгасаў-гігантаў ва ўсіх галоўнейшых галінах сельскае гаспадаркі, арганізатарская роля пролетарыяту ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, проблемы клясавае барацьбы па-за колгасамі і элемэнтаў клясавае барацьбы ў колгасах, проблемы тэхнікі (асабліва электрыфікацыі) і арганізацыі працы ў новых умовах соцыялістычнага будаўніцтва, узаемаадносін саветаў, колгасаў і спажывецкай с.-г. коопэрацыі ва ўмовах суцэльнае колектывізацыі,—усе гэтыя проблемы падлягаюць уважлівай навукова-дасьледчай прапрацоўцы і тэорэтычнаму аналізу.

Разам з гэтым конфэрэнцыя канстатуе, што ў шэрагу кіраўнічых працаўнікоў як у цэнтры, так і на мясцох існуе недаацэнка неабходнасьці тэорэтычнае працы і экономічных дысцыплін у прыватнасьці. Конфэрэнцыя лічыць неабходным пакласьці канец гэтай недаацэнцы тэорэтычнай працы і ў асаблівасьці ў галіне экономічных дысцыплін, выкарыстоўваючы ў практычнай працы ў поўнай меры ўсе дасягненьні марксыцка-ленінскай аграрнай навуковай думкі».

Практычная рэалізацыя гэтае дырэктывы мае надзвычайна вялікае значэньне і ў нас на БССР, дзе навукова-дасьледчая справа толькі пачынае становіцца на ногі і патрабуе ўсямернага падтрыманьня.

## VII

Зроблены зараз рашучы пералом і ў справе падрыхтоўкі кадраў у галіне дасьледчае справы па сельска-гаспадарчай экономіі на БССР. Перш за ўсё Аддзелу давялося ачысьціцца ад людзей, якія становілі сабою або баласт у навукова-дасьледчай справе або чужы, варожы соцыялістычнаму бёудаўніцтву лягер тэорэтыкаў буржуазіі. Застаўшыяся навуковыя працаўнікі былі адпаведна спэцыялізаваны, а на спэцыяльнасьці, якія вымагаюцца жыцьцём і не замешчаныя, ужыты належныя захады па падрыхтоўцы людзей праз адпаведную асьпірантуру. Справе падрыхтоўкі асьпірантаў надана пэўная сыстэма: арганізаваны сэмінары, складзены пляны і програмы падрыхтоўкі, вызначаны кіраўнікі і неабходныя камандыроўкі. Вялізным недахопам у гэтай справе зьяўляецца тое, што адчуваецца вялікі недахоп належным чынам падрыхтаваных людзей, які-б маглі быць выкарыстаны на замяшчэньне асьпіранцкіх пасад. Гэтая недарэчнасьць павінна вырашацца ў нашых ВНУ праз больш шырокае высоўваньне здольных і клясава адпавядаючых для навуковае працы студэнтаў.

Такія ў агульных рысах арганізацыйныя, тэматычныя і мэтодолёгічныя ўстаноўкі сучаснага стану плянавае навукова-дасьледчае працы ў галіне с.-г. экономіі і арганізацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі на БССР.

Плянаваньне і ідэолёгічнае кіраўніцтва ўсёю гэтаю працай сконцэнтравана ў Аддзеле с.-г. экономіі і арганізацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БНДІ імя Леніна. Да непасрэднага выкананьня гэтае

працы працягваецца шэраг навуковых працаўнікоў з пазасьцен БНДІ, асабліва з БАН і БДСГА. Для абмеркаваньня плянавых і мэтодолёгічных пытаньняў прыцягваецца шэраг ведамсьцвеных працаўнікоў, як НКЗ, Колгассаюз, Дзяржплян і г. д.

## VIII

Апроч непасрэдна плянавай працы, Аддзелам сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі разгорнута даволі шырока дасьледчая праца больш інтэнсыўнага характару. Гэтая праца носіць характар нібы грамадзкае нагрузкі працаўнікоў Аддзелу і концэнтруецца, па-першае, навакол выстаўкі, па-другое, навакол шэфскае працы над Жлобінска-Рагачэўскім агроіндустрыяльным комбінатам і, па трэцяе, навакол БДВ па выданьню масавае навукова-папулярнае літаратуры.

Для выстаўкі працаўнікамі Аддзелу распрацоўваецца і экспонуецца каля 10 тэм. Акрамя таго, шэрг працаўнікоў Аддзелу ўдзельнічае непасрэдна ў організацыйнай працы выстаўкому ў якасьці загадчыкаў аддзелаў.

Па Жлобінска-Рагачэўскім агроіндустрыяльным комбінаце вядзецца праца па складаньню організацыйных плянаў на паасобныя гаспадарчыя адзінкі, па організацыйнай сувязі паасобных адзінак з агульным кіраўніцтвам па комбінату, па рацыяналізацыі рахункаводзтва і вучоту працы, а таксама распрацоўваецца каля 5 тэм з будаўніцтва ў гэтым комбінаце. Тэмы гэтыя ахапляюць паасобныя галіны сельскае гаспадаркі і індустрыялізацыю ўсяго комбінату.

Па БДВ працаўнікамі Аддзелу распрацоўваецца каля 15 тэм, на якія будуць напісаны навукова-популярныя брошуры часткова для вясеньняй пасяўной кампаніі, а часова для асеньняй.

Калі дадаць да ўсяго сказанага яшчэ консультацыі працаўнікоў розных установ і ўдзел у цэлым шэрагу курсаў, то атрымаецца малюнак надзвычайна вялікай працы, якую зараз ажыцьцяўляе Аддзел з сваімі параўнача нязначнымі сродкамі і сіламі. Вялізная нагрузка вымагаецца запатрабаваньнямі жыцьця, на якія дагэтуль не зварачвалася ўвагі, і таму ўтварыўся вялізны разрыў паміж тэорыяй і практыкай, які неабходна запоўніць у чым-бы та ні стала.

Для своечасовага і добраякаснага выкананьня ўсяе гэтай, бязумоўна, вялізнай працы Аддзел разгортвае соцыялістычнае спаборніцтва, на якое ён выклікаў Аддзел сельска-гаспадарчай экономіі і статыстыкі Дзяржаўнага інстытуту дасьледчай агрономіі ў Ленінградзе. Своечасовае-ж выкананьне гэтай вялізнай працы і выкананьне на базе матэрыялістычна-дыялектычнага мэтоду, у духу поўнай адпаведнасьці дырэктывам комуністычнае партыі і савецкай улады па ўзмацненьню тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы на базе і пры кіраўнічай ролі індустрыі, дапаможа Аддзелу, а разам з гэтым і ўсяму НДІ імя Леніна, ня толькі поўнасьцю дапасаваць сваю працу да запатрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, але і папярэдзіць гэтыя запатрабаваньні.

Толькі пры гэтай умове праца Аддзелу, як і наогул навукова-дасьледчая праца, зойме належачае ёй месца ў соцыялістычным будаўніцтве і пачне ствараць тую «сапраўдную тэорыю», аб якой гаварыў тав. Сталін на Ўсесаюзнай конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых, тэорыю, якая «дае практыкам моц орыентоўкі, яснасьць пэрспэктывы упэўненасьць у рабоце».

Г. Бондар

# Пакончыць з рэшткамі нованародніцтва

*З поваду кнігі Доўнар-Запольскага «Народное хозяйство Белоруссии»*

„Ідучы па шляху марксавай тэорыі, мы будзем наблі-жацца да об'ектыўнай ісьціны ўсе больш і больш, ніколі ня вычэрпваючы яе; ідучы-ж па ўсякаму іншаму шляху, мы ня можам прысьці ні да чаго іншага, апрача блытаніны і ілжы".

Ленін—„Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм".

У даным артыкуле мы разгледзім працу профэсора Доўнар-Запольскага «Народное хозяйство Белоруссии». Зусім ня варта-б было траціць час на разбор гэтае кнігі, якая выдадзена яшчэ ў 1926 г., каб ёй не карысталіся і ў сучасны момант. Тое-ж, што яна зьяўляецца ня толькі матар'ялам, але нават падручнікам для студэнтаў, прымушае нас разгледзець гэты твор з пункту гледжаньня таго, наколькі падыходзіць ён, як падручнік, на якім выхоўваецца наша вузаўская моладзь.

## I.

Прычыны ўпаду прыгоннага права ў былой Расіі ў сучасны момант вывучаны і досыць вядомы. У асноўным яны заключаюцца ў разлажэньні натуральнай гаспадаркі пад уплывам пранікненьня капіталу і капіталістычных адносін, бо як раз напярэдадні ўпаду прыгону назіралася значнае ажыўленьне ў разьвіцьці прамысловасьці і гандлю. Хуткае разьвіцьцё ў краіне капіталістычнай гаспадаркі і фабрычна-заводзкага вытворства патрабавала пераходу ад прыгоннай працы да вольнанаёмнай.

Паднявольная праца аказалася ня выгоднай ня толькі для прамыслоўцаў, але і для большасьці памешчыкаў. Паступовае ўцягненьне сельскай гаспадаркі былой Расіі ў рыначныя адносіны ўтварыла цэлы рад экономічных супярэчнасьцяй. Памешчыкі, зрабіўшыся прадпрыемцамі, мелі большую патрэбу ў грошах, мацней націскалі на прыгоннага селяніна і за кошт скарачэньня сродкаў спажываньня апошняга павялічвалі сваё вытворства.

Аднак, тая сыстэма вытворства, якая можа існаваць пры натуральным ладзе гаспадаркі, пры нізкіх хлебных цэнах і занялпадзе хлебнага вывазу, зусім не адпавядала новым буржуазна-капіталістычным адносінам у сельскай гаспадарцы. Памешчык-прадпрыемец, які вырабляў хлеб ня толькі для ўнутранога, але і для зьнешняга рынку, прымушаны быў перабудаваць сваю гаспадарку на новых капіталістычных асновах. Разам з прадпрыемцам у прамысловасьці—памешчык, пераканаўшыся на практыцы ў перавагах вольнанаёмнай працы перад паднявольнай, прыгоннай. Гэта ідэя пранікла ў рады памешчыкаў яшчэ да рэформы 1861 году; яна прымусіла некаторых з іх ліквідаваць сваю прыгонную гаспадарку яшчэ да рэформы і ўвесьці капіталістычныя формы гаспадараньня.

Але, калі консэрватыўнасьць памешчыкаў і аграрны крызіс напярэдадні рэформы затрымалі на некаторы час ўпад прыгону, дык з канцом гэтага крызісу і з ажыўленьнем на сусьветным рынку адбыўся ўжо поўны зрух у галовах памешчыкаў і ўраду. Мы бачым, такім чынам, што зьнешнія і ўнутраныя рынычныя адносіны разлажылі прыгонную гаспадарку і прымусілі ўрад формальна аслабаніць сялян ад прыгоннай залежнасьці і тым самым памагчы разьвязаць капіталістычныя адносіны. Вось тыя прычыны, якія прывялі да падзеньня прыгоннага права.

Здавалася-б, няма патрэбы даводзіць, што рэформа, вядома, была прогрэсам па шляху разьвіцьця гаспадаркі, але праводзілася памешчыцкім урадам і выключна ў інтарэсах капіталістаў і памешчыкаў. Для сялянства-ж рэформа праставуляла паўтарэньне прыгонных адносін, пры тым нават у больш цяжкіх разьмерах. Ленін з гэтага поваду пісаў наступнае: «Сялян вызвалілі ў Расіі самі памешчыкі, памешчыцкі ўрад самадзяржаўнага цара і яго чыноўнікі. І гэтыя «вызваліцелі» так павялі справу, што сяляне вышлі на волю абарванымі, як жабракі, выйшлі з няволі ў памешчыкаў у няволю да тых жа памешчыкаў і іх стаўленікаў» (т. XI, ч. II, стр. 220). Уся сыстэма вылічэньня сялянскіх павіннасьцяй за «зямлю і волю» па існасьці захоўвала іх ранейшую залежнасьць ад памешчыка. Але зусім іншае гаворыць Доўнар-Запольскі.

Так, калі «прыгоннае права прыносіла усе ўласьцівыя яму жахі», дык зусім іншае атрымала сялянства пасьля рэформы. Паводле Доўнар-Запольскага выходзіць, што «...сялянства атрымала свабоду, пэўная часьць яго магла знайсьці працу ў разьвіваючыхся гарадох на фабрыках і заводах, маючы да таго-ж для гарадзкіх і фабрычных промыслаў навыкі, набытыя ў прыгонную эпоху». «Беларускі селянін быў вызвалены ў эпоху, якая адбівала на сабе ўсе адзнакі глыбокага заняпаду гаспадарчага жыцьця краіны» (ст. 1), і далей: «Калі ўзважваеш усе гэтыя ўмовы нізкай гаспадарчай структуры Беларусі прыгоннай эпохі, адсутнасьць капіталаў, беднасьць і прыніжанасьць вёскі, раскошу панскага двара, дык пачынаеш разумець прычыны марўднага нарастаньня дабрабыту ў эпоху, наступіўшую за вызваленьнем. Беларускі народ атрымаў магчымасьць самастойна і для сябе абрабляць сваю неўрадлівую зямлю ў момант найвялікшага аб'яднаньня яго гаспадаркі, у такі цяжкі момант свайго гаспадарчага жыцьця, у якім ён, відаць, ніколі раней ня быў і ў якім адначасова не знаходзіліся яго паўднёвыя і ўсходнія пабрацімы—украінцы і велікарусы» (ст. 7). «Селянін выйшаў з рэформы вольным, з зямлёй, якія на першы час магла задаволіць у аграмаднай большасьці наяўнае пакаленьне» (ст. 66). Поўная ідэалізацыя рэформы

Як бачым, паводле Доўнар-Запольскага, увесь цяжар, які прышлося несьці сялянству наогул і беларускаму ў часнасьці, абумоўлены эпохай прыгону. Рэформа-ж прынесла з сабою для сялянства «вызваленьне» і магчымасьць працаваць «самастойна і для сябе». А калі гэта так, значыцца, стварылася магчымасьць эканомічнага ўздыму гаспадаркі. Аб гэтым Доўнар-Запольскі піша з усёй шчырасьцю, вось паслухайце. «У шасьцідзесятых гадох насельніцтва *папраўілася* пасьля прыгоннай эпохі і ў семідзесятых адчувала сябе *эканомічна найбольш устойлівым*» (ст. 13). Далей Доўнар-Запольскі пачынае сьпяваць проста такія хвалебныя гымны пасьлярэформенаму часу, нібы сапраўды рэформа прынесла беларускаму селяніну вызваленьне і магчымасьць пасьпяховага гаспадарчага разьвіцьця. Так, ён піша: «...у *галіне сельскай гаспадаркі*, больш таго, імення ў *галіне сялянскай гаспадаркі Беларускі народ зрабіў, як пабачым, вялізарныя посьпехі, абагнаў сваіх*

II.

Марксызм сьцьвярджае, што ў аснове прогрэсу народнай гаспадаркі ляжыць разьвіцьцё вытворчых сіл краіны, і што з заняпадам вытворчых сіл адбываецца і процэс заняпаду гаспадаркі. Але ёсьць псэўдавучоныя, якія не разумеюць гэтага асноўнага марксыцкага палажэньня аб прымаце вытворчых сіл. Яны сьцьвярджаюць адваротнае, што рухавіком прогрэсу грамадзтва зьяўляецца насельніцтва і што пры яго павялічэньні ідзе больш шпаркім тэмпам і разьвіцьцё народнай гаспадаркі наогул і сельскай гаспадаркі ў часнасьці. У нас, у БССР, таксама ёсьць такія працаўнікі, якія стаяць на гэтым антымарксыцкім пункце гледжаньня. Так, Бонч-Асмолаўскі ў сваёй працы «Эволюция сельского хозяйства БССР с 80-х годов прошлого столетия до настоящего времени (1924 г.)», якая зьмешчана ў часопісе «Савецкае будаўніцтва» за 1926 г., піша: «*У аснове эволюцыі сельскай гаспадаркі, як адной з праяўленьняў-социяльна эканомічнага разьвіцьця наогул, ляжыць процэс павялічэньня насяленьня*». І далей на працягу ўсяго артыкулу выводзіць залежнасьць пашырэньня засеўнай плошчы, рост ураджайнасьці і г. д. ад росту насяленьня. Вядома, марксызм не адмаўляе таго, што насяленьне зьяўляецца адным з фактараў эволюцыі, але лічыць, што гэта ёсьць не асноўны фактар, бо ён сам па сабе зьяўляецца функцыяй, велічынёй, якая залежыць ад грамадзкіх адносін.

Доўнар-Запольскі таксама ставіць у непасрэдную залежнасьць разьвіцьцё вытворчых сіл і гаспадарчую структуру краіны ад росту і разьмеркаваньня насельніцтва.

Арганізацыйна-вытворчая аснова сялянскай гаспадаркі зьвязваецца ім з наяўным запасам рабочай сілы сям'і, а значыцца, і ўзроўнем спажыцьця. Так, на старонцы 14-й мы чытаем: «Ёсьць рад умоў, якія зьвязваюць гаспадарчую структуру краіны з тымі ці іншымі суадносінамі росту і разьмеркаваньня насяленьня. Сярод гэтых умоў застасаваньне масы працы да земляробства мае цесную сувязь з наяўнасьцю мужчынскага складу рабочых і з яго суадносінамі да агульнага складу сям'і. Больш высокі склад мужчынскага рабочага пэрсоналу ў сям'і забясьпечвае сельска-гаспадарчай працы большыя дасягненьні. Цесная сувязь колькасьці рабочых мужчынскага роду з палепшанай сялянскай гаспадаркай некалькі разоў ужо адзначалася ў нашай літаратуры. Яна закранута была ў аднэй з прац Каўцкага, а не так даўно добра разьвіта проф. Чаянавым на прыкладзе Яраслаўскай гаспадаркі». І далей на старонцы 15-й Доўнар-Запольскі надзвычайна ясна і выразна падкрэсьлівае залежнасьць сялянскай гаспадаркі, яе беднасьць і багацьце ад колькасьці рабочых рук у сям'і. Так, ён піша: «*Гаспадарчая моц сялянскай сям'і самым сьціслым спосабам зьвязана ня толькі з разьмерам зямлі, але і з колькасьцю рабочых рук у сям'і. Сялянская сям'я ўстойліва трымаецца, калі яна мае сярэдня-выстарчальную колькасьць рабочых рук, яна багацее, ператвараючыся ў колектыў з большым лікам рабочых, і занепадае, марнее па меры зьмяншэньня ў ёй рабочай сілы*». (Падкрэсьлена намі). З гэтых вынятак выходзіць, што Доўнар-Запольскі стаіць на пункце гледжаньня нованароднікаў, абараняючы працаспажывецкую тэорыю разьвіцьця сялянскай гаспадаркі.

Погляды нованароднікаў выплывалі з нібы-та «асобных» законаў разьвіцьця сялянскай гаспадаркі, таму яны стварылі і асобную праца-спажывецкую ці арганізацыйна-вытворчую тэорыю. Так, выдатны прадстаўнік гэтай тэорыі, проф. Чаянаў, на якога спасылаецца ў сваёй кніжцы Доўнар-Запольскі, пісаў: «Кладучы сялянскую гаспадарку

*усходніх суседзяй*». (Ст. 7; падкрэсьлена ўсюды намі). Вось як добра выглядзіць пэрыод пасьля рэформы 1861 году паводле слоў Доўнар-Запольскага.

Няверная ацэнка рэформы і ўсяго пасьлярэформенага часу прывяла і да няверных вывадаў, зусім не адпавядаючых рачаіснасьці. Нам вядома тая ацэнка, якую далі рэформе марксысты. Вядома і тое, што сялянства пасьля рэформы апынулася яшчэ ў большай залежнасьці ад памешчыкаў і капіталістаў. Гэтаму дапамагалі такія моманты, як *скарачэньне* тае зямельнай плошчы, што была раней у карыстаньні сялян, *недахват сенажацяй і выганаў*, дрэнная якасьць сялянскай зямлі, *недахват жывёлы, кругавая парука, адсутнасьць крэдыту і г. д.*

У сувязі з усім гэтым селянін, вызваліўшыся ад платы натуральных павіннасьцяй памешчыку, прымушаны быў несьці перад памешчыцкай дзяржавай шэраг іншых больш цяжкіх грашовых павіннасьцяй. Замест мінулага падушнага падатку, дзяржаўнага збору, на сялянства ляглі выкупныя плацяжы за зямлю памешчыкаў, аброчны падатак за зямлю быўшых дзяржаўных сялян, дзяржаўны земскі збор, мясцовыя земскія зборы, падушны падатак, мірскія зборы, рэкруцкія зборы і інш. Усе гэтыя плацяжы ўзрасьлі ў параўнаньні з дарэформенымі і абсолютна, асабліва ў грашовай сваёй частцы. Яны лажыліся на сялянскую гаспадарку нязносным ярмом. Так, агульная сума збораў і плацяжоў у некаторых мясцовасьцях перавышала ў 5 разоў агульны даход ад усяе гаспадаркі. (Гл. працу Батурынскага «Аграрная палітыка царскага правіцельства»).

Хіба пасьля гэтага можна гаварыць аб «вялікіх усьпехах», якія мела беларускае сялянства ў выніку рэформы?

Сялянства, «вызваленае» ад значнай часткі лепшай зямлі, што знаходзілася ў яго карыстаньні, павінна было з паменшаных надзелаў здабываць значна больш сродкаў для выкананьня павіннасьцяй, пры чым ужо не праз памешчыка, а самастойна і непасрэдна праз рынак, рэалізуючы свае продукты ў грашовую форму. Свае зямлі ў сялян не хапала, і зямля памешчыка пастарому, як і ў час прыгону, за грашовую плату, а часта нават і за натуральную плату апрацоўвалася сялянствам, сялянскім інвэнтаром і жывёлай.

Рэформа была праведзена так, што і пры новых умовах перажыткі прыгоннай гаспадаркі і адносін захаваліся яшчэ на доўгі час. Рэформа дала ў рукі памешчыка новыя экономічныя магчымасьці ўплыву на сялянскую гаспадарку для выціскаsuccessiveньня з яе яшчэ большых даходаў. Разьмер гэтых даходаў ад эксплёатацыі сялянскай гаспадаркі быў настолькі значны, што ў параўнаньні з ім ня мела часта для памешчыка ніякай карысьці ўласная гаспадарка на капіталістычных пачатках.

Гэта ўсё разам узятае затрымлівала магчымасьць усьпешнага разьвіцьця вытворчых сіл, асабліва ў галіне сельскае гаспадаркі. Невыстарчальна забясьпечанае зямлёй, абцяжаранае нязноснымі плацяжамі і падаткамі сялянства пасьля «вызваленьня» папала ў яшчэ большую залежнасьць ад памешчыка, чым нават да рэформы.

Вось якую «волю» і «усьпехі» атрымала сялянская гаспадарка пасьля рэформы, калі падыйсьці правільна да асьвятленьня гісторычных фактаў. Паводле-ж кніжкі Доўнар-Запольскага выходзіць зусім адваротнае: рэформа выглядае ў яго мерапрыемствам, якое дало сялянству «волю» і «вялізарныя» усьпехі беларускаму народу ў справе разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Да чаго можна сказіць факты жыцьця маўклівай старухі-гісторыі.

ў аснову будучага народна-гаспадарчага ладу ў Расіі, мы павінны ўлічваць, што яна самой прыродай сваёй адрозьніваецца ад гаспадаркі капіталістычна-арганізаванай, у рамках якое мы прывыклі звычайна вырашаць экономічныя проблемы. Гаспадарка сялянская ёсьць раней за ўсё гаспадарка сямейная, увесь лад якой вызначаецца разьмерам і складам сям'і, якая вядзе гаспадарку, суадносінамі яе спажывецкіх запытаў, яе рабочых рук».

Як бачым, асновай экономікі сялянскай гаспадаркі, паводле гэтай тэорыі, зьяўляецца працоўны спажывецкі яе характар, які грунтуецца на «біолёгічна-сямейным пачатку». У аснову ўсяго экономічнага разьвіцьця нованароднікі кладуць біолёгічны фактор, якім зьяўляецца рост насяленьня. Такім чынам, уся тэорыя набывае не социяльны характар, а натуралістычны. Адсюль для людзей, што прытрымліваліся гэтай тэорыі, была незразумелай социяльна-экономічная існасьць і супярэчнасьці, уласьцівыя сялянскай гаспадарцы, разьядаемай капіталізмам, і было незразумелым, што сялянства не прадстаўляе сабою аднародную масу, як гэта думалі народнікі, а пад уплывам капіталізму яно разлагалася на паасобныя социяльныя пласты. Гэтага зусім ня бачылі і не разумелі нованароднікі.

Палажыўшы ў аснову разьвіцьця сельскае гаспадаркі сямейны пачатак, нованароднікі праглядзелі ў вёсцы клясы і клясавае змаганьне. Яны дайшлі да цьвярджэньня, што капіталізм у вёску не пранікае, што ён ня мае там базы. Яны лічылі, што калі сялянская гаспадарка працуе толькі для таго, каб задаволіць свае ўласныя спажывецкія патрэбы, дык яна ў сваім вытворстве не залежыць ад рынку і не вызначаецца ўзроўнем цэн. Так Чаянаў у сваёй кніжцы «Основные идеи и формы организации крестьянской кооперации» пісаў: «Вялікая галіна народнае гаспадаркі, у выглядзе сельскагаспадарчага вытворства, пабудавана ў большай сваёй частцы не на капіталістычных пачатках, а на пачатках працоўнай сямейнай гаспадаркі, якой уласьцівы іншыя мотывы гаспадарчай дзейнасьці і нават іншае разуменьне выгаднасьці». Як бачым, гэта тэорыя прыводзіла да неразуменьня агульнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі, продукцыйных сіл, а значыцца, і неразуменьня тых социяльных адносін, таго клясавага змаганьня, якое адбываецца ў вёсцы ў сувязі з яе дыфэрэнцыяцыяй

Прадстаўленьне аб сялянскай гаспадарцы, як біолёгічным адзінстве, прыводзіла народнікаў і да няверных вывадаў.

Пад агнём марксыцкай крытыкі, у асаблівасьці крытыкі Леніна, якая грунтавалася на правільным аналізе рачаіснасьці, старое народніцтва, ідэалізаваўшае натуральную сялянскую гаспадарку, прымушана было значна адступіць. Наяўнасьць розных клясавых груп у сялянстве, процэс далейшай дыфэрэнцыяцыі, бязупыннае вылучэньне ім пролетарыяту і буржуазіі—усё гэта з усёй яснасьцю было ўскрыта і паказана ў ленінскім «Разьвіцьці капіталізму ў Расіі». Ленін пісаў: «Сямейная коопэрацыя, аб якой любілі талкаваць нашы народнікі, зьяўляецца, такім чынам, базісам капіталістычнай коопэрацыі».

Погляд на сялянства і яго гаспадарку, як на ізоляваную масу, якая жыве сваім аўтономным жыцьцём і мае ў аснове біолёгічна-сямейны фактор, выключаў магчымасьць правільнай пастаноўкі і вырашэньня пытаньня аб социяльнай прыродзе сялянства, аб уласьцівых яму супярэчнасьцях і дыфэрэнцыяцыі. Социяльна-экономічныя катэгорыі замяняліся народнікамі, а пазьней нованароднікамі, прыроднымі катэгорыямі. Адсюль і вучэньне аб «асобных шляхох» разьвіцьця сялянскай гаспадаркі, адмаўленьне клясавай розьніцы ў сялянскай гаспадарцы, аб'ясьненьне маемаснай розьніцы сярод сялянства «праца-

спажывецкім балянсам». Разглядаючы сялянскую гаспадарку, як «асобны організм», орыентуючыся на заможную частку вёскі, як найбольш моцную і на іх думку прогрэсыўную, нованароднікі па істоце зьяўляліся простымі выразіцелямі капіталістычных тэндэнцый у вёсцы.

Нованароднікі, будучы прадстаўнікамі дробна-буржуазнай тэорыі, сталі на абарону захаваньня дробнай гаспадаркі, замаскоўваючы гэтым абарону інтарэсаў кулацкай часткі сялянства. На гэтым антымарксыцкім пункце гледжаньня стаіць і Доўнар-Запольскі, які разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі таксама ставіць у залежнасьць ад натуралістычных фактораў, ад наяўнасьці ў сям'і рабочых рук.

### III

Народнікі ў мінулым і нованароднікі ў сучасным, абараняючы дробнае вытворства ў сельскай гаспадарцы, грунтаваліся на ідэолёгіі дробнага зямельнага ўласьніка. Народнікі сьцьвярджалі, што дробнае вытворства пануе ва ўсіх краёх і ў прыватнасьці ў рускай сельскай гаспадарцы. Усе прадстаўнікі дробна-буржуазнай політычнай экономікі заяўлялі, што дробная сялянская гаспадарка мае пераваґу над буйнай, сваю гэту думку яны абасноўвалі тым, што ў складзе засеваў інтэнсыўныя культуры ў сялянскай гаспадарцы складаюць большы процант, чым у буйнай памешчыцкай гаспадарцы. Іншымі словамі, на іх думку буйнае вытворства ў землеробстве адбівае экстэнсыўны характар. На гэтым дробна-буржуазным пункце гледжаньня стаіць і Доўнар-Запольскі.

Так на старонцы 150-й мы чытаем: «Сялянства вельмі ахвотна імкнецца да інтэнсыфікацыі свайго вучастку. Гэта адносіцца і да рускага сялянства (Пешахонаў )і яскрава даводзіцца на прыкладах нават парцэлярнай гаспадаркі Даніі і Бельгіі».

Нам вядома, што ў якасьці моцнага аргумэнту ў абарону пераваг дробнай гаспадаркі нованароднікі: Чаянаў, Чэлінцаў, Макараў і іх аднадумцы прыводзілі даныя аб вытворстве тэхнічных культур. Доўнар-Запольскі ў гэтым пытаньні таксама знаходзіцца на позыцыях нованародніцкай дробна-буржуазнай школы.

Выходзячы з даных беларускай рачаіснасьці, ён констатуе, што засевы ільну маюць месца ў большай меры ў дробных сялянскіх гаспадарках і ў меншай меры або і зусім ня маюць месца ў буйных памешчыцкіх гаспадарках. Доўнар-Запольскі піша: «Калі ў справе бульбянае культуры сялянская гаспадарка павінна была конкураваць з памешчыцкай і вышла пераможцай з гэтай конкурэнцыі, дык ільняная культура, як мы ўжо ведаем, ёсьць найбольш сялянская. Па самай сваёй існасьці культура ільну—сялянская культура.

Памешчыцкая гаспадарка не магла конкураваць таму, што ільняное валакно, атрыманае ў сялянскай гаспадарцы, заўсёды танней каштавала, чым у памешчыцкай. Таму і заўважалася ў ільняных раёнах такое зьявішча: памешчыкі пачынаюць разводзіць ільняную культуру, адразу-ж ёю пачынаюць цікавіцца і разводзіць вакольныя сяляне; але тады цана валакна падае ў данай мясцовасьці, і памешчыкі прымушаны здаваць сялянам у арэнду пад лён гэтыя землі. Справа ў тым, што на ільняную культуру селянін амаль выключна аддае той час, які ў яго застаецца вольным ад іншых палявых работ, і часткова «зімні час». (Там-жа).

Як бачым, ізноў такім угрунтаваньнем пераваг засеваў інтэнсыўных культур у дробнай сялянскай гаспадарцы служыць той жа народніцкі аргумэнт—гэта наяўнасьць рабочай сілы ў сялянскай гаспадарцы, яе «праца-спажывецкі балянс».

літыка-экономічнага сэнсу і ўкосна ўводзіць у заблуджэньне. Яно пазбаўлена сэнсу, бо пры ўсіх і ўсялякіх грамадзкіх укладах гаспадаркі дробны земляроб «працуе»: і пры нявольніцтве, і пры фэўдалізьме, і пры капіталізьме. Слова «працоўны» ёсьць пустая фраза, безьзьмястоўная дэклямацыя, якая прыкрывае карыснае для аднае толькі Слова «працоўны» ўводзіць у заблуджэньне, абманьвае публіку, бо яно намякае на адсутнасьць *наёмнай* працы». (Т. IX, ст. 197).

Пасьля такой зьніштажаючай крытыкі, пад якую падвёў Ленін тэрмін «працоўная гаспадарка», зусім недарэчна выглядае разуменьне гэтай гаспадаркі па Доўнар-Запольскаму, бо ён залічаў у «працоўную гаспадарку» нават дробных памешчыкаў, чым яшчэ больш паглыбіў расплыўлівасьць гэтага разуменьня. Так, на старонцы 47 мы чытаем: «у рубрыку працоўныя ў нашых падліках уводзяць уладаньні да 100 дзесяцін, г. зн. усе віды дробнага земляўладаньня». Непрацоўнай формай зямлякарыстаньня Доўнар-Запольскі лічыў толькі «такое зямляўладаньне, якое пачынаецца ад 100 дзесяцін зямлі». (Там-жа). Пасьля гэтага з ўсёй відавочнасьцю выступае ўся бессэнсоўнасьць разуменьня працоўнай гаспадаркі. Вось чаму і тыя вывады, якія робіць Доўнар-Запольскі (старонка 61) адносна некаторых перамог працоўнай гаспадаркі над капілам, зьяўляюцца ілжывымі вывадамі, бо ён у працоўныя гаспадаркі залічыў самыя звычайныя, хаця параўнаўча і дробныя памешчыцкія гаспадаркі. Калі палажыць у аснову пры аналізе той ці іншай зьявы няверную мэтодолёгію, дык, вядома, і вывады будуць няверныя.

Усім вядомы і агульнапрызнаны той факт, што на працягу ўсяго свайго разьвіцьця чалавеку прышлося весьці змаганьне з прыродай для таго, каб забясьпечыць сябе неабходнымі продуктамі спажываньня.

Бясспрэчна і тое, што чым ніжэй была ступень разьвіцьця тэхнікі, тым больш трэба было траціць працы для здабываньня сродкаў існаваньня. Паводле Доўнар-Запольскага выходзіць як раз наадварот. У мінулым нібы бяз усякіх асаблівых труднасьцяй прырода давала чалавеку свае плады. Так, на старонцы 142 чытаем: «...у сярэднія сталецьці *прырода сама ўсё давала селяніну,* патрабуючы ад яго толькі прымітыўнай працы». Выходзіць, што, чым далей ідзе разьвіцьцё грамадзтва, тым больш трудным робіцца процэс здабываньня продуктаў.

Так сьцьвярджалі і сьцьвярджаюць усе тыя, а разам з імі і Доўнар-Запольскі, хто абараняе «закон» зьмяншаючай продукцыйнасьці пасьлядоўных затрат, або, як ён яшчэ завецца, «памяншаючай ураджайнасьці глебы». Соцыяльная існасьць гэтага «закону» марксыстамі ўскрыта ў выстарчальнай меры. Даказана, што «закон» гэты паводле выразу Леніна ёсьць ня што іншае, як «бессэнсоўная абстракцыя». Буржуазныя-ж тэорэтыкі ўводзяць гэтую «абстракцыю», якая адмаўляе прогрэс вытворчых сіл, у закон з тым, каб пытаньне соцыяльнай, клясавай несправядлівасьці перанесьці з сфэры разьмеркаваньня ў сфэру прыродных сіл.

Для кожнага ясна, што, чым далей ідзе разьвіцьцё грамадзтва, чым больш узбройваецца чалавек тэхнікай, тым лягчэй яму змагацца з прыродай і падпарадкаваць яе сілы волі чалавека. Разьвіцьцё вытворчых сіл, прогрэс тэхнікі, рост ураджайнасьці знаходзіцца ў галасьлівай супярэчнасьці з «законам» зьмяншаючага вытворства затрат, які абараняецца буржуазнымі і дробна-буржуазнымі экономістамі.

Бясспрэчна, справядліва тое, што на вырошчваньне культуры ільну, канапель і бульбы патрэбна большая колькасьць працы, чым на збожжавыя культуры. Але-ж гэта зусім не азначае, што буйная, капіталістычнага тыпу, гаспадарка ня мела магчымасьці выробляць гэтыя культуры.

Хутчэй—наадварот: буйнай гаспадарцы выробляць тэхнічныя культуры значна выгадней. Факты ані не супярэчаць гэтаму. У якасьці прыкладу можна ўказаць на вытворства такой інтэнсыўнай культуры, як цукровыя буракі на Ўкраіне. Яно было сконцэнтравана амаль выключна ў буйных заводзкіх памешчыцкіх гаспадарках.

Тое-ж, што «цана валакна падае» з разьвядзеньнем ільну ў сялянскіх гаспадарках, гаворыць не аб тым, што гэта культура больш выгадна ў дробнай гаспадарцы, а аб тым, што селянін, урэзваючы і скарачаючы свае спажываньне, прадаваў значна таней, чым гэта магла рабіць капіталістычная гаспадарка.

Дробнабуржуазныя экономісты даводзілі таксама, што дробная гаспадарка мае перавагі над буйнай ня толькі ў галіне рольніцтва, а і ў галіне жывёлагадоўлі. Яны бралі колькасьць скаціны на адзінку плошчы ў буйнай і дробнай гаспадарцы і прыходзілі да вываду, што ў дробнай гаспадарцы скаціны на адзінку плошчы прыпадае больш, а значыцца, гэта гаспадарка і больш выгадная. Але сапраўды, узяўшы ня толькі колькасьць, а і якасьць жывёлы, мы прыдзем да зусім адваротнага вываду, бо, як пісаў Ленін: «Прогрэс жывёлагадоўлі праяўляецца ня толькі, часамі нават ня столькі ў павялічэньні ліку, колькі ў палепшаньні якасьці, у замене горшай скаціны лепшай, у павялічэньні кармоў і г. д.» (т. IX, ст. 157). «Буйны вытвар у капіталістычным земляробстве мае вялізарную перавагу над дробным якасьцю скаціны нагул, якасьцю рабочай скаціны ў часнасьці, умовамі утрыманьня скаціны, палепшаньня яе і ўтылізацыі ўгнаеньня». (Там-жа, стар. 164).

Няма патрэбы падробна разьбіраць перавагі буйнай гаспадаркі над дробнай: ужо з сказанага робіцца ясна тое, што Доўнар-Запольскі стаіць на антымарксыцкім пункце погляду ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Ён ідэалізуе распыленую, прасякнутую дробна-буржуазным духам сялянскую гаспадарку і тым падтрымлівае рэакцыйныя формы народнай гаспадаркі.

## IV

Разабраная вышэй нованародніцкая тэорыя разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў сваёй аснове мела палажэньне, што сялянская гаспадарка ня мае прадпрыемніцкіх інтарэсаў. Кладучы ў аснову свае дзейнасьці задавальненьне спажывецкіх патрэб свае сям'і, селянін знаходзіў сродак для выкананьня гэтай мэты ў наяўных запасах працы свае-ж сям'і. Гэта тэорыя ідэалізуе, такім чынам, гаспадарчыя паводзіны селяніна. Сялянская гаспадарка, паводле гэтай тэорыі, мае свае асаблівыя, самабытныя законы разьвіцьця і не падпарадкоўваецца ў сваёй эволюцыі агульна-капіталістычным законам.

З бегам часу асобныя тэорэтыкі пачалі адступаць ад «чыстаты» сваіх прынцыпаў. Пачалі прызнаваць за сялянскай гаспадаркай, спачатку, як выключэньне, а потым і як звычайную зьяву, наяўнасьць капіталістычных інтарэсаў. Але ад прынцыпу *працоўнай гаспадаркі* яны і да гэтага часу яшчэ не адмовіліся, тады як паняцьце працоўнай гаспадаркі вельмі расплыўлівае і ня мае ніякага соцыяльна-экономічнага сэнсу. Ня хто іншы, як Ленін, у сваёй працы «Новыя даныя аб законах разьвіцьця капіталізму ў земляробстве», выступаў супроць гэтага бессэнсоўнага выразу. Ён пісаў: «Слова «працоўны» ня мае ніякага по-

**
*

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі нанесла сьмяротны ўдар нованародніцкім тэорыям. Яна раней за ўсё выбіла з-пад ног нованароднікаў пэрспэктыву ўстойлівага разьвіцьця дробнай сялянскай гаспадаркі. Колектывізацыя сельскай гаспадаркі падарвала базу нованародніцкай тэорыі, якой зьяўляўся сялянскі двор, сялянская сям'я. Рост тэхнікі вышаў за рамкі індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, якой недаступен складаны сельска-гаспадарчы інвэнтар, як трактор, комбайн і г. д. Тэхніка абагнала рамкі дробнай гаспадаркі. Гэта для ўсіх зразумела і відавочна. Бядняцка-серадняцкія масы зразумелі перавагу буйнай колектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай. Яны пачалі пераходзіць ад індывідуальнай гаспадаркі да соцыялістычнай, ад дробнай да буйнай, ад стыхійнай да плянавай. Гэты факт ня мог не заставіць задумацца нованароднікаў, бо апора іх тэорыі, сям'я, як гаспадарчая адзінка, зьнікае. У апошнія часы мы назіраем, як адзін за другім тэорэтыкі і абаронцы дробнай сялянскай гаспадаркі адмаўляюцца ад сваіх поглядаў.

Яны самі ўжо прызнаюць шкоднасьць іх тэорыі. Але гэта ня здымае з абвесткі дню пытаньня далейшага змаганьня з гэтымі шкоднымі тэорыямі. Мы павінны быць такімі-ж жорсткімі, як і раней, у сваёй крытыцы тых прац, якія абараняюць антымарксыцкія, дробнабуржуазныя погляды ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Кніжка Доўнар-Запольскага з пачатку да канца як раз прасякнута дробна-буржуазнымі ўстаноўкамі. З разабраных намі галоўных пытаньняў відаць, што гэта кніжка па сваёй мэтодолёгіі ў сваіх вывадах далёка ад марксызму. І нават той, параўнаўча багаты, лічбовы матар'ял, які сабраны ў кніжцы, у сувязі з гэтым у значнай меры траціць сваю каштоўнасьць.

---

Ц. Д. Пракопчык

# Аб організацыі і аплаце працы ў колгасах

Бязумоўна, толькі пры ўмове правільнай організацыі працы і яе галоўнае, побач з выпраўленьем зробленых у колгасным будаўніцтве памылак, гэта організацыя працы ў колгасах і разьмеркаваньне яе вынікаў.

Бязумоўна, толькі пры ўмове правільнае організацыі працы і яе аплаты колгасы будуць мець магчымасьць скарыстаць вялізарнейшую пераважнасьць колектыўнае працы над дробнай сялянскай гаспадаркай.

Тав. Ленін пісаў: «продукцыйнасьць працы—гэта ў даным падрахунку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу над старым. Капіталізм стварыў продукцыйнасьць працы нябачаную за прыгонам.

Капіталізм можа быць канчаткова пераможаны і будзе канчаткова пераможаны таму, што социялізм створыць новую, куды больш высокую продукцыйнасьць працы» (Ленін, т. XVI, ст. 254).

Правільная організацыя аграмаджанае працы, поўнае і рацыянальнае яе скарыстаньне, бязумоўна, дасьць такую продукцыйнасьць, якой ня бачыў капіталізм. Асноўная задача організацыі працы ў колгасе—гэта павялчэньне продукцыйнасьці працы членаў колгасу, якая дасьць магчымасьць малепшыць добрабыт колгасьнікаў.

Правільная організацыя працы і яе аплата паможа перамагчы дробнабуржуазныя навыкі, разаўе колектыўную працу, створыць з бядняцка-серадняцкіх мас сялянства актыўных будаўнікоў социялізму.

Недастатковая яскравасьць у організацыі і аплаце працы ў колгасах; недастатковасьць яе наладжаньня выкарыстоўваецца кулакамі. Кулак гаворыць серадняку: «чаму ты робіш на лодыра-бедняка», а бедняку кажа: «ты, бядняк, будзеш рабіць, як і ў час прыгону «рабілі», што бядняк і серадняк будуць рабіць на камуністых і г. д.». Усё гэта кулацкая хлусьня, якая ў вялікай колькасьці асноўнымі масамі сялянства і разумеецца як хлусьня, яны разумеюць, што, працуючы ў колгасе, яны працуюць выключна на саміх сябе, і ад палепшаньня становішча колгасу палепшыцца і становішча колгасьнікаў. Кулацкая хлусьня выкрываецца.

Вырашыць правільнасьць організацыі працы ў колгасах з-за адсутнасьці належнай практыкі ня так лёгка. Вядома, што гэта новая справа, і да яе трэба падыходзіць асьцярожна.

Праца ў буйных колектыўных гаспадарках вельмі адрозьніваецца ад працы ў асобных сельскіх гаспадарках. У гэтым пытаньні, у пытаньні організацыі працы ў колгасах, павінна быць вялікая ломка звычак, прывычак, мэтодаў работы ў параўнаньні з паасобнымі гаспадаркамі. Тут магчымы памылкі, але трэба, каб яны былі зьведзены да мінімуму.

Побач з адлівам з колгасаў серадняка і другімі адмоўнымі момантамі, быў таксама і момант нявер'я яго ў правільую організацыю і рацыянальнае скарыстаньне працоўнае сілы.

Мэханічнае перанясеньне форм і мэтодаў організацыі працы буйных фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў у колгас ня ўсюды дало добрыя вынікі, але ўсё-ж, як гаворыцца ў перадавіцы «Праўды» ад 18/IV—30 г., ня гледзячы на вялікія недахопы, колгасы да вясеньняга севу організавалі ня толькі жывы і мёртвы інвэнтар, але і чалавечую працу. Брыгадная сыстэма і праца колёнамі ўжо ўвайшла ў колгасны быт. З рэволюцыйнаю шпаркасьцю добрая практыка перадавых колгасаў пераносілася і пераносіцца ня толькі ў бліжэйшыя, але і ў больш адлеглыя колгасы.

Сакавіковы пленум ЦК КП(б)Б у сваёй рэзолюцыі адзначыў: «зусім слаба праводзіцца работа па організацыі машынна-конных станцый. *Нездавальняючая організацыя працы ў колгасах* (падкрэсьлена мною— Ц. П.), слаба пастаўлена работа па складаньню вытворча-гаспадарчых плянаў у колгасах, і зусім нездавальняючае соцыялістычнае спаборніцтва, як мэтод штодзённае работы». Бязумоўна, констатаваньне пленумам гэтых недахопаў адпавядае сапраўднасьці.

Трэба сказаць, што пытаньне аб організацыі і аплаце працы ў колгасах БССР далёка ня вырашана. Формы і нормы аплаты працы розныя ў розных колгасах. У некаторых месячная аплата даходзіць да 30-60 руб., а ёсьць колгасы, дзе яна падае да 15 руб.

У большасьці колгасаў наглядаюцца моцныя ўраўнілаўскія настроі аплаты. Спэцыялізацыя і зьдзельшчына, а таксама іншая зацікаўленасьць да працы ў колгасах пакуль што слаба распаўсюджаны.

Формы аплаты працы і яе організацыя вельмі разнастайныя. На гэта пытаньне зьвярталася недастатковая ўвага. Як відаць з вопытаў, самая пастаноўка пытаньня аб аплаце працы ня ўсюды правільная.

«Трэба адкінуць усялякія разважаньні аб «заработнай плаце» ў колгасах. Колгас—колектыўная буйная гаспадарка пэўнае колькасьці добраахвотна аб'яднаных і ў большасьці зьлітых дробных гаспадарак— па сваёй прыродзе не дапушчае адносін найманьня сваіх членаў для свае-ж гаспадаркі, а значыцца, і катэгорыі заработнае платы. Аплата працы колгасьнікаў, па сутнасьці, зьяўляецца разьмеркаваньнем па належнай сыстэме прыбыткаў колгасу („Праўда", перадавая ад 18/IV—30 г. № 107).

Наркомзем Саюзу растлумачвае, што «аплата працы ў колгасах ўтварецца выключна на падставе вынікаў ураджаю і іншых прыбыткаў колгасаў і спажываецца грашыма і натурай». Аплата працы, разьмеркаваньне вынікаў гаспадараньня павінна весьціся па праца-днёх, улічваючы спэцыялізацыю і непрацаздольнасьць.

Адным з недахопаў работы колгасаў зьяўляецца адсутнасьць плянавасьці працы ў іх. Амаль ўсе колгасы ня маюць організацыйных плянаў, не вызначаецца напрамак разьвіцьця кожнае гаспадаркі, адсутнічае мэтавая ўстаноўка. Гэта, вядома, перашкаджае правільнаму вядзенью гаспадаркі і яе нормальнаму крэдытаваньню. Большасьць колгасаў ня мае нават вытворчых плянаў хаця-б на год. З ліку абгледжаных колгасаў да 1/X—29 г. толькі 30 проц. маюць наметкі гадавога вытворчага пляну.

Трэба сказаць, што за апошнія часы колгасныя організацыі займаліся пытаньнем організацыі працы ў колгасах; нават што-ні-што ўжо зроблена ў гэтым напрамку. Колгасцэнтр надрукаваў працу з нормамі выпрацоўкі, з досыць каштоўнымі паказаньнямі, бязумоўна, і не без

памылак, асабліва ў мэтодолёгіі вылічэньня балянсу працы членаў калгасаў—арцельшчыкаў, але наконт плянавасьці мала гаворыцца, каб не сказаць: нічога.

Наша савецкае гаспадарка адрозьніваецца ад капіталістычнае гаспадаркі тым, што ў нас няма эксплёатацыі клясы клясай, што прыбытак ў нашай гаспадарцы ідзе не ў паасобныя кішэні, а на пашырэньне соцыялістычнае вытворчасьці, на палепшаньне экономічнага, культурнага і бытавога становішча працоўных мас, і, акрамя гэтага, наша гаспадарка яшчэ адрозьніваецца *плянавасьцю,* чаго ня можа быць у капіталістых, пры прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Тав. Ленін казаў, што праз правільны падлік і плянавасьць мы прыдзем да соцыялізму. Бясплянавасьць, анархія ў вытворчасьці, як бачым, у капіталістычных краінах прыводзяць да крызісаў. Працяг часу паміж крызісамі ў капіталістычных краінах час ад часу скарачаецца, і гэта ў недалёкім часе прывядзе капіталізм да ўсеагульнага крызісу, у выніку якога працоўныя павінны будуць узяць уладу ў свае рукі, дабіць капіталізм і прыступіць да пабудовы соцыялізму ва ўсім сьвеце.

Колгаснаму будаўніцтву трэба з самага пачатку грунтоўна стаць на плянавасьць. На жаль, нашы колгасы на сёньня ня ўсюды могуць хваліцца гэтым. Няможна весьці гаспадарку, калі ня ведаеш, чым гаспадарка ўладае і ў якой колькасьці. Дрэнна, калі кіраўнік колгасу ня ведае, колькі ў яго рабочае сілы, колькі і калі яму трэба будзе яе, дрэнна, калі невядомы матар'яльныя рэсурсы, калі невядома, на якія мэты і ў якой колькасьці яны павінны быць скарыстаны.

Усе колгасы абавязкова павінны мець вытворчы плян, усякі колгас павінен мець балянс рабочае сілы. Пляны колгасаў павінны быць ува ўсіх галінах гаспадаркі паасобку і сконцэнтраваны ў адзін агульны плян данага колгасу.

## Кіраўніцтва колгасамі

Колгасам кіруе праўленьне, якое абіраецца на адзін год на агульным сходзе членаў колгасу ці на сходзе ўпаўнаважаных. Праўленьне складаецца з 3 альбо 7 членаў і 2-3 кандыдатаў, у залежнасьці ад памераў колгасу. Старшыня нясе адказнасьць за ўсю працу ў колгасе, і, калі колгас малы, ён можа кіраваць вытворчай часткай; адзін член праўленьня выконвае гаспадарчыя функцыі, ён павінен рэалізаваць продукцыю; другі член праўленьня кіруе організацыйна-культурнай часткай, ён нясе адказнасьць за пастаноўку падліку маёмасьці, за працу, грошы і іншае.

Калі колгас вялікі, там могуць быць часткі: вытворчая, сельскагаспадарчая, фабрычна-заводзкая, падлічальна-грашовая, організацыйна-культурная, бытавая і гаспадарчая. На чале гэтых частак стаяць члены праўленьня. Гэтыя часткі пры неабходнасьці падзяляюцца на паасобныя галіны. Вялікае значэньне мае правільнае скарыстаньне агрономічнае сілы.

Уся праца паасобных галін гаспадаркі праводзіцца па раней намечанаму пляну, што зацьвярджаецца праўленьнем. Агульны плян невялікага колгасу зацьвярджаецца на сходзе членаў, а ў бальшых—на сходзе упаўнаважаных, з пасьлядоўнай санкцыяй куставога ці раённага аб'яднаньня.

Агропэрсонал узгадняе свае пляны з праўленьнем, а пры практычным ажыцьцяўленьні—з адпаведным членам праўленьня.

Разам з праўленьнем зьбіраецца і рэвізійная комісія, якая контролюе працу праўленьня і паасобных частак яго, дапамагаючы праўленьню выконваць пляны, сачыць за рацыянальнасьцю мерапрыемстваў.

Уся гаспадарка колгасу падзяляецца на некалькі экономій у залежнасьці ад ёмістасьці колгасу.

Пастанова Белколгасцэнтру, ад 27-II-30 г., § 2, абавязвае пры разьмеркаваньні рабсілы пакласьці ў аснову *брыгадны мэтод* (падкрэсьлена мною—Ц. П.). Для лепшае спэцыялізацыі працы і кіраўніцтва ёю складзенныя брыгады па асноўных галінах гаспадаркі павінны разьмяркоўвацца ў спэцыяльныя групы.

Украінская практыка ведае ўвядзеньне цэхаў у колгасах да 8, гаспадарка разьбіваецца на сэктары, ці, як яны інакш называюцца, стацыонары, на севазвароты, далей ідуць групы і клеткі. Клетка мае ад 200 да 400 га зямлі. Праводзіцца спэцыялізацыя паасобных культур і відаў гаспадаркі па асобных колгасах. Організоўваюцца брыгады-табары, якія маюць пэўную колькасьць людзей і сродкаў вытворчасьці. Брыгады-табары маюць да 5 і больш трактароў.

## Падлік працы і яе аплаты

Мэтодолёгія падліку працы, як аб гэтым гаварылася раней, заслугоўвае вялікай увагі. Трэба так падлічыць, каб было вядома, колькі ёсьць рабсілы ў адным колгасе, колькі яе ў ім будзе скарыстана і колькі неабходна, напрыклад, накіраваць на працу за межы колгасу. Пры складаньні балянсу рабочае сілы колгасу трэба ўлічыць неабходнасьць рабочае сілы для працы ва ўласных гаспадарках колгасьнікаў і асабліва членаў сельска-гаспадарчых арцеляй.

Працаздольнымі лічацца: жанчыны ва ўзросьце ад 16 да 55 гадоў, мужчыны—да 60 гадоў і падросткі—ад 14 да 16 гадоў, але, калі ўлічваць лік рабочых дзён падросткаў, трэба браць значна менш, чым для дарослых, бо яны павінны наведваць школу. Неабходна таксама ўлічваць, што продукцыйнасьць працы падросткаў значна меншая, чым у дарослых, у некаторых выпадках продукцыйнасьць дарослага прымаецца за 1, а падростка—за 0,6 або 0,8.

У досыць каштоўным матар'яле Колгасцэнтру Беларусі, выданьня Белдзяржвыдавецтва, 1930 г., «Організацыя і аплата працы ў колгасах», пры падліку працы зусім ня ўлічана праца, якая неабходна для вядзеньня тае гаспадаркі, якая будзе ў членаў колгасаў, якія знаходзяцца ў сельска-гаспадарчай арцелі.

Забіраць увесь час у членаў арцелі для колгасу ці хоць бы і падлічваць усё —ёсьць памылка.

На ст. ст. 7-8 памянёнае кніжкі пішацца: «Агульны лік рабочых дзён, за выключэньнем дзён адпачынку і двухтыднёвага гадавога адпачынку, вызначаецца для дарослых жанчын і мужчын 280, а для падросткаў—80 дзён»...

Для жанчын на 10 проц. зьмяншаецца лік рабочых дзён у тым выпадку, калі жанчыны цалкам ня вызвалены ад дробнае хатняе работы, як кухня, догляд за дзяцьмі і інш.

Калі жанчына ня вызвалена ад дробнае хатняе работы, дык улічваецца, што яна павінна працаваць 250 дзён у год.

Гэты падлік падыходзіць толькі для комуны. У гэтай жа кніжцы, у аддзеле падліку працы, нічога не гаворыцца пра сельска-гаспадарчую арцель.

Аўтары памянёнае кніжкі да некаторай ступені былі пад уплывам левага заскоку пры яе складаньні: выпусьцілі арцель, як асноўную форму колгаснага будаўніцтва, і пераскочылі праз яе да комуны.

Дзе будзе браць колгасьнік час для працы «дома», калі ён 280 дзён аддае колгасу, 52 дні—адпачынку, 10—рэволюцыйным сьвятам і 15 дзён знаходзіцца ў водпуску? Для працы дома застаецца ў яго толькі 8 дзён.

Гэтак складзены балянс працы арцелі будзе няправільны.

Даросламу члену арцелі неабходна дагледзець двор, падчысьціць, убраць, дагледзець платы, сад, трэба забясьпечыць сябе апалам, вывезьці гной, узараць, забаранаваць і засеяць частку ўласнае зямлі—гарод, трэба прыбраць з поля (уласнага), прыбраць сад, гарод, скасіць, памалаціць, дагледзець кароў, авечак, сьвіней і г. д., некаторую частку ўласнае продукцыі рэалізаваць, каб купіць другую частку.

Усяго гэтага ў дні адпачынку і пасьля 10-гадзіннай работы ў колгасе ня зробіш, падросткі і старыя не ўва ўсіх ёсьць. Незалежна ад таго, як улічана, дарослы мужчына павінен будзе ў сярэднім працаваць у сваёй гаспадарцы значную колькасьць дзён. Таму колгас можа скарыстоўваць, на маю думку, каб гэта было рэальна, ня больш, як палову рабочых дзён дарослых мужчын. Што датычыцца жанчын, дык таксама 10 проц. скідкі для членаў арцелі мала.

Па беларускіх традыцыях жанчына, пры наяўнасьці асобнае хаты і невялічкай гаспадаркі, сама даглядае жывёлу. Ёй неабходна дагледзець кароў, сьвіней, авечак, птушак.

Праўда, гэтая работа займае мала часу, але ўсё-ж патрэбен час. У той сям'і, дзе будуць 2-3 працоўных жанчыны, бязумоўна, адна па чарзе будзе заставацца дома. У другіх выпадках, магчыма, па чарзе будуць заставацца суседкі дома і для дагляду хатняе дробнае жывёлы. Жанчына павінна ўдзельнічаць у прыбіраньні ўласнае часткі зямлі, поліве гароду, яго ўборцы, малацьбе.

Трэба адзначыць, што беларуская жанчына шмат часу траціць, праўда ня зусім продукцыйна, на пражу і тканьнё палатна і інш. Дарослая жанчына, член сельска-гаспадарчае арцелі, больш як 100 дзён у годзе працаваць у колгасе ня зможа.

Браць такія павялічаныя лічбы працоўных дзён у годзе для членаў сельска-гаспадарчых арцеляй будзе памылкай, якая можа прывесьці да вялікага непаразуменьня. Можа здарыцца, што ў самы «гарачы» час ня хопіць працы, тым часам як памылкова вылічаныя лішкі часу працы колгасу накіраваны за межы арцелі.

Лік дзён, якія можна даць членам арцелі для колгасу, я бяру орыентыровачна: 150—для дарослага мужчыны і 100—для дарослае жанчыны; бязумоўна, гэта ўмоўныя лічбы, яны патрабуюць дасканалага вывучэньня на практыцы. Па-мойму, гэта найбольшыя лічбы, якія можна ўзяць.

Я выказваю думку прынцыпова, што значную частку дзён у годзе, пры падлічэньні працы, каб гэта было грунтоўна, трэба заставіць членам сельска-гаспадарчай арцелі для працы ў сваёй гаспадарцы.

Як відаць з вынікаў бюджэтнага абсьледваньня ўкраінскіх колгасаў, якое рабіла катэдра кооперацыі і колектывізацыі украінскага інстытуту марксызму і ленінізму ў галіне скарыстаньня колгасамі працоўнае сілы, комуны ў сярэднім скарыстоўваюць мужчынскае работы з ўсяго запасу толькі 65,8 проц., а жаночае—41,9 проц.

Сельска-гаспадарчыя арцелі скарыстоўваюць мужчынскае рабсілы 36,7 проц., жаночае—20,7 проц.

Таварыствы па агульнай апрацоўцы зямлі скарыстоўваюць мужчынскае рабочае сілы 23,5 проц., жаночай—6,3 проц.

Калі паглядзім па раёнах, колькі па арцелях працоўная сіла скарыстоўваецца з ўсяго запасу ў процантах, дык убачым:

| НАЗВА РАЁНАЎ | Мужчынскай | Жаночай | Падросткаў | Усяго ў сярэднім | Па месяцах | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Красавік | Май | Червень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань | Студзень | Люты | Сакавік |
| Лесастэп. УССР | 42,2 | 21,7 | 7,0 | 29 | 32,0 | 30,0 | 41,5 | 43 | 53 | 45 | 32 | 18 | 14 | 13,0 | 12 | 12,5 |
| Стэп . . . . | 56,8 | 15,6 | 18,0 | 34 | 38,0 | 42,0 | 44,5 | 56 | 64 | 42 | 27 | 26 | 21 | 20,0 | 23 | 20,5 |
| Палесьсе УССР | 63,3 | 16,3 | 15,0 | 42 | 49,5 | 42,0 | 54,0 | 54 | 47 | 60 | 41 | 26 | 21 | 20,5 | 18 | 14,0 |

У гэтыя лічбы ўвайшла толькі свая працоўная сіла, а найманая ня ўлічана.

Рабочы год браўся за 305 дзён, дарослы мужчына раўняўся адзінцы, дарослая жанчына—0,8 і падростак—0,6. Калі паглядзім на скарыстаньне мужчынскай рабсілы па больш наладжанай ў сэнсе скарыстаньня рабсілы паласе Палесься, і то толькі ў год будзе скарыстана 193 дні, па стэпу—173 дні, а па лесастэпу—толькі 130 дзён. Гэтыя лічбы кажуць, што ні ў якім разе нельга браць 280 дзён у год ад члена сельска-гаспадарчай арцелі, як гэта робяць нашы работнікі з Белколгасцэнтру. Самае практычнае, каб было жыцьцёва, можна ўзяць для дарослага мужчыны прыблізна 150-160 рабочых дзён у год у сярэднім.

Жанчыны ў сярэднім працуюць па Палесьсі ў сельска-гаспадарчых арцелях 71 дзень у год, па стэпу—60 і па лесастэпу—82 дні.

Калі мець на ўвазе, што ў украінскіх стэпавых раёнах машынізацыя сельскае гаспадаркі разьвіта значна больш, чымся ў Беларусі (а пакуль што пры машынах больш працуюць мужчыны, чым жанчыны), што ў гэтых раёнах у СССР зусім не практыкуецца жніво сярпом,—і калі нельга машынай тое ці іншае збожжа ўзяць ці калі машын ня было, дык мужчыны касілі,—то пры іншых умовах у сярэднім жанчына будзе працаваць на гаспадарцы колгасу на працягу году ні ў якім разе ня больш, як 100 дзён. Браць 250 дзён, як гэта робіць Белколгасцэнтр, хоць-бы для падліку, бязумоўна, памылкова і ні ў якім разе не адпавядае сапраўднасьці.

Падросткі скарыстоўваюцца прыблізна ў тым самым памеры, як і жанчыны, з невялікім зьмяншэньнем.

На вялікі жаль, на сёньня нельга сказаць, колькі ў сярэднім член сельска-гаспадарчай арцелі павінен працаваць «дома», пры наяўнасьці невялічкае гаспадаркі, але ўсё-ж на вядзеньне гэтае гаспадаркі яму трэба некалькі дзесяткаў дзён, а можа і сотня.

Памылковай будзе пастаноўка пытаньня, што член сельска-гаспадарчай арцелі асноўную ўвагу зьвяртае на сваю хатнюю гаспадарку, а колгас зьяўляецца для яго другараднай часткай. Паўтараю, гэта памылкова. У асноўным для члена колгасу ўвага яго і праца павінны быць сконцэнтраваны на колгасе, бо колгас—гэта тая-ж самая яго гаспадарка, ад становішча якое залежыць і становішча члена колгасу, ад яе палепшаньня паляпшаюцца і культурна-бытавыя ўмовы колгасьніка, паляпшаецца яго эканомічнае жыцьцё і г. д.

Бязумоўна, усе працоўныя дні, за вылікам тых, якія член колгасу скарыстоўвае ў колгасе, «дома» не заняты працаю, усіх вольных дзён у сваёй гаспадарцы ён не скарыстоўвае, у колгасах маецца не скарыстаная рабочая сіла, але гэта не дае права вылічваць працоўную сілу членаў сельска-гаспадарчай арцелі: мужчын—на 280 дзён, а жанчын—на 250, як гэта робіць Белколгасцэнтр у сваёй кніжцы. Такі падлік увядзе ў абман, і можа здарыцца, што вельмі шкодна адаб'ецца на гаспадарцы арцелі. Працуюць вясной, улетку і палову восені па 10 гадзін, а другую палову восені і зіму—па 8 гадін.

«Мы ўстанаўліваем,—піша «Правда»,—што аплата працы ў колгасе па сутнасьці ёсьць разьмеркаваньне належнае сыстэмы прыбытку колгасу».

Бязумоўна, тут ураўнілаўскія тэндэнцыі не павінны мець месца, разьмеркаваньне павінна праводзіцца па праца-днёх, хоць пры разьмеркаваньні працы павінна мець на ўвазе непрацаздольных едакоў. Павінны практыкавацца перамяшчэньні з менш аплачваемае працы на вышэйшую і наадварот.

Але гэтага мала, трэба працу паставіць так, каб «кожны колгасьнік ня толькі адчуваў сябе арганічнаю часткаю колгасу, але і сам разам з усімі вырашаў асноўныя пытаньні колгасаў і яскрава разумеў сваю зацікаўленасьць у ўздыме продукцыйнасьці працы. Для гэтага ў кожным колгасе трэба стварыць стымулы зацікаўленасьці колгасьнікаў у выніках вытворчасьці, праводзячы сыстэму разьмеркаваньня прыбыткаў паміж членамі колгасу ня толькі на падставе падліку прапрацованых дзён (ці гадзін), але і на падставе характару самой працы, норм выпрацоўкі і якасьці працы» (Перадавая «Правды», 18/IV-30 г.).

Праца павінна быць часовая і сталая. спэцыяльная і неспэцыяльная, адказная і менш адказная. Аплата робіцца па месяцах, падзённа і ад вырабатку, грашыма і натурай.

Лепш за ўсё, бязумоўна, праца ад вырабатку, але тады трэба больш зьвяртаць увагі на якасьць яе.

Практыкуецца аплата па разрадах, якіх устанаўляецца ад 5 да 7, пры суадносінах 1 да 2 ці 1 да 2.5; бывае, што ўстанаўліваюць суадносіны ад 1 да 3. Практычней браць менш разрадаў—5, пры суадносінах па погляду колгасу.

Пры пяціразраднай сетцы, калі першы разрад, напрыклад падпасак, будзе атрымліваць у дзень, скажам. 50 кап., калі кожны разрад будзе павялічвацца на 40 кап., будзе так: 1-ы разрад—50 кап., 2-гі разрад—90 кап., 3-ці разрад—1 р. 30 кап., 4-ы разрад—1 р. 70 кап. і 5-ы разрад будзе атрымліваць 2 р. 10 кап.

Гэта залежыць ад эканомічнай ёмістасьці колгасу. Могуць устанаўлівацца і другія памеры аплаты. Аплата вылічана прыблізна ў дзень у грашовым эквіваленце, а выдаецца грашыма і натурай (па жаданьню колгасьніка).

Пры вырабатку аплата практыкавацца можа так: калі, напрыклад, узораны адным канём адзін гектар, вызначаецца аплата 1 руб. 14 кап., а калі працаўнік узараў 1¼ га, то ён атрымлівае 1 руб 43 кап. Аплата пры вырабатках залежыць выключна ад самога работніка: бязумоўна, колькасьць працы не павінна пацягнуць за сабой зьніжэньня яе якасьці.

Вельмі шмат хлусьні распускаецца кулакамі пра тое, што старыя паміраюць з голаду, што ім не дадуць ні работы, ні есьці, што дзеці паміраюць з голаду і шмат іншае кулацкае бязглузьдзіцы.

Бядняцка-серадняцкія масы сялянства мала ведаюць аб аплаце працы ў колгасах наогул і, у прыватнасьці, мала ведаюць, як будуць забясьпечвацца непрацаздольныя члены сям'і колгасьніка, таму кулакі і маюць посьпех у некаторых месцах у распусканьні хлусьні па гэтаму пытаньню.

Для забесьпячэньня непрацаздольных: старыкоў, дзяцей, хворых і г. д., у кожным колгасе выдзяляецца спэцыяльны фонд, які зьяўляецца крыніцай для здавальненьня непрацаздольных. Лік выдаваемых сродкаў устанаўліваецца праўленьнем з пасьлядоўным зацьверджаньнем на агульным сходзе колгасьнікаў ці ўпаўнаважаных.

Пры разьмеркаваньні фонду непрацоўных трэба мець на ўвазе ў першую чаргу тыя сем'і, у якіх няма зусім працаздольных, а таксама і тыя сем'і, у якіх шмат непрацаздольных, а працаздольных мала: 1-2 асобы і 5-6 малых дзяцей.

Гэтыя сем'і павінны трохі больш атрымліваць на ўтрыманьне непрацаздольных.

У тых выпадках, калі ёсьць лішак працоўнае сілы ў колгасе, колгас можа ў організаваным парадку накіраваць яе для працы за межы колгасу. Заработак ад адходных промыслаў членаў колгасаў застаецца ім, толькі ад 3 проц. да 10 адлічваецца ў колгас. Гэта павінна рабіцца без асаблівых скаргаў з боку работнікаў, якія ідуць на адходныя промыслы, бо іх непрацаздольныя члены сям'і атрымліваюць ад колгасу сродкі, колгас дае ім шмат розных ільгот і організована ўладжвае лепш на працу.

Колгасьнікі павінны разумець, што яны працуюць на сябе, а не на каго-небудзь другога. Калі калгасьнікі гэта будуць ведаць і памятаць, парушэньне дысцыпліны ня будзе. На жаль, пакуль што ёсьць выпадкі парушэньня дысцыпліны: некаторая частка колгасу (праўда, меншая) лічыць колгас чужым, лічыць, што гэта не яго, а нейчая чужая гаспадарка.

Прыкладаў парушэньня дысцыпліны шмат: нявыхад на працу, спазьненьні, уход раней, чым трэба, недагляд збруі, жывёлы, нядбайныя адносіны да машыны і іншае. Наглядаецца невыкананьне загадаў кіраўнікоў працы.

Кіраўнік працы адказвае за яе, грамадзкасьць патрабуе ад яго добрага выкананьня абавязкаў, а ён, у сваю чаргу, павінен патрабаваць ад членаў арцелі, брыгады ці паасобнага чалавека належнага выкананьня абавязкаў. Дрэнны той кіраўнік, які дрэнна даглядае гаспадаркі, які дрэнна выконвае тое, што яму даручаецца.

Загады кіраўніка, безумоўна, павінны выконвацца, але, вядома, ня сьлепа. Калі член колгасу лічыць, што той ці іншы загад кіраўніка быў немэтазгодным, ён мае поўнае права заявіць аб гэтым у праўленьне колгасу, на агульным сходзе.

З парушэньнем дысцыпліны павінна весьціся самая жорсткая барацьба. Мэтодаў, вядома, шмат: можна ставіць пытаньне на агульны сход, выносіць ганьбаваньне, вымовы, можна пісаць у насьценную і ў друкаваныя газэты. Практыкуецца зьніжэньне заработку, перамяшчэньне на ніжэй аплачваемую пасаду, частковае недапушчэньне да працы, а калі нічога не дапамагае, тады неабходна выкінуць з калгасу такога непапраўнага колгасьніка, які сваёй недысцыплінаванасьцю прыносіць толькі шкоду колгасу, а адгэтуль і ўсім членам колгасу.

Плата за працу выдаецца грашыма ці натурай памесячна, прыблізна, да 30-50 проц., а рэшта каб выдавалася у канцы гаспадарчага году, пасьля рэалізацыі продукцыі, якая праводзіцца выключна праз

коопэрацыю і контрактацыю. Члены могуць заставіць свае сродкі ў колгасе як уклад, за што яны могуць атрымаць 5 проц. з свае сумы за год.

Пасьля ўборкі ўраджаю, пасьля малацьбы бронюецца насенны фонд, непадзельны фонд—10-30 проц. чыстага прыбытку, адмяраецца на корм жывёле, з звароту зерневае пазыкі, калі такая была, застаўляецца некаторая частка запаснага фонду збожжа, частка продукцыі выдаецца членам у лік аплаты, рэшта продукцыі рэалізуецца (праз коопэрацыю), і выручка ідзе на ўплату сельска-гаспадарчага падатку, на пакрыцьцё запазычанасьці, калі такая была, на пашырэньне асноўных фондаў капіталу гаспадаркі, на пакрыцьцё амортызацыі, на аплату працы за ўвесь год, адлічваецца фонд на культурна-бытавыя патрэбы, бронюецца фонд на выдачу ўтрыманьня непрацаздольным, адлічваецца прэміяльны фонд, застаўляецца зваротны капітал, адлічваецца 5 проц. валавое выручкі гаспадаркі на выдачу членам адлічэньняў на паявы капітал. Рэшта—умоўна чысты прыбытак калгасу—ці сельска-гаспадарчая продукцыя разьмяркоўваюцца пропорцыянальна ліку рабочых дзён паміж членамі колгасу, гэта ўжо і ёсьць разьмеркаваньне вынікаў працы. Падлічыўшы, хто колькі дзён працаваў, перавёўшы ўсе гадзіны працы: летам дзень—па 10 гадзін, а зімой—па 8, і колькі выпадае ў дзень, хто колькі дзён працаваў, за столькі дзён ён і атрымлівае.

Цяжарныя жанчыны ў колгасах атрымоўваюць пазачарговы адпачынак на 1,5 месяцы перад родамі і на 1-1,5 месяцы пасьля радоў. За гэты час захоўваецца сярэдні заработак яе. Перад адпачынкам жанчын практыкуецца пераводзіць на лягчэйшую працу. Пасьля радоў жанчыне дазваляецца хадзіць карміць дзіця.

Вялізарнейшую ролю ў ўзьняцьці інтэнсыўнасьці працы адыгрывае социялістычнае спаборніцтва.

Соцыялістычнае спаборніцтва ў нас, у БССР, на мёртвай кропцы, але трэба яго штурхнуць. Сакавіковы пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае вялікую слабасьць партыйных організацый у справе правядзеньня соцыялістычнага спаборніцтва ў колгасах.

---

**Ад рэдакцыі:**

Артыкул Пракопчыка, бязумоўна, дзякуючы свайму памеру, не дае усё ж дастатковага адказу на гэта актуальнейшве пытаньне, таму рэдакцыя просіць таварышоў выказацца на старонках „Б. Б". па гэтым пытаньні і прыслаць больш матар'ялу з практыкі месц.

---

**А. Гутман**

# Аб загібах пры ўзбуйненьні яўрэйскіх колгасаў у БССР

Вялікія посьпехі, якія дасягнуты пролетарыятам у краіне саветаў пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі ў справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі БССР, на базе організацыі саўгасаў і колгасаў, магутны рух у справе колектывізацыі батрацтва і бядняцка-серадняцкага сялянства Беларусі далі таксама вялікія посьпехі ў галіне ўцягненьня яўрэйскай местачковай беднаты і сялян-яўрэяў у колгасы. Значна пашырыліся раней існаваўшыя дробныя яўрэйскія колгасы шляхам уцягненьня ў іх яўрэйскай местачковай беднаты, батрацтва і бядняцка-серадняцкага сялянства іншых нацыянальнасьцяй. Аб гэтым яскрава гавораць наступныя характэрныя лічбы. Па вестках з 5 акруг БССР (Гомель, Бабруйск, Ворша, Віцебск, Мазыр), было ў жніўні м-цы 1929 г. у колгасах гэтых акруг 1305 сямей яўрэяў-колгасьнікаў, а ў маі 1930 г. мелася ў колгасах гэтых акруг 2796 сямей яўрэяў-колгасьнікаў.

Такім чынам, мы бачым, што колькасьць яўрэяў-колгасьнікаў па гэтых акругах павялічылася больш чым на 100% у параўнаньні з жніўнем месяцам мінулага году.

Акрамя гэтага, існаваўшыя раней яўрэйскія колгасы ў часе масавай колектывізацыі ў гэтым годзе адыгралі вялікую ролю ў справе ўцягненьня ў колгасы значнай колькасьці навакольнай бядняцка-серадняцкай часткі сялянства і батрацтва. Аб гэтым сьведчаць лічбы па 14 колгасах, што абсьледваны Колгасцэнтрам. Гэтыя колгасы раней мелі ў сваім складзе амаль што выключна сем'і яўрэяў-колгасьнікаў, а цяпер гэтыя колгасы ўзбуйніліся і ўцягнулі ў свой склад як яўрэйскую беднату, гэтак і батрацтва і бядняцка-серадняцкае сялянства іншых нацыянальнасьцяй. Па гэтых 14 колгасах у жніўні 1929 г. было 146 сямей, з якіх 142 сям'і колгасьнікаў-яўрэяў і 4 беларусаў, а ў маі 1930 г. мелася ўсяго сямей у гэтых 14 колгасах 1011, з якіх яўрэяў—348 (рост на 145%), беларусаў—637 сямей і 27 сямей іншых нацыянальнасьцяй. Сярод уцягнутых у гэтыя колгасы ёсьць значная колькасьць сямей батракоў—106, сялян-беднякоў—296, серадняков—295 сямей, саматужнікаў—37 сямей і 41 сям'я з местачковай беднаты, якія ня мелі сталых заняткаў да ўступленьня ў колгас, а частка іх (33 сям'і)—беднякі, быўшыя ў мінулым дробныя гандляры, пазбаўленыя выбарчых правоў.

Калі ў мінулым амаль што ня было ў яўрэйскіх колгасах партыйных ячэек, дык нават у складзе гэтых 14 колгасаў ёсьць ужо колгасы, у якіх організаваны і працуюць партыйныя і комсамольскія ячэйкі. На чале колгасаў працуюць рабочыя з «25-тысячнікаў» альбо комуністыя, пасланыя па партыйнай мобілізацыі па ўзмацненьню колгасаў.

Аналізуючы склад гэтых 14 колгасаў, мы бачым, што ў 9 колгасах адначасова з агульным ростам усяе колькасьці колгасьнікаў таксама ўзрасла колькасьць сямей яўрэяў-колгасьнікаў у кожным з гэтых колгасаў, пачынаючы з 7 альбо 18% да 1900% (Слуцак).

У 2 колгасах з гэтых 14 склад сямей колгасьнікаў-яўрэяў застаўся бяз зьмен, а ў 3 колгасах колькасьць сямей колгасьнікаў-яўрэяў зьменшылася на 11 сямей. Гэта складае адносна агульнай колькасьці сямей яўрэяў-колгасьнікаў, што былі да часу ўзбуйненьня ў гэтых 3 колгасах (35 сямей), зьмяншэньне іх на 31%.

Факты выхаду з гэтых колгасаў і матар'ялы абсьледваньня гэтых 14 колгасаў гавораць аб тым, што пры ўзбуйненьні існаваўшых яўрэйскіх колгасаў мелі месца памылкі і перагібы, дапушчаныя на мясцох, якія патрэбна рашуча выправіць у бліжэйшы час. Адзін з самых вялікіх загібаў—гэта тое, што пры зьліцьці і ўзбуйненьні гэтых колгасаў, побач з тым, калі шмат яўрэйскіх колгасаў самі праяўлялі ініцыятыву і актыўна працавалі ў справе ўцягненьня навакольных бядняцка-серадняцкіх сялян у колгас, у асобных мясцох узбуйненьне яўрэйскіх колгасаў праводзілася без абгаварэньня гэтага пытаньня на сходзе колгасьнікаў (былы «Эмес»—колгас, сучасны «Каліноўскі», Магілеўскай акругі).

Акрамя гэтага, з прычыны выпадкаў «гігантаманіі» назіраецца штучнае склейваньне ў адзін колгас асобных груп гаспадарак колгасьнікаў з розных і далёкіх адзін ад другога залюднёных пунктаў, эканомічна ня зьвязаных паміж сабою, у той час калі лепш было-б з гэтых груп колгасьнікаў на першы час арганізаваць самастойныя колгасы ў гэтых залюднёных пунктах. У сучасны-ж момант штучнае склейваньне ў адзін колгас пры адсутнічаньні ў гэтым колгасе неабходнай колькасьці кіраўнікоў, наяўнасьці цэлага шэрагу арганізацыйных недарэчнасьцяй выклікае трывогу ў старых колгасьнікаў за моцнасьць нанова арганізаванага буйнага колгасу («Каліноўскі», Магілеўскай акругі).

У часе чысткі колгасаў, побач з тым, як вычышчаліся сапраўды нэпманскія і іншыя шкодныя элемэнты з гэтых колгасаў, мелі месца таксама і перагібы ў гэтай справе. Напрыклад, у колгасе «Культура», Магілеўскай акругі, Жураўіцкага раёну, вычысьцілі з колгасу жонку аднаго колгасьніка, якая працуе разам з сваім мужам-колгасьнікам ужо 1½ гады ў колгасе і жыве асобна ад сваіх бацькоў, а мотывам для чысткі было тое, што бацька яе былы гандляр з патэнтам 2-га разраду. Таксама пры чыстцы колгасу «Чырвоны Сормавец» старшыня колгасу ня мог атрымаць доўгі час (3 месяцы), згодна яго заявы, канчатковага рашэньня комісіі па чыстцы, у той час калі з 15 меўшыхся ў гэтым колгасе сямей вычышчана 6, а таксама не давалася ўвесь час яскравага тлумачэньня, як быць з разьлікам гэтых колгасьнікаў—ці падлягаюць звароту ім пай і ўклад, якія былі ў колгасе.

Часта твар колгасу, як эканомічнага цэнтру, арганізуючага навокал сябе нанова ўліваючуюся ў колгас батрацкую і бядняцка-серадняцкую масу колгасьнікаў, сьціраецца тым, што, замест уцягненьня колгасьнікаў у існуючы колгас, праводзілася ў шмат якіх выпадках арганізацыя новага колгасу і з новай назвай. Таксама мае месца такое зьявішча, калі ў буйным колгасе асяродкам вытворчага вучастку робіцца вёска з меншай колькасьцю колгасьнікаў і якая тэрыторыяльна ня лепш разьмешчана, чым побач знаходзячыся колгас, дзе ўкладзена ўжо у мінулым шмат сродкаў на стварэньне колгасных гаспадарчых і жыльлёвых будынкаў.

Недастакова скарыстоўваецца вопыт старых колгасьнікаў, і ў некаторых колгасах яны ня ўцягнуты ў кіруючую працу, тады як гэта магчыма было зрабіць («Новы быт», Вузьдзенскага раёну, «Культура», Журавіцкага раёну, «Каліноўскі», Магілеўскага раёну). Вось чаму сярод гэтых колгасьнікаў зьяўляюцца настрої—«нас адсоўваюць у бок, мы цягнемся у хвасьце», «мы ўсё думалі, што мы моцныя, як мядзьведзі, а ў канцы канцоў мы сабакі».

Шмат якія са зьліўшыхся і ўзбуйненых колгасаў ня маюць яшчэ балянсаў за мінулы год, а там, дзе яны складаліся, дык у шмат якіх выпадках да гэтага часу не абгаварваліся на сходах колгасьнікаў, і ў членаў гэтых колгасаў маюцца пытаньні аб лёсе прыбыткаў гэтых колгасаў за мінулы год: як і колькі з прыбыткаў павінна быць выдадзена членам колгасаў, што працавалі ў гэтых колгасах у мінулым годзе.

Яўрэйскія колгасы, як і іншыя старыя колгасы Беларусі (шмат якія—з 1925 г.), працавалі апошнія гады па статутах, якія прадугледжвалі поўнае абагуленьне кароў, гародаў і дробнае жывёлы, як і ўсіх сродкаў вытворчасьці, і амаль ніхто з колгасьнікаў старога складу ў сучасны момант ня мае свае каровы, дробнай жывёлы і гароду.

Дзякуючы ўзмоцненым стараньням колгасьнікаў, вялікай дапамозе фінансаваньнем гэтых колгасаў крэдытамі і кіраўніцтву партыі, гаспадарчае становішча іх з часу ўзбуйненьня было досыць моцнае. Амаль у кожным з гэтых колгасаў мелася досыць добрае таварнае малочнае стада, альбо вялікі сад з дзяржмаемасьцю, альбо якое-небудзь саматужна-прамысловае прадпрыемства, як-та: млын, крупарушка, крухмальны альбо патачны завод. Пры наяўнасьці ў колгасе гэтых крыніц прыбыткаў колгасьнікі маглі больш рэгулярна атрымліваць за працу на бягучыя патрэбы неабходныя ім сродкі, і наогул наяўнасьць малочнага стада і саматужных прадпрыемстваў і саду давалі большую эфэктыўнасьць у прыбытковасьці гаспадаркі, давалі магчымасьць колгасьнікам гэтых колгасаў у апошнія гады (1-2 г.) атрымліваць больш ці менш высокую аплату за працу. Але, акрамя гэтага, вельмі часта адсутнічала правільная сыстэма ў аплаце працы ў гэтых колгасах, і аплата за працу іх у асобных выпадках праводзілася нават бяз вучоту неабходнасьці стварэньня накапленьняў у непадзельныя капіталы колгасаў.

У сучасны момант, пасьля ўзбуйненьня шмат якіх яўрэйскіх колгасаў, там, дзе ўвайшла ў гэты колгас большая частка новых колгасьнікаў, прыняты бяз зьмен новы прыкладны статут, які прадугледжвае за колгасьнікам права мець свой гарод, адну карову, сьвіней і інш. дробную жывёлу. Сыстэма аплаты за працу па статуту прадугледжвае авансаваньне па меры магчымасьці да 50% выпрацоўкі. Крыніцы бягучых прыбыткаў да новага ўраджаю (як-та: малочнае стада, саматужныя прадпрыемствы) узрасьлі прапорцыянальна менш, чым узрасла колькасьць колгасьнікаў, якія маюць патрэбу ў авансаваньні. Акрамя гэтага, на першы час свайго існаваньня гаспадарка, у сучасных яе рамках, ня мае яшчэ магчымасьці ўстанавіць больш высокія нормы па аплаце працы. У выніку гэтага ў шмат якіх з гэтых колгасаў заўважана зьніжэньне матар'яльнага ўзроўню старых членаў колгасу ў параўнаньні з мінулым годам.

Апрача гэтага, да бягучага году колгасьнікі атрымлівалі аддзяленьні з прыбыткаў арцеляй на ўтрыманьне непрацаздольных дзяцей і старых, а ў гэтым годзе ў разьліках у паасобных колгасах гэта не прадугледжваецца. У выніку ўсяго гэтага зьявіліся сярод старых колгасьнікаў нездавальненьне і нараканьні на тое, што іх матар'яльнае

становішча пры існуючай ў сучасны момант у колгасах форме разьлікаў горш, чым новых колгасьнікаў, бо старыя колгасьнікі ня маюць свае каровы, гародаў, сьвіней і азімых пасеваў, дзеля гэтага яны ўвесь свой заробак у колгасе ў большасьцю набіраюць продуктамі і ня маюць неабходных грашовых сродкаў на бягучыя выдаткі, як-та: рамонт абутку і адзёжы, абучэньне дзяцей ў 7-годцы (кватэра, кнігі і г. д.). Гэта выяўляецца ў выступленьнях гэтых колгасьнікаў наступнага зьместу: «мы сыты, але вольнай капейкі ня маем», «новыя колгасьнікі ўвесь свой заробак атрымліваюць грашыма і справілі сабе адзёжу, а мы ўсе гады працавалі ў колгасе і зараз ня можам мець вольнай капейкі на бягучыя патрэбы», «каб мы зараз былі асобна ў колгасе без нанова прынятых, мы маглі-б вельмі добра жыць». Тут трэба адзначыць, што мае месца і такі факт, калі праўленьне, каб больш зацікавіць нанова прынятых сябраў колгасу ў знаходжаньні ў колгасе, стараецца пры наяўнасьці грошай авансаваць не па прынцыпу, хто больш працаваў і мае большую патрэбнасьць у грошах, а стараецца выдаваць аванс у першую чаргу новым колгасьнікам. Моцна адбіваецца на настрої колгасьнікаў, асабліва тых, якія ня маюць сваіх сьвіней альбо кароў, недахоп, які адчуваецца ў тлушчах. Усё вышэйадзначанае зьяўляецца прычынамі меўшых месца выхадаў з колгасаў старых членаў колгасаў. Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што наогул сярод гэтых колгасьнікаў ёсьць цяга ў прамысловыя прадпрыемствы, гэтаму спрыяе тая магчымасьць, якая маецца зараз, каб паступіць на заводы ў сувязі з попытам на рабочую сілу.

Ня гледзячы на тое, што колгасы гэтыя значна ўзбуйніліся, і значна павялічалася ў іх складзе колькасьць яўрэяў-колгасьнікаў, культпраца наогул і культабслугоўваньне яўрэяў-колгасьнікаў на іх роднай мове вельмі дрэнныя; нават у колгасах, якія знаходзяцца каля гораду альбо мястэчка, альбо ў самым мястэчку, культбытавая праца слабая. Унутры колгасаў няма грамадзкіх організацый, у большасьці з іх няма насьценгазэты, амаль што ніколі не заглядвае кіно, і мала дзе выпісваецца яўрэйская газэта. Масавая праца ў галіне соцспаборніцтва і організацыя ўдарных брыгад амаль адсутнічаюць, а там, дзе што і праводзіцца, дык далей добрых пастаноў праца гэтая ня зрушылася.

Цэлы шэраг добрых зьявішчаў у гэтых інтэрнацыянальных колгасах у справе правядзеньня з вялікімі посьпехамі вясеньняй сяўбы і наогул дружная праца колгасьнікаў розных нацыянальсьцяй у галіне падняцьця колгаснай гаспадаркі яскрава сьведчаць аб добрых адносінах паміж сабою працоўных колгасьнікаў розных нацыянальнасьцяй у колгасах. Гэта дэмонстравалася цэлым шэрагам рапортаў і прывітаньняў да XIII зьезду КП(б)Б ад гэтых колгасаў, напрыклад, «Чырвоны Сормавец», «Шчэдрын» і інш., але-ж адначасова з гэтым трэба адзначыць, што інтэрнацыянальнае выхаваньне колгасьнікаў вельмі слабое, дзеля гэтага побач з вышэйадзначанымі станоўчымі фактамі ў працы гэтых колгасаў маюць месца яшчэ выпады праявы яўрэйскага шовінізму і антысэмітызму з боку паасобных колгасьнікаў, і не заўсёды кіруючыя органы колгасаў рэагуюць належным чынам на гэтыя зьявішчы. Настроі яўрэйскага шовінізму праяўляюцца ў выглядзе размаўленьня паасобных колгасьнікаў-яўрэяў, што наогул яўрэй з беларусам альбо з асобай іншае нацыянальнасьці ня ўжывецца. Факты праяўленьня антысэмітызму мелі месца ў колгасе «Комуністы», Бабруйскай акругі, дзе спрэчкі паміж колгасьнікам-беларусам і членам праўленьня —яўрэем з-за воза антысэміцкія элемэнты стараліся скарыстаць для агітацыі на тэму «жыды забралі наш інвэнтар і распараджаюцца ім».

У колгасе «1-е мая», Слуцкага раёну, адна колгасьніца пры пасылцы на працу заявіла: «я з жыдамі не жадаю працаваць». У колгасе «Чарвякова», згодна заявы аднаго члена колгасу, член праўленьня брыгадзір па паляводзтву *Шашкевіч* Алесь вылаяў члена колгасу *Турэцкага* словамі: «жыдоўка пархатая, з поля вон». У гэтым жа колгасе член колгасу *Юркевіч* кінуў сякерай у члена колгасу *Шыфрына* за тое, што апошні ўказаў яму, чаму ён позна прышоў на працу. Усе вышэйадзначаныя факты ў большасьці сваёй не атрымалі належнага рэагаваньня з боку кіраўнікоў гэтых колгасаў, і не праведзены навокал гэтых фактаў адпаведныя растлумачэньні і выхаваўчая праца.

У большасьці інтэрнацыянальных колгасаў, у сувязі з ударнай працай па сяўбе, так сама, як і ў іншых колгасах, амаль што ня было за апошнія месяцы дню адпачынку. У тых жа колгасах, дзе дні адпачынку праводзіліся, большая колькасьць колгасьнікаў-яўрэяў, за выключэньнем паасобных веруючых старых, працуюць у суботу і, як дзень адпачынку, скарыстоўваюць нядзелю. У паасобных колгасах для веруючых колгасьнікаў-яўрэяў днём адпачынку ўстаноўлена субота, а для іншых—нядзеля. Антырэлігійная праца ў колгасах амаль адсутнічае, дзеля гэтага ёсьць яшчэ выпадкі, калі ў колгасах для рэзкі жывёлы для мяса колгасьнікі-яўрэі прывозяць разьніка з гораду альбо з мястэчка (колгас «Вольная Праца»).

З абсьледваных 14 колгасаў толькі ў 7 ёсьць групы беднаты, але-ж праца іх слабая і ў большасьці сваёй, акрамя групы беднаты, сходаў батрацтва і беднаты колгасьнікаў не праводзілася. Слабая праца з беднатой шкодзіць клясаваму выхаваньню колгасьнікаў, якое асобнае значэньне мае ў колгасах з розным нацыянальным складам.

Ня мясцох не ўдзяляецца ўвагі пытаньню кваліфікацыі нанова прыймаемых колгасьнікаў з местачковай беднаты ў якой-небудзь галіне сельскай гаспадарчай працы, каб падняць вытворчасьць працы гэтых колгасьнікаў.

З усяго вышэйадзначанага выцякае неабходнасьць у бліжэйшы час прыняць наступныя мерапрыемствы:

1) рашуча зьнішчыць факты адміністрацыйнага зьліцьця колгасаў бяз згоды на тое саміх колгасьнікаў і без растлумачальнай працы; разьгледзець маючыяся на мясцох скаргі ў гэтым напрамку і зьнішчыць выяўляемыя скрыўленьні;

2) падвесьці балянс працы злучаных колгасаў за мінулы год, з абавязковым абгаварэньнем гэтых балянсаў колгасьнікамі гэтых колгасаў;

3) на працягу бліжэйшых дзён распрацаваць пытаньне аб формах разьлікаў з колгасьнікамі ў тых колгасах, дзе частка з іх поўнасьцю абагулілі свае гароды, буйную і дробную жывёлу;

4) забясьпечыць кваліфікаваньне нанова прыймаемых колгасьнікаў-яўрэяў з местачковай беднаты ў адпаведнай галіне працы сельскай гаспадаркі;

5) прыняць меры да лепшага забесьпячэньня тлушчамі, а ў асаблівасьці ў часы цяжкіх палявых работ, і ў першую чаргу тых колгасьнікаў, якія поўнасьцю абагулілі сваю буйную і дробную жывёлу;

6) праверыць склад вычышчаных з колгасаў ў часе чысткі і ў выпадку выяўленьня фактаў скрыўленьня прыняць меры да зьнішчэньня гэткіх, кіруючыся пастановай ЦВК БССР ад 25/V-30 г.;

7) паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб дапамозе колгасам на кватэрнае будаўніцтва для перасяляемых ў колгасы сямействаў з местачковай беднаты;

8) уцягнуць у кіруючую працу колгасаў старых членаў колгасаў, скарыстоўваючы іх вопыт, накоплены імі ў гаспадарчай працы ў колгасе;

9) арганізаваць групы беднаты ва ўсх колгасах і зьвярнуць асобную ўвагу на клясавае і інтэрнацыянальнае выхаваньне колгасьнікаў;

10) палепшыць культмасавую працу ў інтэрнацыянальных колгасах і ўзмацніць барацьбу супроць ўсялякіх праяў шовінізму і антысэмітызму, не дапушчаючы замазваньня праяў гэткіх фактаў.

Правядзеньне гэтых мерапрыемстваў, як і цэлы шэраг іншых, якія вызначаюцца ў кожным паасобным выпадку, будзе забясьпечана тады, калі мясцовыя організацыі зьвярнуць больш увагі на працу ў гэтых колгасах. На жаль, трэба адзначыць, што на гэта пытаньне да апошняга часу зьвярталася мала ўвагі, аб гэтым яскрава сьведчыць адказ Віцебскага Акрколгассаюзу на запытаньне Колгасцэнтру аб культпрацы ў нацыянальных колгасах, дзе гаворыцца, што «паасобных дырэктыў па культурнай працы сярод нацыянальных колгасаў не давалася», «загадчыка культаддзелу няма».

Трэба таксама рашуча зьнішчыць маючыяся паслабленьні ў працы КОМЗЕТ'у і ОЗЕТ'у сярод яўрэяў-колгасьнікаў. Неабходна, каб яны сваю працу ўзмацнілі і прыстасавалі для правядзеньня як у колгасах з выключна яўрэйскім складам колгасьнікаў, так і ў колгасах з інтэрнацыянальным складам колгасьнікаў, дзе колькасьць яўрэяў-колгасьнікаў значна ўзрасла ў параўнаньні з мінулым годам.

С. Агурскі

# Да ліквідацыі еўсэкцыі

Новыя задачы, якія наша вялікая рэканструкцыйная эпоха штодзённа ставіць перад намі ўва ўсіх галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва, выклікалі неабходнасьць у тым, што партыя наша паставіла пытаньне аб рэорганізацыі партыйнага апарату на такіх падставах, якія забясьпечвалі-б лепшае кіраўніцтва гіганцкай будоўляй нашай краіны.

Маючы гэта на ўвазе, ЦК УсеКП(б) пастанавіў рэорганізаваць увесь партапарат як у цэнтры, так і на мясцох. Рэорганізацыя гэтая прывяла да падзелу функцый некаторых аддзелаў (як у агітпропе, оргаддзеле і інш.) і да ліквідацыі некаторых аддзелаў і п/аддзелаў (як аддзелу работы ў вёсцы, жанаддзелу, п/аддзелу для нацмен). Разам з гэтым таксама ліквідаваны былі еўсэкцыі і ўсе іншыя нацыянальныя сэкцыі як пры ЦК УсеКП(б), так і на мясцох.

Рэорганізацыя праведзена была ў студзені 1930 году. Парторганізацыі прыстасаваліся да новых умоў работы, і партыйныя масы дапамагалі партыі ў правядзеньні неабходных мерапрыемстваў па ўзмацненьню кіраўніцтва партыі ўва ўсіх галінах яе работы. Вось якім чынам адбылася рэорганізацыя, і з такога пункту гледжаньня партыя разглядала паказаныя мерапрыемствы.

Зусім інакш, аднак, сустрэчана была ліквідацыя еўсэкцыі; значная частка спэцыялізаваўшыхся яўрэйскіх работнікаў і актыву навокал еўсэкцыі з вялікім нездавальненьнем сустрэла гэтае рашэньне партыі. Многія пацьвярджалі, і яшчэ і цяпер пацьвярджаюць, што партыя зрабіла памылку, ліквідаваўшы еўсэкцыю. Скаргі гэтыя, вядома, ня выказваліся адкрыта. Аднак, гэтыя «шаптаньні па вуглох» і «схаваныя» настроі былі такія моцныя, што прышлося адчынена рэагаваць на іх у менскім «Акцябры», у арт. тав. Сянькевіча і ў арт. т. Левітана, у харкаўскім «Штэрне».

Гэтыя артыкулы ў двух комуністычных газэтах зусім ясна даказваюць адмоўныя адносіны часткі яўрэйскіх членаў партыі да пастановы аб ліквідацыі еўсэкцыі.

Адначасова ліквідацыя еўсэкцыі таксама выклікала цэлую буру зарубежнай яўрэйскай прэсы. Усе газэты самых рознаколерных напрамкаў поўны былі артыкулаў аб ліквідацыі еўсэкцыі. Яўрэйскія белэмігранты розных масьцей у ліквідацыі сэкцыі зараз жа ўгледзелі «пазбаўленьне яўрэйскага народу ад бальшавіцкага іга».

Пісакі з лягеру фашысцкага Бунду хацелі гэтым апраўдаць сваю «тэорыю» аб неабходнасьці для яўрэйскіх рабочых мець сваю асобную яўрэйскую партыю. Таксама і сіоністы розных толкаў хацелі на ліквідацыі еўсэкцыі нажыць палітычны капіталец. Словам, гэты зусім нязначны факт у жыцьці нашае партыі launchedператварыўся «у сусьветную яўрэйскую проблему», што ўстурбавала ўсю яўрэйскую прэсу за мяжой.

Чым тлумачыцца падобнае зьявішча, што ні організацыяй партапарату, ні ліквідацыяй астатніх нацыянальных сэкцый зарубежны

буржуазны друк наогул, і яўрэйскі ў прыватнасьці, і ня думаў цікавіцца, а ліквідацыя еўсэкцыі выклікала такі шум.

Каб растлумачыць прычыны гэтага зьявішча, неабходна каротка азнаёміцца з гісторыяй яўрэйскіх партсэкцый, з іх дзейнасьцю за апошнія гады.

Нацыянальныя сэкцыі пры РКП(б) пачалі стварацца ў 1918 г. Задача, пастаўленая РКП(б) перад нацсэкцыямі, заключалася ў вядзеньні агітацыі і прапаганды на роднай мове кожнай нацыянальнасьці, што конкрэтна выражалася ў выданьні газэт, часопісаў, літаратуры, у стварэньні клюбаў, партшкол. У рабоце сваёй сэкцыі павінны былі імкнуцца ўцягнуць рабочыя масы дадзенай нацыянальнасьці ў барацьбу плячом к плячу з рабочымі астатніх нацыянальнасьцяй за міжнародную соцыялістычную рэволюцыю.

Такія былі задачы, пастаўленыя ЦК РКП(б) перад еўсэкцыямі і ў інструкцыях, што разасланы ў пачатку 1920 году ўсім мясцовым партыйным організацыям.

У гэтай галіне нацыянальнымі сэкцыямі наогул і яўрэйскімі ў прыватнасьці праробл ена была вялізарная работа з самага пачатку іх узьнікненьня. У пачатку свайго існаваньня сэкцыі выключна вялі барацьбу супроць дробнабуржуазных партый, якія ў першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі яшчэ вялі работу сярод рабочых розных нацыянальнасьцяй. Асабліва цяжкую барацьбу прыходзілася весьці яўрэйскім партыйным сэкцыям, бо ў яўрэйскім рабочым асяродку ў працягу дзесяткаў год разьвівалі шырокую дзейнасьць дробнабуржуазныя нацыяналістычныя партыі, як Бунд, П.-Ц., С.-С. і іншыя, што прэтэндавалі на монополію на яўрэйскі пролетарыят.

У барацьбе супроць гэтых груповак бальшавіцкая партыя атрымала вялізарную перамогу: да 1921 году распаліся ўсе яўрэйскія дробнабуржуазныя партыі. Лепшыя элемэнты гэтых партый прымушаны былі зьмяніць свае погляды на саветы і бальшавікоў і, пасьля доўгага гандлю і шэрагу хістаньняў, нарэшце, увайшлі ў компартыю. Значная частка гэтых элемэнтаў зараз-жа, пасьля ўступленьня ў партыю, згрупаваліся навакол еўсэкцыі і хутка сталі адзінымі яўрэйскімі работнікамі. З прычыны гэтага ў сэкцыях сталі намячацца такія тэндэнцыі, якія зусім супярэчылі пастаўленым перад імі партыяй задачам. Замест тэхнічных задач вядзеньня агітацыі і прапаганды на яўрэйскай мове, новыя сэкцыоністы бралі на сябе такія задачы, якія цалком нясьлі на сабе адбітак тых дробнабуржуазных партый, выхадцамі якіх яны зьяўляліся. На конфэрэнцыях і нарадах, якія скліkaліся сэкцыямі ў 1919-21 годзе, былыя члены дробнабуржуазных партый адкрыта і ясна ставілі пытаньне аб аўтономіі для еўсэкцыі і нават дагаварыліся да таго, каб сэкцыі мелі такую форму організацыі, якую меў Бунд РСДРП. З прычыны гэтага 3-й конфэрэнцыяй еўсэкцыі, якая адбылася ў ліпені 1920 году, прышлося констатаваць у рэзолюцыі, што

«у дзейнасьці еўсэкцыі і ў палітычных настроях яе членаў стала прыкмячацца пад уплывам нацыянальнай барацьбы на Украіне тэндэнцыя да ўзмацненьня організацыйнай абасобленасьці сэкцыі і да ўдзяленьня праз меру вялікай увагі нацыянальным пытаньням у ўшчэрбак асноўнай задачы сэкцыі—служыць партыі ў цэлым у якасьці апарату для ўцягваньня неорганізаваных частак яўрэйскага пролетарыяту ў комуністычную рэволюцыю.

Конфэрэнцыя рашуча адхіляе прапановы, прадыктаваныя нацыяналістычнымі сэпарацкімі тэндэнцыямі аб рэорганізацыі сэкцыі ў аўтономную яўрэйскую організацыю ўнутры самой партыі, што няміпуча прывяло-б да старых дробнабуржуазных тэндэнцый згодніцкага пэ-

рыоду яўрэйскага рабочага руху. *Так жа сама, як і ўсе астатнія нацыянальныя сэкцыі ў партыі, яўрэйская сэкцыя зьяўляецца толькі разьветленым тэхнічным масавым апаратам партыі, што праводзіць цалком у яўрэйскім асяродзьдзі лёзунгі, якія высоўваюцца рэволюцыяй»*[1]).

Так рэзка выступіла 3-я конфэрэнцыя еўсэкцыі супроць нацыяналістычных тэндэнцый і настрояў, якія ўнесены былі ў шэрагу компартыі былымі членамі яўрэйскіх дробнабуржуазных партый. Гэтая-ж конфэрэнцыя, пад уплывам гэтых нацыяналістычных настрояў, прыняла рэзолюцыю, якая патрабавала, каб пры Выканкоме Комінтэрну створана было яўрэйскае бюро, якое кіравала-б рэволюцыйным рухам яўрэйскіх рабочых ва ўсіх краінах. Функцыі такога бюро, згодна рэзолюцыі, часова павінна было ўзяць на сябе цэнтральнае бюро яўрэйскіх комуністычных сэкцый пры ЦК РКП(б), якое са згоды Комінтэрну павінна было назначыць адказнага прадстаўніка ў кожнай краіне з масавым яўрэйскім рабочым насельніцтвам.

З гэтай рэзолюцыі ясна відна, што ЦБ еўсэкцыі хацелі зрабіць адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту ў Комінтэрне. На рэзолюцыі гэтай ляжыць ня толькі ўвесь адбітак бундаўскай «ідэі» аб адзіным прадстаўніку яўрэйскага пролетарыяту. У ёй таксама ёсьць буйная доза поалейцыоністкай «ідэі» аб адзінстве сусьветнага яўрэйскага пролетарыяту. Тагочасныя работнікі еўсэкцыі ўсімі сродкамі імкнуліся стварыць гэты яўрэйскі «інтэрнацыянал» у форме яўрэйскага бюро пры Комінтэрне. Але бюро ня было створана, і рэзолюцыя засталася яшчэ да гэтага часу ў якасьці документу, што характарызуе нацыяналістычныя тэндэнцыі часткі яўрэйскіх работнікаў, што хацелі зрабіць еўсэкцыі сусьветнай організацыяй. Акрамя таго, застаўся цэлы шэраг другіх документаў, якія даводзяць, што нават без «яўрэйскага бюро» пры Комінтэрне ЦБ імкнулася стаць адзіным прадстаўніком рэволюцыйнага руху сярод яўрэйскіх рабочых ува ўсіх краінах. У гэтым адна з асноўных прычын, што стварылі за мяжою хлусьлівае ўяўленьне аб значэньні і палітычнай вазе еўсэкцыі.

У процэсе далейшай работы ілюзія гэтая яшчэ больш узмацнялася. У красавіку 1921 году, калі апошнія астаткі «Бундаў» і аб'яднанцаў увайшлі ў компартыю і кіруючыя кадры Бунду сталі на чале еўсэкцыі, яшчэ рэльефнее выявілася імкненьне ператварыць еўсэкцыі ў прадстаўніка яўрэйскага пролетарыяту ў шэрагах УсеКП(б) і Комінтэрну. Гэтая тэндэнцыя ясна і выразна сформулявана ў 1-м нумары «Эмес», што пачала выходзіць пад рэдакцыяй Літвакова зараз-жа пасьля таго, як апошнія рэшткі Бунду ўвайшлі ў шэрагі РКП(б). Вось што па гэтаму пытаньню сказана ў арт. «Эмес»:

«Аб'яднаны Бунд», нарэшце, уступіў у РКП; такім чынам, адбылася канчатковая консолідацыя жывых комуністычных сіл у яўрэйскай рабочай клясе, і гэта стварае сьветлыя пэрспэктывы творчай работы таксама ў галіне радыкальнай перабудовы матар'яльнага і культурнага жыцьця яўрэйскага працоўнага народу на новых пачатках. *Авангарду яўрэйскай рабочай клясы—еўсэкцыям РКП(б)—за гэты час удалося ўліцца (?) у Комінтэрн, пры якім створана яўрэйскае бюро для агітацыі і пропаганды, што дае нам магчымасьці распаўсюджваць нашу работу ў інтэрнацыянальным масштабе». (Курсіў наш.—С. А.).*

У другім артыкуле, у тым жа нумары «Эмес», Ніцон (М. Літвакоў) па таму-ж пытаньню піша:

[1]) Глядзі нашу работу—„Еврейские комиссариаты и еврейские коммунистические секции", стр. 340.

*«Так што адзінымі жывымі і дзейнымі носьбітамі будучага ў яўрэйскім сьвеце зьяўляюцца толькі яўрэйскія комуністы. І гэтыя комуністычныя групы, якія да гэтага часу былі расьсеяны і разрозьнены, паміж каторымі гадамі намнажаліся гісторычныя непаразуменьні, з уступленьнем «Бунду» у РКП(б) аб'ядналіся і, нарэшце, утварылі сапраўдны авангард комуністычнай будучыны яўрэйскага працоўнага народу». (Курсіў наш.— С. А.).*

З гэтых радкоў ясна, што былыя члены «Бунду» і другіх дробнабуржуазных партый, што ўліліся у шэрагі РКП(б) у красавіку 1921 году. зусім адмаўлялі тыя задачы, якія ЦК компартыі паставіў перад еўсэкцыямі, а менавіта, што апошнія павінны зьяўляцца толькі часткаю партапарату для вядзеньня агітацыі і пропаганды сярод яўрэйскіх рабочых у Савецкай краіне. Яны таксама адмаўлялі рэзолюцыю 3-яе конфэрэнцыі еўсэкцыі, якая з усёй рэзкасьцю выступала супроць імкненьняў часткі «бундаўцаў» ператварыць еўсэкцыі ў аўтономную організацыю. З цытаваных артыкулаў ясна, што былыя правадыры «Бунду» хацелі ператварыць сэкцыі ў асобную яўрэйскую організацыю, у «авангард яўрэйскага працоўнага народу».

Гэтая антыбальшавіцкая концэпцыя, быццам еўсэкцыі зьяўляюцца «авангардам яўрэйскага працоўнага народу», доўгі час распаўсюджваемая ў яўрэйскім комуністычным друку, вядома, павінна была прывесьці да ілюзіі як у нас у СССР, так, асабліва, за мяжою, што сэкцыі сапраўды зьяўляюцца асобнай організацыяй, што вядзе асобную дзейнасьць і політыку ў яўрэйскім асяродзьдзі. Менавіта, дзякуючы гэтаму, і стварылася легенда, што компартыя і савецкая ўлада—адно, а «еўсэкі»—зусім другое. Вельмі часта яўрэйскімі газэтамі за мяжою паўтараўся той абсурд, што калі-б не еўсэкцыі, яўрэйскі сьвет у СССР быў-бы зусім іншым.

Культывізаваньне ілюзіі, што еўсэкцыі зьяўляюцца «авангардам працоўнага яўрэйскага народу», не абмяжоўвалася «тэорытычнымі» формулёўкамі.

Гэтае хлусьлівае ўяўленьне нашла свой выраз ва ўсіх галінах практычнай работы, якую паказаныя элемэнты вялі. Асабліва гэта выявілася ў галіне прыцягненьня яўрэйскіх дэклясаваных элемэнтаў да вытворчай працы.

Усім вядома, што ў СССР ёсьць шмат саматужнікаў, і ўсе таксама ведаюць, што ў мэтах палягчэньня таварнага голаду савецкая ўлада з самага пачатку НЭП'у парашыла даць саматужнікам цэлы шэраг ільгот для таго, каб яны маглі вырабляць чым мага больш розных неабходных вырабаў. Ільготы гэтыя прадастаўлены былі ўсім саматужнікам усіх нацыянальнасьцяй СССР.

Але частка работнікаў еўсэкцыі, угаварыўшых сябе, што яны зьяўляюцца «авангардам яўрэйскага працоўнага народу», стварыла тэорыю, што так як яўрэйскі рабочы, г. зн. Бунд, спазьніўся да Кастрычнікавай рэволюцыі на два гады, дык таму таксама НЭП «спазьніўся» у яўрэйскім асяродзьдзі на два гады, і яўрэйскі саматужнік і дробны буржуа не змаглі карыстацца тымі ільготамі і прывілеямі, якія НЭП прадаставіў гэтым элемэнтам у краіне. І гэта «спазьненьне НЭП'у» ў яўрэйскім асяродзьдзі працягвалася да таго часу, покуль... «авангард яўрэйскага працоўнага народу»—ЦБ еўсэкцыі ў 1923 годзе «зацікавілася гэтым пытаньнем і падняло самую энэргічную кампанію за перамену адносін да яўрэйскіх саматужнікаў». Гэты абсурд пісаў на старонках яўрэйскай комуністычнай газэты «Эмес» член ЦБ Мярэжын[1]).

[1]) Артыкул гэты надрукаваны быў у № 225 „Эмес“ ад 1925 г.

Нашліся, вядома, такія «саматужныя» мудрацы, якія паверылі ў тэорыю «спазьненьня НЭП'у ў яўрэйскім асяродку», а таксама і таму, што ў яўрэйскім асяродзьдзі НЭП уведзены быў еўсэкцыямі. Гэта прывяло да таго, што яўрэйскія саматужнікі сталі разглядаць частку работнікаў еўсэкцый сваімі адзінымі абаронцамі, і адсюль пашла хваля выхваленьня еўсэкцаўскіх правадыроў і тэорэтыкаў, і ў іх імёны пачалі ствараць клюбы і г. д. У выніку ўсяго гэтага стварылася ўяўленьне, што не компартыя і савецкая ўлада займаюцца пытаньнем аб становішчы яўрэйскіх працоўных, а «авангард яўрэйскага працоўнага народу»—еўсэкцыі.

Таксама і ў адносінах мерапрыемстваў, якія партыя і савецкая ўлада за апошнія 12 год прымаюць для прыцягненьня яўрэйскіх мас да земляробства, існавалі тыя-ж тэндэнцыі да ператварэньня гэтага ў спэцыяльную работу еўсэкцыі і да таго, каб прыдаць усяму гэтаму яўрэйскі нацыянальны характар. Сярод работнікаў еўсэкцый узьнікла думка весьці работу па земляўпарадкаваньню яўрэяў у такім напрамку, каб з цягам часу створана была яўрэйская рэспубліка, ці, як гэта дыплёматычна называлі, «яўрэйская нацыянальная адзінка». Хаця ленінская нацыянальная палітыка зусім не выключае магчымасьці стварэньня нацыянальных раёнаў і дае былым прыгнечаным народам магчымасьць вольна разьвіваць сваю нацыянальную культуру, аднак гэта робіцца не ў імя захаваньня і консолідацыі тае ці іншае нацыі. Ленінская палітыка ў нацыянальным пытаньні вучыць нас, што пры разьвіцьці нацыянальных культур трэба мець на ўвазе налічча ў кожнай нацыі дзьвюх нацый, а у кожнай культуры—дзьвюх культур і што нашай задачай зьяўляецца разьвіваць культуру такую, якая нацыянальна толькі па яе форме, але якая па зьместу зьяўляецца пролетарскай.

Аднак, навокал ідэі стварэньня памянёнай вышэй «яўрэйскай нацыянальнай адзінкі» створаны быў адзіны ідэйны нацыянальны фронт. Спачатку пачалі будаваць пляны аб стварэньні «яўрэйскай нацыянальнай адзінкі» ў Крыму або ў Хэрсоне. Калі высьветлілася, што ў гэтых мясцох гэта немагчыма з прычыны большай колькасьці мясцовага неяўрэйскага насельніцтва, сталі шукаць новыя раёны і вобласьці, покуль «не адкрылі Біро-Біджан». Яшчэ раней, чым гэты край быў добра вывучаны, сэкратар еўсэкцыі на балонках «Эмесу» выкінуў лёзунг: «да яўрэйскай краіны».

Праўда, «яўрэйская краіна»--гэта трошкі далекавата, тым ня менш навакол лёзунгу стварэньня яўрэйскай краіны ў Біро-Біджане створаны быў яўрэйскі рух у «сусьветным» маштабе, каб памагчы дасягнуць гэтае мэты. У амэрыканскай комуністычнай газэце «Дэйлі Уоркер» мы знаходзім такую рэкляму: «*калі вы хочаце дапамагчы пабудаваць яўрэйскую рэспубліку ў Біро-Біджане, дапамажэце дастаць 200 тыс. даляраў*».

Такія лёзунгі распаўсюджваюцца ва ўсіх краінах, дзе падхоплен быў кінуты «авангардам яўрэйскага працоўнага народу»—ЦБ еўсэкцыі—лёзунг. Каб мець разуменьне, якімі элемэнтамі лёзунг гэты быў падхоплен, мы прывядзем наступныя характэрныя факты:

Нядаўна ў СССР прыехала дэлегацыя «Прокор» з Аргэнтыны. Склад гэтай дэлегацыі быў наступны: старшыня дэлегацыі—багаты яўрэйскі земляроб, некалькі членаў дэлегацыі—багатыя яўрэйскія купцы і сэкратар дэлегацыі—член комуністычнае партыі Аргэнтыны. Па словах дэлегацыі, організацыя «Прокор» складаецца на 40% з рабочых і на 60% з яўрэйскіх крамнікаў... Калі старшыня дэлегацыі на сходзе ў Менску выступіў з дакладам аб наведаньні дэлегацыі Біро-Біджану, ён заявіў, што работа, якая там зараз вядзецца, мае вялікае значэньне для

ўсяго яўрэйскага народу і што ўвесь яўрэйскі народ будзе садзейнічаць гэтай рабоце. На гэтым сходзе нам прышлося выступіць з заявай, што яўрэйскае землякарыстаньне праводзіцца ў нас ня дзеля інтарэсаў усяго «яўрэйскага народу», а ў інтарэсах нашай пролетарскай дзяржавы і нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Не падлягае ніякаму сумненьню, што і амэрыканская організацыя «Ікор» складаецца з такіх жа элемэнтаў, як і аргентынская «Прокор» або другія замежныя організацыі, што памагаюць стварэньню «яўрэйскай рэспублікі» Біро-Біджана, для якой мэты ў памянёных замежных організацыях працуюць такія «рэволюцыянэры», як Рувін Брайнін і інш.[1]).

Такім чынам, мы бачым, што еўсэкцыі, якія створаны былі з адзінай мэтай весьці рашучую барацьбу супроць яўрэйскага нацыяналізму, весьці агітацыю і пропаганду для таго, каб раскалоць адзіны яўрэйскі нацыянальны фронт, самі-ж выкінулі лёзунг «яўрэйскай краіны», вакол якога стварыўся адзіны яўрэйскі нацыянальны фронт.

Імкненьне чым хутчэй дасягнуць мэты стварэньня «яўрэйскай краіны» прывяло да таго, што ЦБ еўсэкцыі дало сваю згоду на ўтварэньне банкету яўрэйскаму фашысту, лёкаю Пільсудзкага, Шолому Ашу. І калі на гэтым банкеце, што быў утвораны ў Маскве «Озетом», некаторыя т.т. спрабавалі выступіць з баязьлівым намёкам на тое, што Аш напісаў зьняважлівае (унизительное) пасланьне Пільсудзкаму, Аш меў нагласьць у нашай савецкай сталіцы перарваць выступаўшых супроць яго і, стукаючы кулаком па сталу, патрабаваць, каб яны замаўчалі. К сораму нашаму, гэта наглае патрабаваньне Аша зараз-жа было выканана, і нават больш таго: ЦБ еўсэкцыі, разгледзеўшы гэта пытаньне, вынесла парыцаньне тым т.т., якія зачапілі сумленасьць Аша..., а потым у «Эмес» быў надрукаваны портрэт гэтага суб'екта і прамова, зробленая ім на сходзе «Озета». А калі тав. Аршанскі выступіў з артыкулам у менскай газэце «Акцябр» і крытыкаваў дзеяньні тых, хто утварыў гэты банкет, дык выступленьне тав. Аршанскага разглядалася як недапушчальнае.

Яшчэ адзін падобны факт.

У Крыму была створана колёнія імя амэрыканскага эксплёататара— Юліуса Розэнвальда. Аб гэтым ганебным факце я даведаўся з замежнай газэты. Я зьвярнуўся ў ЦБ еўсэкцыі і патрабаваў, каб яно адкрыта рэагавала на гэты безабразны факт. Але ЦБ рашыла толькі перайменаваць колёнію, а не рэагаваць адкрыта, бо яно баялася, што Розэнвальд больш ня дасьць грошай на яўрэйскае земляўпарадкаваньне.

Усе гэтыя факты паказваюць, што задачы, пастаўленыя партыяй перад еўсэкцыямі, а менавіта, уцягваць яўрэйскіх рабочых у барацьбу сумесна з рабочымі астатніх нацыянальнасьцяй, у барацьбу за перамогу у міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыі, часткаю работнікаў еўсэкцыі падменены былі на задачу—чым хутчэй усімі сродкамі ствараць «яўрэйскую краіну» Біро-Біджан. Гэтай задачай увесь час, пачынаючы з 1928 г., займаецца яўрэйскі комуністычны друк. І калі перагортваеш «Эмес», асабліва за 1928 г., яскрава бачыш, што ў «Эмес» Біро-Біджан стаў домінуючай ідэяй. Лёзунг «яўрэйскай краіны» так захапіў частку яўрэйскіх работнікаў, што пад гукі музыкі і выклікі «ура» адпраўляюцца першыя групы піонэраў, якія павінны залажыць фундамэнт «савецкай яўрэйскай дзяржавы».

Вось да чаго прывёў нацыяналістычны лёзунг, кінуты сэкратаром ЦБ еўсэкцыі. Навокал гэтага лёзунгу большай часткаю і концэнтруецца

[1]) Р. Брайнін вядомы сіоніст.

работа еўсэкцыі. Ці-ж дзіўна, што ў выніку такой дзейнасьці, насіўшай аб'яднаны яўрэйскі нацыянальны характар, еўсэкцыі сталі вядомы ва ўсім яўрэйскім сьвеце і што іх сталі лічыць вялікай сілай у політычным жыцьці Савецкага Саюзу.

Ці мелі еўсэкцыі на самой справе якую-небудзь політычную вагу? Як мы ўжо раней паказалі, еўсэкцыі (падобна ўсім астатнім нац. сэкцыям) створаны былі з мэтаю распаўсюджваньня ідэй бальшавізму і соцыяльнай рэволюцыі сярод яўрэйскіх рабочых і ў гэтай галіне мелі на працягу першых год свайго існаваньня вялізарныя заслугі, што яны, як частка партапарату, вялі энэргічную барацьбу супроць яўрэйскіх дробнабуржуазных партый і дапамаглі партыі іх канчаткова ліквідаваць. Патроху сэкцыі сталі выконваць у большай меры такія функцыі, якія ня толькі ня прыносілі партыі ніякай карысьці, але, наадварот, аказаліся ў партыйным апараце лішнімі і, да вядомай ступені, шкодным баластам. Немэтазгоднасьць існаваньня сэкцый была ўсьвядомлена часткай саміх яўрэйскіх работнікаў. Яшчэ ў 1925 годзе ў Беларусі сэкцыі заменены былі бюро; ЦБ еўсэкцыі было супроць гэтага рашэньня. Хаця ЦБ існавала пры агітпропе ЦК УсеКП(б) і павінна было мець юрыдычнае права адмены рашэньня аб замене сэкцыі бюро, яно фактычна ня ў сілах было што-небудзь зрабіць, бо беларускія еўбюро ня толькі не працавалі пад кіраўніцтвам Цэнтральнага бюро еўсэкцыі, а на працягу 5 год вялі адкрытую барацьбу супроць лініі ЦБ, пры чым Агітпроп ЦК УсеКП(б) у 1926 г. нават стаў на бок еўбюро Беларусі. Гэта прывяло да таго, что шэраг т. т. у Менску адкрыта выступіў і крытыкаваў ЦБ і яго работнікаў.

Амаль таксама стаяла справа і ў адносінах паміж ЦБ і Галоўным бюро еўсэкцыі Ўкраіны. Таксама і ўкраінскія яўрэйскія работнікі працавалі пад кіраўніцтвам ЦК компартыі Ўкраіны, а не пад кіраўніцтвам ЦБ еўсэкцыі.

Цікава адзначыць, што за некалькі дзён да ліквідацыі сэкцыі апошні пленум Галоўнага бюро пры ЦК КП(б)У таксама рашыўператварыць еўсэкцыі Украіны ў еўбюро. З прычыны гэтага рашэньня ЦБ еўсэкцыі агітпропу ЦК УсеКП(б) неадкладна зьвярнулася з тэрміновым запытаньнем да еўбюро пры ЦК КП(б)У з патрабаваньнем растлумачыць, на якой падставе прынята было гэтае рашэньне аб ператварэньні сэкцыі ў бюро. Але адказу на гэтае тэрміновае запытаньне ЦБ не атрымала, бо тымі-ж днямі адбылася ліквідацыя самога ЦБ. Гэты факт паказвае, з аднаго боку, што частка работнікаў украінскіх еўсэкцый так сама як і раней беларускія т. т., угледзелі нямэтазгоднасьць існаваньня еўсэкцыі, з другога боку, гэта паказвае, наколькі работнікі ЦБ і на гэты раз імкнуліся захаваць організацыйную форму сэкцыі.

ЦБ еўсэкцыі за апошнія тры гады мела «штаты», што складаліся з адзінага супрацоўніка—гэта быў сэкрэтар ЦБ. Акрамя гэтага, члены ЦБ ніколі не займалі якой-небудзь выбарнай пасады ў агульных партыйных і савецкіх організацыях. Гэта яшчэ раз паказвае, што ЦБ еўсэкцыі было толькі вельмі нязначнай часткай партыйнага апарату. Вось якая была політычная вага сэкцыі.

Тым ня менш за мяжою створана была ілюзія, што еўсэкцыі прадстаўляюць сабою вялікую політычную сілу. Ілюзія гэта была настолькі шырока распаўсюджана, што калі адзін яўрэйскі вучоны вярнуўся з эміграцыі ў Кіеў, каб застацца там працаваць, а к таму часу у Польшчы адбылося забойства т. Войкава, дык гэты вучоны зьявіўся да сэкрэтара Кіеўскай еўсэкцыі для выказу свайго спачуваньня савецкай уладзе і компартыі з прычыны сьмерці т. Войкава.

Гэта здаецца анэкдотычна, але гэта факт, які паказвае, якое хлусьлівае ўяўленьне існавала за мяжою аб палітычным значэньні сэкцыі.

Адкуль узялося такое хлусьлівае ўяўленьне аб еўсэкцыях? Ясна, што ня компартыя вінавата ў гэтым. Вінавата выключна частка работнікаў еўсэкцыі, якія ўгаварылі сябе і хацелі таксама ўгаварыць і другіх, што сэкцыі зьяўляюцца «авангардам яўрэйскага працоўнага народу ў сусьветным маштабе».

Ніколі сэкцыі ня былі і не маглі быць «авангардам яўрэйскага працоўнага народу»; усе яўрэйскія члены ЎсеКП(б) зьяўляюцца часткай авангарду рабочых усіх нацыянальнасьцяй у Савецкім Саюзе. Яўрэйскія члены партыі і не падумалі аб падобнай нацыяналістычнай балбатні. Тыя, якія распаўсюджвалі ілюзіі, што еўсэкцыі зьяўляюцца «авангардам яўрэйскага працоўнага народу», расчараваны былі, калі партыя, нават і не запытаўшы іх, разбурыла іх донкіхоцкія млыны, і гэтыя людзі вінаваты ў тым, што ў яўрэйскім зарубежным сьвеце падняты быў такі гвалт з прычыны нязначнага факту ліквідацыі сэкцыі. Ліквідацыя еўсэкцыі адбылася ў процэсе рэорганізацыі партапарату. Але калі-б гэта не адбылося такім шляхам, усё роўна неабходна было сэкцыі ліквідаваць.

Еўсэкцыі, у першыя свае гады меўшыя вялізарныя заслугі перад партыяй, якія вялі барацьбу, як частка партапарату, супроць усяго варожага партыі і рэволюцыі, за апошнія гады аказаліся лішнімі і шкоднымі, бо яны, як правільна сказаў тав. Сянькевіч у «Акцябры», зрабілі цэлы шэраг памылак, якія выклікалі неабходнасьць іх ліквідацыі. Найбольш буйная памылка заключалася ў тым, што работнікі еўсэкцыі імкнуліся ператварыць з нязначнай часткі партапарату для вядзеньня агітацыі сярод яўрэйскіх рабочых у «авангард яўрэйскага працоўнага народу ў сусьветным маштабе».

Вось чаму ліквідацыю еўсэкцый можна толькі вітаць.

---

**Ад рэдакцыі:**

Рэдакцыя зьмяшчае артыкул т. Агурскага „Да ліквідацыі еўсэкцыі у парадку інформацыі

---

Ал. Шматкоў

# Некаторыя ўрокі з перавыбарчай кампаніі бюро ячэек

Апошняя перавыбарчая кампанія бюро ячэек у складаных умовах пераломнага пэрыоду ў соцыялістычным разьвіцьці краіны і зьмены ў расстаноўцы клясавых сіл пры наступленьні соцыялізму па ўсім фронце мела надзвычайна вялікае палітычнае значэньне.

У сваёй адозьве да перавыбараў ЦК КП(б)Б пісаў, што «прадстаячая справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна разглядацца як генэральная праверка ўсіх нашых парторганізацый, праверка палітычнай лініі кожнага паасобнага партыйнага зьвяна, праверка таго, наколькі кожная асобная ячэйка, кожны асобны комуністы зразумеў задачы, якія стаяць перад партыяй».

І сапраўды, тая вялізарная праца, якая разгарнулася навакол перавыбараў бюро ячэек, і самі перавыбары з найбольшай яскравасьцю адлюстравалі праведзеную нашай партыяй працу ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Рабочыя масы і працоўнае сялянства як ніколі прадэмонстравалі сваю адданасьць у барацьбе за генэральную лінію партыі.

Генэральная праверка працы ячэек і кожнага паасобнага комуністага ў часе перавыбарчай кампаніі, на грунце шырока разгорнутай самакрытыкі і крытыкі, ператварылася ў масавую праверку таго, наколькі партыйныя ячэйкі, паасобныя комуністыя, савецкія профсаюзныя і коопэрацыйныя органы правільна праводзілі ў жыцьцё генэральную лінію партыі, наколькі яны стаялі на вышыні палітычных задач сучаснага пэрыоду.

Перавыбарчая кампанія бюро ячэек падвяла вынікі пройдзенага этапу працы нізавых зьвеньняў партыі, падагуліла вялікія дасягненьні ў ажыцьцяўленьні задач партыі па ўсім фронце соцыялістычнага будаўніцтва як у горадзе, так і ў вёсцы, прадэмонстраваўшы яшчэ раз непахісную ўпэўненасьць у правільнасьці ленінскай лініі нашае партыі, упэўненасьць ў тым, што ўсе нашыя дасягненьні па індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай перабудове вёскі, пераход да ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі партыя атрымала толькі дзякуючы бальшавіцкай непрымірымай барацьбе на два франты і асабліва з больш небясьпечным правым ухілам і «левымі» загібамі, якія харчуюць правы ўхіл, і прымірэнцтвам да іх.

Апошнія перавыбары далі найбагатшы матар'ял, сапраўдныя бальшавіцкія ўзоры таго, як партыя, паасобныя ячэйкі, комуністыя, прадстаўнікі рабочае клясы і працоўнага сялянства, змагаліся ў цяжкіх умовах абвостранай клясавай барацьбы за правядзеньне генэральнай лініі партыі, перамагаючы супраціўленьне кулацтва і іх агентаў, правых ухілістых і дапаможнікаў «левых» загібшчыкаў. Падагуленьню гэтага вялікага вопыту працы і барацьбы будзе прысьвячон яшчэ не адзін з артыкулаў і работ асобна.

Побач з гэтым перавыбарчая кампанія бюро ячэек выкрыла шмат нашых слабасьцяй, так званых «вузкіх месц» працы, памылак і недахопаў, як у правядзеньні самой падрыхтоўчай і перавыбарчай кампаніі, так і ў працы партыйных ячэек і мясцовых організацый, на чым мы павінны завастрыць увагу нашых партыйных організацый, зрабіўшы з гэтага адпаведныя палітычныя ўрокі, дабіваючыся непаўтарэньня іх у далейшым.

Аб гэтым і будзе ісьці гутарка ў гэтым артыкуле, высьвятляючы больш галоўныя недахопы, якія былі выяўлены ў правядзеньні перавыбарчай кампаніі. Назва артыкулу «Некаторыя ўрокі» паказвае на тое, што поўных вывадаў зрабіць нельга таму, што падвялі вынікі перавыбараў бюро ячэек і даслалі ў ЦК матар'ял толькі 22 райкомы.

### Падрыхтоўчая праца

Для выкананьня вялікіх задач перавыбарчай кампаніі лістом ЦК КП(б)Б прадугледжвалася правядзеньне шырокай масавай растлумачальнай падрыхтоўчай працы.

У адозьве ЦК прама ўказвалася: «ставіць даклады аб рабоце ячэек на рабочых сходах, пры чым пры распрацоўцы рэзолюцыі па справаздачы ўважліва ўлічыць усе дзелавыя прапановы рабочай масы».

У выкананьні гэтай дырэктывы ЦК па разгортваньню масавай падрыхтоўчай працы выявілася дрэнная тэндэнцыя недаацэнкі значэньня мобілізацыі мас навакол задач партыі ў перавыбарчую кампанію і недапушчальныя адносіны да гэтага, спасылаючыся на правядзеньне нібы больш важных задач (колектывізацыя, пасеўкампанія і г. д.).

Аб гэтым сьведчыць перш за ўсё тое, што з 22 райкомаў, якія даслалі вынікі перавыбараў бюро ячэек у ЦК, толькі 7 напісалі аб падрыхтоўчай працы.

Але і з асьвятленьня падрыхтоўчай працы гэтымі райкомамі відаць, што падрыхтоўчая праца да перавыбараў бюро ячэек не атрымала таго разгортваньня, якое прадугледжвалася адозвай ЦК. Слаба была разгорнута масавая праца сярод рабочых і працоўнага сялянства навакол перавыбараў бюро ячэек і задач, якія высоўваліся ў гэтую кампанію.

*Наогул можна адзначыць, што падрыхтоўчая праца была праведзена нездавальняюча, прынамсі ў большасьці гэтых раёнаў.*

Самая лепшая падрыхтоўчая праца заключалася ў тым, што РК-омы прымацоўвалі да ячэек членаў РК і райактывістых для правядзеньня перавыбарчых сходаў і што на сходах ячэек абгаварваліся ліст ЦК КП(б)Б да перавыбараў парторганаў і пастанова ЦК УсеКП(б) аб барацьбе з перагібамі ў колгасным будаўніцтве. Але і гэта ня ўсюды было праведзена. У шэрагу ячэек ня толькі не разгарнулі адпаведнай падрыхтоўчай працы да перавыбараў, але і не прапрацавалі ліста ЦК КП(б)Б (Дзяржынскі раён—ячэйкі «Рухавіку Рэволюцыі», воднікаў, хлебазаводу і «Пролетарыя»; Асьвейскі—мястэчковая). Астатнія райкомы хоць і пішуць што абгаварваўся ліст ЦК, але як, у якім напрамку, не гавораць. У некаторых раёнах ліст ЦК абгаварваўся на раённай нарадзе сэкратароў.

Аб разгортваньні папярэдняй масавай працы сярод рабочых, для падрыхтоўкі іх організаванага ўдзелу ў кампаніі, і складаньні навакол яе грамадзкай думкі ёсьць вельмі мала матар'ялаў, якія характарызавалі-б разгорнутасьць масавай падрыхтоўчай працы.

Так, Залінейны РК (Гомель) піша, што «сярод рабочых праводзіліся гутаркі па лісту ЦК КП(б)Б. *Часткова* асьвятлялася ў насьценгазэтах, а *ў некаторых* ячэйках (9 вуч. цягі і завод) выпушчаліся спэцыяльныя нумары насьценгазэт. Праводзіліся гутаркі з беспартыйным актывам».

З паведамленьня Дзяржынскага РК відна, што «перавыбары ў яч. (пералічваюцца якія) прайшлі з вялікім уздымам з 100-працантнай яўкай рабочых таму, што гэтаму спрыяла папярэдняя праца». Але аб характары гэтай папярэдняй працы нічога ня піша.

З гэтага можна зрабіць вывад, што *папярэдняя падрыхтоўчая масавая праца была ў лепшым выпадку абмежавана толькі гутаркамі сярод рабочых і што ў некаторых ячэйках былі выпушчаны спэцыяльныя нумары насьценных газэт, прысьвячоныя падрыхтоўцы да перавыбараў.*

Праўда, ужо падыходзячы да саміх перавыбараў, рад партыйных комітэтаў, заўважыўшы гэты недахоп, прынялі рад мер да узмацненьня масавай падрыхтоўчай працы. У выніку гэтага ў часе перавыбараў мы мелі некаторы пералом у масавай растлумачальнай працы, шляхам склікан ьня асобых рабочых сходаў, сходаў колгасьнікаў, лятучых мітынгаў па цэхах, па якіх абгаварваліся задачы перавыбарчай кампаніі і праца мясцовых парт'ячэек.

Вядома, гэтыя хуткія меры хоць і паслужылі значным зрухам у падняцьці актыўнасьці навакол перавыбараў працоўных мас, але не змаглі згрупаваць думкі мас на асноўных задачах перавыбарчай кампаніі. Адсюль—шэраг недахопаў у часе саміх перавыбараў, аб чым гаворыцца ніжэй.

Гаворачы аб ролі нашага друку, трэба адзначыць, што найлепш масавая падрыхтоўка кампаніі ў асноўным праводзілася праз наш друк, праз які мабілізавалася і грамадзкая думка рабочых мас. Аднак, трэба сказаць, што наш друк недастаткова асьвятляў ход перавыбараў бюро ячэек, абмяжоўваючыся двума-трыма сыгналамі аб парушэньнях партлініі і ўнутрыпартыйнай дэмократыі, а аб «Палескай Праўдзе» Залінейны РК піша, што яна зусім не зьмяшчала заметак аб ходзе перавыбараў па Залінейным раёне.

Як станоўчы бок, можна адзначыць у падрыхтоўчай працы, што ў большасьці раёнаў вызначаліся самаправерачныя комісіі для папярэдняй праверкі працы ячэек. Усе РК адзначаюць, што самаправерачныя комісіі «сябе апраўдалі»,—праводзілі праверку працы ячэек і рабілі сакладзы на выбарчых сходах.

Аднак у шэрагу раёнаў у працы праверачных комісій, якія ствараліся ўпяршыню, выявілася шмат скажэньняў і памылак.

Па-першае, рад ячэек і парткомітэтаў сказілі дапаможны сэнс праверачных комісій і пераклалі на іх усю падрыхтоўчую працу да перавыбараў і працу па мобілізацыі працоўных мас навакол задач перавыбараў бюро, навакол барацьбы з недахопамі ў правядзеньні генэральнай лініі партыі, паставіўшы сябе ў баку ад гэтай адказьнейшай ролі.

Па-другое, самі праверачныя комісіі недастаткова зразумелі сваю палітычную ролю ў перавыбарах і сваю работу часта зводзілі да фармальнага праглядваньня протоколаў (Залінейны раён), да пісаньня абвесткі беспартыйным з запрашэньнем іх на перавыбарчыя сходы (Дрысенскі раён), да формальных пасяджэньняў разглядам спраў ячэек. У працу праверачных комісій ня былі ўцягнуты партыйныя і рабочыя масы, і яны ў гэтым напрамку амаль нічога не прарабілі (Рагачэўскі, Сіроцінскі, Залінейны і інш. раёны).

Аб перакладаньні ўсяе працы на комісію паказвае Рагачэўскі райком, які так у сваіх выніках перавыбараў і запісаў: «у большасьці ячэек падрыхтоўчая праца да перавыбараў была *праведзена праз складзеныя комісіі* па самаправерцы, якія ў асноўным сябе апраўдалі».

Наогул гэта форма зьявілася ў большасьці об'ектам перакладаньня на яе падрыхтоўчай працы.

Некаторыя РК, адзначаючы нездавальняючую падрыхтоўчую працу, ужо ў процэсе кампаніі выпраўлялі недахопы і скажэньні і, адмяняючы перавыбары, праводзілі адпаведную растлумачальную працу (Дзяржынскі, Юравіцкі, Асьвейскі РК).

Зусім ясна, што гэтыя недахопы неразгорнутасьці масавай растлумачальнай працы не маглі не адбіцца на актыўнасьці рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і паслабленьні іх удзелу ў кампаніі. У выніку гэтых недахопаў у радзе месц мы маем наступнае становішча.

## Работа сярод беспартыйных рабочых і працоўнага сялянства і іх удзел ў перавыбарах

Аб якасьці праведзенай масавай падрыхтоўчай працы перш за ўсё сьведчыць удзел у кампаніі беспартыйных мас рабочых і працоўнага сялянства.

Але, ня глядзячы на агульны рост актыўнасьці і сьвядомасьці рабочае клясы і працоўнага сялянства, у перавыбарчай кампаніі мы маем *значнае паслабленьне ўдзелу* беспартыйных рабочых мас. Гэта констатуюць самі ў сваіх выніках пераважная *большасьць* райкомаў:

«Зусім слаба была праведзена работа сярод беспартыйных рабочых, у выніку чаго на перавыбарчых сходах ячэек прысутнічала мала беспартыйных рабочых (завод «Пролетары»—прысутнічала ўсяго 17 чал. б/п., «Рухавік Рэвалюцыі»—20 чал., воднікі і хлебозавод—зусім мала). Па савецкіх ячэйках былі выпадкі зрыву перавыбарчых сходаў з-за адсутнасьці беспартыйных (ячэйка савбальніцы і поліклінікі)»,—піша Дзяржынскі РК.

«Ня ўсе ячэйкі разгарнулі дастатковую падрыхтоўчую працу сярод беспартыйных рабочых, дзякуючы чаму на перавыбарчых сходах прысутнічала *зусім нязначная колькасьць* беспартыйных рабочых, ды і тыя слаба ўдзельнічалі ў абгаварэньні працы ячэек (Комбінат, ф-ка імя Сталіна)»,—так ацэньвае масавую працу і яе вынікі Рагачэўскі РК.

Аб такой жа неразгорнутасьці працы па мобілізацыі мас навакол задач перавыбараў бюро ячэек і слабым удзеле ў перавыбарах беспартыйных пішуць Краснаслабодзкі, Ветрынскі, Высачанскі, Ляднянскі, Журавіцкі, Узьдзенскі, Сіроцінскі, Залінейны і інш. райкомы. У выніку гэтага перавыбарчая кампанія бюро ячэек, асабліва ў адзначаных раёнах, праводзілася *недастаткова масава*. Беспартыйныя прысутнічалі адзінкамі (больш служачыя)—па 5-8 чалавек або зусім сходы праводзіліся бяз удзелу беспартыйных (Ветрынскі раён, Высачанская і Касьцееўская ячэйкі, Высачанскага раёну, зусім працу проводзілі замкнута, бяз удзелу беспартыйных, а Крынкаўская ячэйка нават не запрасіла на сход рабочых племгасу).

На ф-цы ім. К. Маркса на перавыбарах партколектыву ня было ніводнага рабочага. Адзначана значнае паніжэньне проценту ўдзелу ў перавыбарах беспартыйных рабочых і паніжэньне актыўнасьці іх на шэрагу прадпрыемстваў Залінейнага раёну ў Гомлі.

Як на адзін яшчэ буйнейшы недахоп у перавыбарчай кампаніі гэтага году, трэба паказаць на тое, што рад ячэек ня толькі не разгарнулі адпаведнай палітычна-масавай працы навакол перавыбраў, але зусім праводзілі сходы зачынена, хоць большасьць такіх зачыненых перавыбараў потым адмяняліся.

У радзе ячэек (Дрысенская чыгуначная і местачковая ячэйкі) з прычыны неправядзеньня растлумачальнай масавай працы па два разы прышлося адкладваць перавыбары, бо беспартыйныя працоўныя масы ня былі арганізаваны навакол задач перавыбараў і ня прысутнічалі на сходах. А ў некаторых ячэйках (Дрысенскі раён, Полацкай акругі) масавую растлумачальную працу імкнуліся падмяніць бюрократычным запрашэньнем на сходы толькі батракоў і беднякоў спэцыяльнымі позвамі.

Такая слабасьць у радзе ячэек палітычнай, масавай растлумачальнай працы сярод працоўных мас і іх мобілізацыі ў барацьбе за правядзеньне задач партыі адбівалася і на настроях працоўных мас і іх узброенасьці ў барацьбе за ленінскую лінію партыі, і яны не змаглі даваць рашучы бой падкулачніцкім і кулацкім выступленьням, якія мелі месца на перавыбарчых сходах.

На перавыбарчым сходзе парт'ячэйкі ў Асіпавічах бядняцка-серадняцкая маса не дала адпору яўна кулацкаму выступленьню на сходзе наступнага зьместу:—«Політычны настрой вёскі нездаровы. Сяляне настроены варожа, нікому ня вераць і г. д.». Зусім слаба рэагавала беспартыйная маса, асабліва ў вёсцы, на праваопортуністычныя выступленьні некаторых комуністых і комсамольцаў і зусім шкодныя, клясава-варожыя і кулацкія выступленьні адсталых рабочых, нядаўна прышоўшых на вытворчасьць, і падкулачнікаў і прамых агентаў кулацтва ў вёсцы.

Гэты ўрок кажа нам пра тое, што *мы яшчэ слаба і вельмі слаба растлумачваем пастановы нашай партыі,* такія грандыёзныя задачы, як выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, як колектывізацыя і барацьба з кулаком і ліквідацыя яго як клясы, і іншыя важнейшыя задачы ў гушчах шырокіх рабочых мас, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. А для таго, каб найлепш арганізоўваць актыўнасьць мас, узьнімаць удзел мас у барацьбе за выкананьне генэральнай лініі партыі, узмацніць уцягненьне гэтых мас ва ўсе галіны социялістычнага будаўніцтва і кіраўніцтва краінай, трэба аддаць больш сіл і ўвагі на тое, каб усе пастановы партыі і савецкай улады былі найбольш зразумелы і ўсвоены працоўнымі масамі, бо бяз гэтага нам можа пагражаць адрыў і паўтарэньне мінулых памылак.

Тут вялікія абавязкі па ўзмацненьні гэтай працы ўскладаюцца ня толькі на партыйныя організацыі. Трэба ўзмацніць працу ў гэтым напрамку і Белдзяржвыдавецтву, і нашым газэтам, і профсаюзам, і нашым насьценгазэтам, і настаўніцтву, і ўсім іншым установам і організацыям.

Выявіўшы слабасьці працы, улічыўшы недахопы, памылкі, падвергшы іх рашучай бальшавіцкай самакрытыцы, можна хутчэй перамагаць цяжкасьці, выкрываць памылкі і намячаць правільную выразную лінію ў далейшай працы. Аднак, гэты просты бальшавіцкі прынцып недастаткова яшчэ ўцямлены некаторымі нашымі кіруючымі органамі. Разам з гэтым трэба правільна ацэньваць і нашы слабасьці і нашы дасягненьні. У нас захаваўся яшчэ стары звычай казаць «наогул», без яскравага конкрэтнага аналізу дасягнутых посьпехаў і сваіх слабасьцяй. Часта забываюцца на тое, што «пісаньне наогул» ёсьць блізкая радня «очковтирательству».

Гэту агульнасьць падыходу пры ацэнцы вынікаў перавыбараў праявілі рад райкомаў. Ня гледзячы на тое, што большасьць раёнаў адчынена адзначалі слабасьць правядзеньня масавай падрыхтоўчай працы,—Азарыцкі РК (Мазырская акруга) піша: «Прысутнічалі і беспартыйныя сяляне, з боку якіх выяўлены вялікі інтарэс да колгаснага будаўніцтва, да разгортваньня крытыкі і самакрытыкі»,—але ў чым выяўлены гэты вялікі інтарэс, якія вынікі, аб гэтым РК не знайшоў нічога напісаць.

У такім жа напрамку піша і Клімавіцкі РК: «Сходы былі адчыненыя, прысутнічала і выступала шмат беспартыйных колгасьнікаў і неколгасьнікаў беднякоў і сераднякоў».

Глускі РК піша: «Адчыненыя сходы сябе апраўдалі і наблізілі да партыі беспартыйны актыў». Журавіцкі РК: «Сходы былі адчыненыя, але асаблівага ўдзелу з боку беспартыйных не адчувалася». А Красна-Слабодзкі РК толькі піша аб актыўнасьці прысутных, зазнаючы, што «выказалася ад 3 да 9 чал».

Здаецца, ясна, што такія агульныя разважаньні вельмі мала даюць карыснага для партыі: яны не выкрываюць недахопаў, не крытыкуюць іх. Але адначасова трэба падкрэсьліць, што наколькі няправільна адпіска «наогул», натолькі-ж няправільна і голае констатаваньне факту, як гэта робіць Журавіцкі РК («Сходы былі адчыненыя, але асаблівага ўдзелу з боку беспартыйных не адчувалася»). Факты тады бесспрэчныя і «упрямая вещь», калі ім робіцца правільны аналіз і робяцца адпаведныя палітычныя вывады.

Як было адзначана спачатку, падыходзячы ўжо да перавыбараў, большасьцю райкомаў былі ўлічаны недахопы і промахі падрыхтоўчай кампаніі і прыняты меры да ажыўленьня і найбольш шырокага разгортваньня масавай працы ўжо ў апошнія дні перад перавыбарамі, таму вызначыўся значны перелом у бок узьняцьця перавыбараў на большую палітычную прынцыповую вышыню Таму нельга не сказаць аб ходзе самых перавыбараў, адначасова заастраючы ўвагу на галоўнейшых палітычных недахопах.

## Ход перавыбараў

У выпраўленьні недахопаў падрыхтоўчай кампаніі да перавыбарчых сходаў былі організаваны лятучыя мітынгі на прадпрыемствах, гутаркі ў цэхах, былі прыняты меры да масавага абвяшчэньня рабочых аб перавыбарчых сходах, таму перавыбарчыя сходы прайшлі са значным пад'ёмам, асабліва ў большасьці вытворчых ячэек, з мобілізацыяй рабочых мас навокал правядзеньня ў жыцьцё генэральнай лініі партыі, барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, замацаваньня і далейшага разгортваньня колектывізацыі, барацьбы з перагібамі, з недахопамі на вытворчасьці, з зажымам самакрытыкі і г. д.

У выніку гэтага ёсьць узоры сапраўднага пролетарскага энтузіязму ў барацьбе за генэральную лінію партыі і правядзеньні задач партыі.

Так, на прадпрыемствах Гомельшчыны: *ф-кі «Комінтэрн», «Клары Цэткін» і Палесдрук у час перавыбараў былі наладжаны вялікія дэмонстрацыі рабочых* за лінію партыі. На гэтых прадпрыемствах мы мелі 100-процантную яўку рабочых на *перавыбарчыя сходы*. На шмат сходах *падаваліся колектыўныя заявы старых перадавых рабочых аб уступленьні ў шэрагі партыі* (колектыўная заява друкароў).

Такое зьявішча дэмонстрацыі сьвядомасьці і актыўнасьці працоўных мас адбывалася ня толькі ў горадзе, але, пры правядзеньні адпаведнай працы і выпраўленьні недахопаў на ходу, і ў вёсцы. Былі праяўленьні вялікай актыўнасьці колгасьнікаў, беднаты і серадняцтва ў падтрыманьні лініі партыі і выкрыцьці перагібаў і недахопаў працы, якія былі праяўлены на вёсцы, і быў актыўны ўдзел у перавыбарах бюро ячэек з боку колгасьнікаў, беднаты і лепшай часткі серадняцтва. У выніку гэтага, напрыклад, па Ляднянскаму раёну ў часе перавыбараў бюро ячэек у вясковыя ячэйкі была пададзена 51 заява аб уступленьні ў партыю (у Баяўскую ячэйку—25 ч., у Ачараўскую—15, у Бельскую—7, Раткаўскую—4 заявы).

Перавыбары былі праведзены пад знакам праверкі пройдзенага шляху работы, шырокага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі і разгортваньня ўнутрыпартыйнай дэмократыі. Ёсьць рад прыкладаў, калі па справаздачы бюро ячэек выказваліся ўсе члены і кандыдаты партыі і пераважная большасьць комсамольцаў і беспартыйнага актыву (Крынкаўская, Каралеўская, Бабінавіцкая ячэйкі, Высачанскага раёну); наогул у спрэчках выказвалася ад 30 да 70% складу ячэек.

Перавыбары ў асноўным праводзіліся ў напрамку лісту ЦК да перавыбараў, і спрэчкі насілі прынцыпова-дзелавы характар, выяўляючы памылкі і недахопы ў барацьбе за генэральную лінію партыі. Галоўная ўвага ў спрэчках концэнтравалася на пытаньнях вытворчасьці, ліквідацыі прарываў, на разгортваньні соцспаборніцтва і ўдарніцтва, барацьбе за ленінскую загартаванасьць партыйных радоў (барацьба з ухіламі), на выпраўленьні скрыўленьняў лініі партыі ў колектывізацыі, на барацьбе з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, нацдэмократызмам і антысэмітызмам, барацьбе з хваравітымі зьявішчамі і зажымам самакрытыкі, правядзеньні сяўбы і далейшых задачах колектывізацыі і г. д.

Можна-б яшчэ шмат прывесьці прыкладаў выкананьня задач перавыбарчай кампаніі бюро ячэек і мобілізацыі вакол гэтай кампаніі атыўнасьці і сьвядомасьці рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас, але, ідучы ўсьлед за райкомамі ў гэтым пытаньні і таму, што ў задачу гэтага артыкулу пастаўлена зрабіць урокі з недахопаў,—-застраем найбольшую ўвагу на недахопах.

## Палітычныя недахопы кампаніі

У выніку слабасьці глыбокай палітычнай працы па падрыхтоўцы да справаздачна-перавыбарчай кампаніі і непрапрацоўцы нават лісту ЦК у шэрагу ячэек мы мелі зьвядзеньне абгаварэньня пытаньняў перавыбараў да вузка практычных недахопаў прадпрыемстваў. Выступаўшыя таварышы амаль не застанаўліваліся на агульна-полтычных пытаньнях і тых задачах, якія вырашае партыя ў цэлым. «Пытаньні барацьбы з правым опортунізмам, нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам, перабудовы партыйнай і профэсыянальнай работы, пытаньні росту партыі слаба адлюстроўваліся ў спрэчках»,—піша Дзяржынскі РК (яч. «Рухавіку Рэволюцыі», воднікаў, хлебазаводу, «Пролетарыя», Койданаўскі раён).

Пытаньні барацьбы з скажэньнямі партыйнай лініі, з праявамі на практыцы правага ўхілу і прымірэнцтва, барацьбы з рэшткамі контррэволюцыйнага троцкізму і «левымі» загібамі, пытаньні агульнапартыйнага жыцьця ў большасьці ячэек зусім ня былі закрануты ў спрэчках. Зусім не касаліся ў спрэчках пытаньня абвастрэньня міжнароднага становішча і аб задачах узмацненьня ваеннай работы і работы асоавіяхіму.

«Пытаньні правядзеньня нацполітыкі партыі, барацьбы з нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам, інтэрнацыянальнага выхаваньня членаў КП(б)Б і беспартыйных рабочых і беларусізацыі закрануліся толькі ў некаторых ячэйках. Аб самакрытыцы гаварылі «наогул». Амаль зусім не гаварылі аб комсамольскай рабоце і грамадзкіх організацый. Зусім мала зьвярталася ўвагі на барацьбу з бюрократызмам» (з вывадаў Залнейнага РК КП(б)Б).

Паказаныя неадхопы і вывад Залінейнага РК мае свае адбыцьці і ў шэрагу ячэек астатніх раёнаў.

Частка ячэек не мобілізавала ўвагі на барацьбу з маючыміся ў ячэйках недахопамі і хваравітымі зьявішчамі і замазвала іх. Яч. нарсувязі, Дзяржынскага раёну, нават не даняла да мас аб меўшым месца выпадку антысэмітызму, ня гледзячы на пастанову РК. Ячэйка заводу «Соцыялізм» зусім не рэагавала на праявы антысэмітызму (тое-ж было і ў яч. чыгуначных майстэрань МББ).

Недастаткова завострана ўвага на пытаньні аб значэньні росту партыі. У шэрагу ячэек маюцца хваробныя настроі, якія выражаюцца ў тым, «што лепшыя рабочыя ўжо ўцягнуты ў парытю і таму няма больш за кошт каго расьці» (яч. ф-кі «Кастрычнік», жывёлабойні, Дзяржынскага РК, а таксама ў Койданаўскім, Рагачэўскім і Залінейным раёнах).

А ў сувязі з гэтым масавая праца сярод рабочых і праца па ўзмацненьню політычнага выхаваньня рабочых пастаўлена ня зусім здавальняюча (Койданаўскі і інш. раёны).

І таму мае пад сабою падставы вывад Дзяржынскага РК, што *«наогул ва ўсіх ячэйках дрэнна пастаўлена праца па вярбоўцы рабочых у партыю»*. Гэтую ацэнку можна аднесьці і да астатніх раёнаў, зрабіўшы з гэтага адпаведныя політычныя вывады.

Пытаньні рабочага шэфства над савецкімі ўстановамі, садзейнічаньня ўзмацненьню працы по колектывізацыі, военнай работы амаль ня былі адлюстраваны ў спрэчках (Дзяржынскі раён). Значна аслабла ўвага да працы сярод жанчын. (Аб гэтым констатуюць усе РК).

Слаба яшчэ,—а Рагачэўскі РК адзначае, што «вельмі слаба»,—разгорнута была крытыка і самакрытыка. Ня ўсе ячэйкі рабілі справаздачы па прызнаньню—выяўленьню сваіх памылак і скрыўленьняў партыйнай лініі, асабліва ў колектывізацыі, на грунце бальшавіцкай самакрытыкі, а, наадварот, адчувалася імкненьне замазаць свае памылкі і пералажыць іх на вышэйшыя парторганы (Рагачэўскі раён і інш. выступленьні паасобных партыйцаў амаль ня ў кожнай ячэйцы).

Няма яшчэ поўнага зразуменьня політычнага значэньня ўзаемаадносін паміж неколгасьнікамі і колгасьнікамі ў вёсцы і задач далейшай працы. Артыкул т. Сталіна, пастановы ЦК і новы закон аб с.-г. падатку ня ўсімі зразумелы як сьлед і прапрацаваны ў ячэйках (Гарадзец, Ціхінічы, Азарачы, Гурск, Рыскава, Сьвержань, Рагачэўскі р-н).

Былі моманты ўпадніцтва, хныканьня і замяшаньня некаторых вясковых ячэек, у сувязі з чым некаторыя абраныя бюро не змаглі стаць на чале выпраўленьня памылак і наладжваньня далейшай работы, чаму ўжо былі выпадкі роспуску нанова абраных бюро і перавыбары ў другі раз (Гарадзецкая яч., Рагачэўскі раён).

Рад РК (Ляднянскі, Лёзьнянскі, Высачанскі, Дрысенскі і інш.) адзначае, што ў спрэчках вясковыя комуністыя ня зусім рашуча і шчыра прызнаюць і выпраўляюць свае памылкі, ёсьць імкненьне замазаць іх. Ёсьць праваопортуністычныя настроі, што ва ўсім вінаваты ЦК і г.д.

У шэрагу месц яшчэ, як піша Ляднянскі РК, «ня выяўлены ўсе недахопы, не ліквідаваны хваробныя настроі, ня прызнаны і ня выпраўлены да канца памылкі».

Большасьць РК адзначае рад выступленьняў з недаацэнкай работы сярод беднаты. Пры чым гэта абгрунтоўваецца ўжо выявіўшайся новай «тэорыяй» і настроямі «згладжваньня клясавай барацьбы» ў сувязі з высяленьнем кулацтва:—«кулакоў выселілі, клясавая барацьба заціхае, а пагэтаму аб ёй ужо можна менш гаварыць». Вось адбіцьцё гэтых настрояў (Дрысенскі раён).

Да вялікіх недахопаў трэба аднесьці яшчэ тое, *што насьценныя і друкаваныя газэты не стаялі на вышыні* сваё ролі ў правядзеньні гэтай кампаніі. Шэраг газэт ня толькі не мобілізавалі працоўных мас навакол задач перавыбараў, але зусім нічога ня пісалі аб гэтым.

Адважнае прызнаньне ў гэтым Койданаўскага РК, што «*з насьценгазэт ні адна не адбіла ходу падрыхтоўкі да перавыбараў бюро ячэек, і кіраўніцтва рабселькораўскім рухам ня было ніякага*», можа быць аднесена ня толькі да Койданаўскага раёну.

Як агульнае зьявішча, прымаючае нежаданыя разьмеры, трэба адзначыць баязьлівасьць рада комуністых працаваць ў бюро ячэйкі у сувязі з павышэньнем адказнасьці за працу і цяжкасьцямі, якія прыходзіцца перамагаць; адсюль у радзе месц *мелі месца факты масавых адмаўленьняў і самаадводаў* ад бюро з боку комуністых або жаданьне пакінуць кіруючую працу. Пасаваньне перад цяжкасьцямі (Гомельскае ЦРК, АкрФА).

Шэраг ячэек, асабліва вясковых, праявілі недапушчальнае скажэньне лініі партыі ў справе праверкі сваё работы і крытыкі памылак перад беспартыйнымі працоўнымі масамі. Нежаданьне адчынена перад масамі заявіць аб сваіх хібах (тлумачачы іншы раз гэта згубай аўторытэту). Гэта прыводзіла шэраг ячэек да адрыву ад мас, і яны праводзілі працу і перавыбары замкнута, без прыцягненьня беспартыйных, нават актыву. (Высачанская сельячэйка, Касьцяеўская, Крынкаўская нават не запрасілі на сход рабочых племгасу).

Шэраг ячэек праводзілі (па тых жа, відаць, прычынах) перавыбарчыя сходы *зачыненымі* (Чарніцы, Лёзна, Завольша-Лёзьнянскага раёну, Юраўская, Тульпаўская—Юравіцкага раёну і г. д.). Але Рагачэўскі РК, замест прамога адзначэньня, як прайшлі перавыбары, мякка, нібы адзначаючы дасягненьне, напісаў: «Амаль усюды былі адчыненыя сходы», г. зн., што былі і зачыненыя. Праўда, большасьць РК рэагавала на гэта адменай перавыбараў і правядзеньнем навокал гэтага адпаведнай працы, але як на гэта рэагаваў Рагачэўскі РК, аб гэтым нічога ня піша. Мусіць, гэта мяккасьць была для прыкрыцьця таго, што Рагачэўскі РК на гэта не рэагаваў.

Меў месца шэраг фактаў зрыву перавыбарчых сходаў з прычыны няяўкі партыйцаў (Залінейны раён—Перавозная яч. у 9 вуч. цягі і яч. Праўгасу БДУ, Бельская яч., Дрысенскага раёну і інш.), а таксама з прычыны адсутнасьці, дзякуючы дрэннай працы сярод іх, беспартыйных працоўных мас (Нова-Шляхоўская яч., Чырвона-Слабодзкага раёну, Чыгуначная яч., Дрысенскага раёну—2 разы зрываліся сходы, таксама і ў Дрысенскай местачковай, Сухарукаўскай яч., Асьвейскага раёну, і інш.).

Колькі-ж і якія ячэйкі праводзілі перавыбары бяз прысутнічаньня беспартыйных (хоць і былі абвешчаны адчыненымі), аб гэтым райкомы ня пішуць, ня гледзячы на тое, што гэта мае вялікае значэньне.

Але паасобныя факты адсутнічаньня на радзе сходаў беспартыйных (прыкладна, на перавыбарчым сходзе Сухарукаўскай яч., Койданаўскага раёну, на сходзе былі 1 жанчына і 1 рабочы саўгасу, у Старынкаўскай толькі 2 колгасьнікі і інш.) і тое, што з боку беспартыйных была вельмі слабая актыўнасьць у шэрагу месц пры недастатковым разгортваньні самакрытыкі, паказваюць на вялікі недахоп і слабасьць працы сярод беспартыйных працоўных мас, слабасьць працы сярод беспартыйнага актыву.

Ня гледзячы на яскравую дырэктыву ЦК і шэраг іншых паказаньняў аб разгортваньні ўнутрыпартыйнай дэмократыі, у комуне «Чырвоны Сьцяг», Койданаўскага раёну, кандытатуры ў новы склад бюро папярэдня былі абгавораны на старым бюро (факты такія мелі месца і ў шэрагу іншых раёнаў—Кастрычніцкі, Віцебскі і інш.).

Выявіўся рад момантаў зажыму самакрытыкі.

Як анэкдотычны факт нядбайных адносін да выбараў, трэба адзначыць наступнае: у склад бюро Сухарукаўскай яч., Асьвейскага раёну, быў абраны кандыдат партыі (РК адмяніў перавыбары).

Таксама адным з галоўнейшых недахопаў у справаздачна-перавыбарчай кампаніі было тое, што задача праверкі выкананьня прапаноў праверкомаў у кампаніі не знайшла свайго адбіцьця, і над іх выкананьнем ячэйкі працавалі слаба. Большасьць РК проста констатуюць, што прапановы праверкомаў, асабліва савецкімі ячэйкамі, рэалізуюцца слаба (не вядзецца належнай барацьбы з бюрократызмам, нічога ня робіцца па рацыяналізацыі апарату, у радзе ячэек ня складзены адпаведныя ўмовы для работы вылучэнцаў, няма працы з імі і інш.—з вывадаў Дзяржынскага РК).

«Надзвычайна мала застанаўліваліся на выкананьні пастаноў праверкомаў» (Койданаўскі РК). Толькі Журавіцкі РК паведамляе, што «пастановы праверкомаў у асноўным выкананы, за выключэньнем асобных выпадкаў няўступленьня комуністых у колгасы».

Асіпавіцкі і Ляднянскі РК: «правяралася выкананьне, але ня ўсе яч. выканалі». У дасланых жа 22 РК матар'ялах 14 райкомаў на гэтым пытаньні зусім не застанаўліваюцца.

Такія адносіны да надзвычайна важных документаў—прапаноў праверкомаў, якія былі вынесены пры найлепшым вывучэньні стану ячэйкі і работы кожнага комуністага—зьяўляюцца недапушчальнымі для бальшавікоў, бо гэта прыніжае ролю чысткі партыі, якой нашай партыяй надавалася выключнае палітычнае значэньне. На праверку выкананьня і сапраўднае бальшавіцкае выкананьне прапаноў праверкомаў павінна быць зьвернута вялікая ўвага.

Нашай партыі да XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б) прышлося адбіваць новыя спробы правых ухілістых і іх «левых» саюзьнікаў у сувязі з абвяшчэньнем соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту і абвастрэньнем клясавай барацьбы. І як опортуністыя ўсіх масьцей спрабавалі выкарыстаць трыбуну падрыхтоўкі да зьездаў для новых атак на партыю і яе кіраўніцтва, прыцягваючы сваю капітулянцкую, па сутнасьці кулацкую, ідэолёгію, так яны спрабавалі выкарыстаць і трыбуну справаздачна-перавыбарчай кампаніі бюро ячэек.

У нашым друку быў асьветлены той дружны аднадушны адпор, які быў дадзены ўсякім опортуністычным вылазкам як з боку ячэек, так і з боку ўсёй партыі, тэорэтычна была выкрыта кулацкая сутнасьць правага ўхілу і яго дапаможнікаў, «левых» загібшчыкаў, у яго тэорытычнай концэпцыі і яго клясава-варожая практыка на карысьць кулаку.

Але мы ведаем, што ўсякі опортуністычны ўхіл зьяўляецца адбыцьцём капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне, яго агентурай у радох партыі і, пакольki мы прыступілі да ліквідацыі апошняе капіталістычнае клясы—кулацтва на базе суцэльнай колектывізацыі і канчаткова яшчэ капіталістычныя элемэнты ня зьнішчаны (як гэта няправільна думаюць некаторыя таварышы—гл. «Сав. Беларусь», № 166, ад 20 ліпеня г. г., арт. «На гісторычным перавале»), настроі, адбіваючыя супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў, ёсьць і яшчэ будуць адносна працяжны час існаваць і выяўляцца ў тэй або іншай форме барацьбы супроць лініі партыі і савецкай улады.

І тым больш мы павінны ўзмацняць агонь па ідэолёгіі і практыцы правага ўхілу і яго «левых» саюзьнікаў пры наступленьні на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту, пры спробах працягваць сваю барцьбу ў завэлюмаваных двурушніцкіх формах; выкрываць карэньні гэтых настрояў і пры ўпартым супраціўленьні выпраўляць памылкі і разам з партыяй перамагаць опортунізм, прымяняць пастанову XVI зьезду ЎсеКП(б), што «прапаганда поглядаў правага ўхілу нясумяшчальна з прабываньнем у ЎсеКП(б)».

Так мы павінны падыйсьці да праяў опортуністычных настрояў, якія выявіліся ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі бюро ячэек. Куды варта такое становішча, што пры нашых сапраўды іспалінскіх тэмпах будаўніцтва, хуткіх тэмпах работы, пры абвастрэньні клясавай барацьбы «частка партыйцаў яшчэ не перабудавалася ў працы і захоўвае дэмобілізацыйны настрой (Ветрынскі РК). Адчуваецца расьцеранасьць... і паслабленьне працы вясковых ячэек». Аб гэтым жа канстатуюць і іншыя райкомы. Што гэта азначае?

Гэта азначае, што ёсьць яшчэ адзінкі комуністых, якія ня вераць у правільнасьць генэральнай лініі ці ня ўцямілі яе і, апусьціўшы рукі, па сутнасьці об'ектыўна ўступаюць поле дзейнасьці клясаваму ворагу. А разам з гэтым расьцеранасьць і паслабленьне працы вясковых ячэек льле воду на млын правага опортунізму, асабліва ў той пэрыод, калі патрэбна найбольшая напружанасьць у барацьбе з клясавым ворагам, бальшавіцкае ўзмацненьне ўсіх зьвеньняў нашай работы, узмацненьне клясавай баяздольнасьці ўсёй партыі і асабліва вясковых ячэек.

Выяўленая і выкрытая праваопортуністычная кулацкая сутнасьць выступленьня супроць партыі правых ухілістых, вядомая партыя ў выглядзе так званай «мамаеўшчыны», мела сваё адбіцьцё і ў шэрагу нашых ячэек. У часе справаздачна-перавыбарчых сходаў некторыя комуністыя вінавацілі ва ўсіх памылках і перагібах вышэйшыя парторганы і Цэнтральны Комітэт нашай партыі, гаварылі, што «Сталін позна напісаў артыкул, што артыкул Сталіна падарваў аўторытэт нізавых парторганізацый і папсаваў усю справу суцэльнай колектывізацыі» (Дрысенскі, Ляднянскі і інш. раёны); некаторыя сьцьвярджалі, што «памылкі і перагібы зьяўляюцца агульнымі ўва ўсёй партыі» (Чырвона-Слабодзкі, Рагачэўскі РК). Выяўлен шэраг момантаў недаацэнкі ролі колектывізацыі ў социялістычнай перабудове вёскі, тлумачэньняў лініі і мерапрыемстваў партыі па барацьбе з перагібамі, як «адступленьня», недаацэнкі і ігнараваньня працы сярод беднаты, прыкрываючыся праваопортуністычнай тэорыяй «аб патуханьні клясавай барацьбы», супраціўленьняў новаму лёзунгу партыі—апоры на калгасьнікаў, і інш. поглядаў, адбіваючых шалёнае супраціўленьне кулацтва і яго барацьбу супроць усіх мерапрыемстваў партыі.

Пры чым гэтыя выступленьні вельмі часта маскаваліся і прыкрываліся агульнай нібы «згодай» з генэральнай лініяй партыі і пад гэтым «ярлыком» разьвенчвалі па-кулацку асноўныя палажэньні ленінізму і палітыкі Цэнтральнага Комітэту ленінскай партыі, чым іншы раз уводзілі нават у зман партыйныя масы. У сувязі з гэтым увядзеньнем у зман мы мелі ў некаторых ячэйках выпадкі, што такія яўна праваопортуністычныя выступленьні на сходах не атрымалі належнага бальшавіцкага адпору.

Гэта найбольш небясьпечнае праяўленьне правага опортунізму пад маскай «згоды» з генэральнай лініяй партыі ўскладае на нашу партыю вялікі абавязак выкрываньня праваопортуністычнай сутнасьці правых выступленьняў, пад якой-бы маскай яны ні праводзіліся. Гэта яшчэ і яшчэ раз патрабуе, як казаў тав. Пакроўскі на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), большай тэорытычнай марксыцка-ленінскай падкаванасьці комуністых і ўзмацненьня бальшавіцкай баяздольнасьці партыйных мас,—асабліва, дадамо мы, вясковых комуністых.

Спрабавалі апраўдацца або ўзваліць усе памылкі на партыю і «левыя» перагібшчыкі. На сходах быў рад выступленьняў з упартым нежаданьнем прызнаць свае памылкі ў колектывізацыі і перабудаваць работу на ходу для іх выпраўленьня. Ідучы «налева» і заяўляючы—«каб так ня ўдарылі, дык мы-б адміністрацыйна колектывізавалі на 100%», яны прыходзілі направа, узьвальваючы ўсю віну ў адлівах з колгасаў на Цэнтральны Комітэт партыі і партыю наогул.

Яшчэ сустракаецца неразуменьне ўсёй шкоднасьці «левых» заскокаў і глыбіны тых памылак, якія мелі месца ў часе колектывізацыі. Рад комуністых, замест бальшавіцкага прызнаньня памылак і пераключэньня сваёй энэргіі на барацьбу за генэральную лінію партыі, займаюцца апраўданьнем і вызываньнем спачуваньняў да іх; яны кажуць: «калі мы слаба колектывізавалі, дык нам прышывалі правы ўхіл, а зараз нас называюць галавацяпамі» (Уваравіцкі і Ляднянскі РК). Працягваюцца яшчэ «левацкія» настроі—ліквідаваць «в два счета» клясавага ворага:—«трэба адразу выселіць усіх кулакоў, тады будзе спакойна» (Ляднянскі раён). Зусім відавочна, што гэтыя настроі даюць харчаваньне праваму ўхілу, адрываючы барацьбу з кулацтвам як клясай ад тых карэньняў дробнасялянскай вытворчасьці, якія штодзённа, шточасна нараджаюць капіталізм, не разумеючы таго, што ліквідаваць кулацтва як клясу бяз зьнішчэньня яго экономічнай глебы, бяз суцэльнай колектывізацыі немагчыма, не разумеючы таго, што такая палітыка была-б карыснай праваму ўхілу.

Аналізуючы выяўленыя ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі бюро ячэек як праваопортуністычныя, так і «лева»-опортуністычныя вылазкі, настроі і погляды, прыходзіцца яшчэ і яшчэ раз пацьвердзіць, як права была партыя, абвясьціўшы правы ўхіл галоўнай небясьпекай на дадзеным этапе, і што «левы» ўхіл дае глебу для барацьбы правага ўхілу, харчуючыся аднымі і тымі-ж карэньнямі. І таму з яшчэ большай бальшавіцкай непрымірымасьцю мы павінны весьці барацьбу на два фраҥты, як правы, так і «левы», і з прымірэнцтвам, змагаючыся за ажыцьцяўленьне пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б.

Адначасова партыйныя організацыі павінны ўзмацніць барацьбу і з іншымі хваравітымі поглядамі і настроямі, якія праяўляюцца ў радзе ячэек. Ужо даўно выкрытая і разьбітая партыяй так званая тэорыя «вярхоў і нізоў», якую ў свой час выкарыстоўваў і містэр Троцкі, яшчэ знаходзіць сваё адбыцьцё ў некаторых комуністых. Дзе-ні-дзе яна

яшчэ атрымала адраджэньне ў выступленьнях некаторых комуністых. «Вярхом добра працаваць, і яны цяпер сочаць вінаватых, а аб сябе маўчаць і на нас хочуць выехаць», так заяўлялі некаторыя комуністыя. А сэкратар Алексіцкай яч. КП(б)Б (Юравіцкі раён) казаў: «Мы малыя сошкі, а таксама і РК: мы таўкачы—куды нас накіруюць, туды і ідзем. Нарабілі мы памылак, дык хіба-ж таму, што мы хацелі гэтага? Намі-ж кіравалі. Дзе-ж яны былі?» (відаць, вышэйшыя кіраўнікі—*А. Ш.).* Яшчэ ёсьць абароншчыкі адміністраваньня, падтрымшчыкі антагонізму паміж колгасьнікамі і неколгасьнікамі, нібы гэтым можна зрабіць сорамна адзіналічніку, і ён хутчэй пойдзе ў колгас і інш.

І разам з растлумачэньнем няправільнасьці і шкоднасьці такіх настрояў партыя павінна ўзмацніць барацьбу з імі.

### Якія недахопы выявіліся ў працы ячэек

І, нарэшце, трэба завастрыць увагу на галоўнейшых недахопах, якія выявіліся ў працы ячэек. У нас ужо пры справаздачах атрымала вядомасьць формула: «ёсьць шмат дасягненьняў, але ёсьць і шмат недахопаў». І гэта зусім правільна. І чым больш мы будзем з бальшавіцкай напорыстасьцю біць па недахопах і памылках, бяручы іх пад абстрэл самай жорсткай самакрытыкі, тым хутчэй мы будзем прасоўвацца ўперад.

Галоўным недахопам ў працы ячэек выявілася тое, што ня ўсе ячэйкі ў масе сваёй перабудавалі сваю працу адпаведна новым задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Яшчэ не дасягнут рашучы паварот «тварам да вытворчасьці», з прычыны чаго мы маем рад прарываў у выкананьні прамфінпляну, недастатковасьць якасных паказальнікаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Яшчэ недастаткова разгорнута масавая праца на вытворчасьці, і дырэктывы партыі адносна падрыхтоўкі і ўцягненьня лепшых рабочых у рады партыі выконваюцца яшчэ вельмі слаба—гэта констатуе большасьць ячэек. Савецкія і вузаўскія ячэйкі недастаткова перабудавалі сваю работу адпаведна новым задачам партыі і не падыйшлі ўплатную да кіраўніцтва савецкім апаратам і пастаноўкі ўсёй працы на акадэмічнай вытворчасьці ў навучальных установах.

Яшчэ хужэй справа ў вясковых ячэйках. Вясковыя ячэйкі ў масе сваёй яшчэ не перабудавалі поўнасьцю ўсёй сваёй работы адпаведна новым задачам соцыялістычнай перабудовы вёскі і абхвату кіраўніцтвам соцыялістычнага сэктору ў сельскай гаспадарцы. Кіруючыя партыйныя і іншыя органы яшчэ вельмі слаба зьвяртаюць увагу на дапамогу вёсцы і ўзмацненьне кіраўніцтва вясковымі ячэйкамі. Яшчэ вялікім недахопам і «вузкім месцам», не атрымаўшым зруху, зьяўляецца работа сярод бедноты.

Амаль усе райкомы констатуюць «адсутнічаньне сталай працы сярод бедноты і батрацтва—недаацэнку, няўважлівыя адносіны і адсутнасьць працы сярод бедноты», прызнаючы гэта недахопам і вялікай памылкай. *А што прадпрымалася і якія захады прымаюцца зараз для ўзмацненьня працы сярод бедноты,* аб гэтым нічога ня пішуць.

Таму выходзіць, што гэта прызнаньне нібы робіцца для «прызнаньня», або ператвараецца ў нейкае «сьвяшчэннае пакаяньне», калі дзесяткі раз прызнаецца недахопам, але для ўзмацненьня працы нічога ня робіцца.

Гэта-ж самае можна сказаць і аб працы сярод жанчын, у якой констатуецца значнае паслабленьне. Дэлегацкія сходы працавалі дрэнна, а некаторыя зусім не працавалі. Шмат ячэек зусім абыходзілі гэтую працу і нічога не рабілі, а комітэты не рэагавалі (Рагачэўскі, Дзяржынскі р-ны—ячэйкі, дзе зусім не працавалі дэлегацкія сходы, Гарадзец, Серабранка, Дварэц, Малашкава і інш.).

Цікава адзначыць, што адзін РК—Ляднянскі—напісаў, што *«маецца зрух у працы сярод беднаты* (пры ўсё яшчэ слабой пастаноўцы гэтай работы)». Аказалася, што гэты «зрух» зьявіўся дзякуючы ўменьню сэкратара РК зьмякчаць пастановы райпартсходу і пісаць у выглядзе «зруху». Райпартсход, *прызнаючы палітычную лінію РК няправільнай і работу нездавальняючай, констатаваў, што «работа сярод беднаты ўсё яшчэ праводзіцца нездавальняюча.* Назіраюцца факты *недаацэнкі* працы сярод беднаты і *зусім недаацэньваецца важнасьць работы сярод жанчын».*

А сэкратар РК тав. Ячменаў у сваіх вывадах аб перавыбарах у ЦК піша: «Маецца зрух у працы сярод беднаты (пры ўсё яшчэ слабой пастаноўцы гэтай работы)».

Які-ж тут можа быць зрух, калі палітычная лінія прызнана няправільнай, і праца нездавальняючай?!

Найбольш характэрна ацэнка становішча ў Узьдзенскім раёне. РК піша, што «праца з беднатой праводзілася дастаткова па кампанійскіх пытаньнях. Зусім мала зроблена ў напрамку палітыка-асьветнай працы з беднатою. Рашэньні партыі з батрацтвам і беднатою прапрацоўваліся недастаткова. У сетку партасьветы беспартыйных беднякоў ўцягнута зусім нязначная колькасьць. Групы беднаты арганізаваны пры ўсіх сельсаветах, КСУ і колгасах, *але праца апошніх не разгорнута.* Паседжаньні сельсавецкіх груп адбыліся па 2-3 разы пасьля перавыбараў. Групы пры колгасах зьбіраюцца таксама рэдка. А групы пры КСУ зусім не працуюць».

Разам з гэтым большасьць РК констатуюць слабасьць працы сярод батрацтва і сельска-гаспадарчых рабочых па падрыхтоўцы і ўцягненьню іх у партыю, і наогул пытаньнямі росту вясковыя організацыі займаліся недастаткова.

Маючы такое становішча працы сярод беднаты і жанчын, *час ужо скончыць з голым констатаваньнем недаацэнкі гэтай работы і яе слабасьці. Трэба патрабаваць ад ячэек і кіруючых органаў ня толькі прызнаньня слабасьці, але і выкананьня пастаноў партыі па гэтым пытаньні.* «Неабходна бязьлітасна выкрываць тыя асобныя вясковыя ячэйкі, тых асобных комуністых, якія яшчэ і на сёньняшні дзень не даацэньваюць сур'ёзнага значэньня работы па організацыі батрацка-бядняцкіх мас. Такая недаацэнка і *неразуменьне ўсёй важнасьці работы сярод батрацтва і беднаты павінна быць асуджана самым рашучым чынам, як шкаднейшыя праявы праваопортуністычнага ўхілу».* (З адозвы ЦК КП(б)Б да перавыбараў; падкрэсьлена мною—*А. Ш.*). У такім-жа напрамку мы павінны змагацца і з недаацэнкаю працы сярод жанчын, якая (праца) зьяўляецца аднэй з галоўных задач партыі.

Партыйная асьвета, якая мае вялізарнейшае значэньне для марксыцка-ленінскага выхаваньня комуністых, як зброя ў барацьбе за генэральную лінію партыі, яшчэ ня толькі не заняла належнага ёй месца, а, наадварот, злачынна ігноруецца.

*Партасьвета* у тэтым годзе ня толькі *не палепшылася, але шмат пагоршылася, а ў адносінах вясковай організацыі і часткі гарадзкой трэба проста адзначыць, што амаль правалена.* Дрэнна абстаіць справа

з пытаньнем выпісваньня і чытаемасьці газэт і часопісаў, ня кажучы ўжо аб спэцыяльнай літаратуры. Шэраг райкомаў проста констатуюць, што «партасьвета зусім сарвана» (Чырвона-Слабодзкі, Узьдзенскі, Ветрынскі РК), «на партасьвету ніякай увагі не зьвярталася, і вынікі маем дрэнныя» (Рагачэў, Койданава і інш.). За ўвесь час прапрацавалі па 2-5 гутарак. Шмат гурткоў нават не прапрацоўвалі пастанову XVI партконфэрэнцыі, артыкулу т. Сталіна і інш. важнейшых дырэктыўных матар'ялаў партыі.

І што яшчэ хужэй, дык гэта тое, што такія адносіны да партасьветы нідзе ня былі асуджаны, як опортуністычныя адносіны да важнейшай зброі ў жыцьці і барацьбе партыі. Мы ня мелі амаль ніводнага выпадку, каб кіруючыя органы прыцягнулі да партадказнасьці бюро ячэек ці вінаватых у зрыве партвучобы.

Пагоршаньне партвучобы і яе правал у шэрагу месц, гэта—вялікі прарыў у партыйнай працы, на ліквідацыю якога мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Адчуваецца яшчэ і на сёньняшні дзень, ня гледзячы на рад пастаноў ЦК, слабасьць парткіраўніцтва комсамолам і нават такія адносіны, якія мяжуюць з недаацэнкай (калі ня поўная недаацэнка) ролі комсамолу і задач партыйнага кіраўніцтва. Інакш нельга растлумачыць той факт, што аб удзеле комсамолу ў перавыбарах з 22 райкомаў, якія паслалі ў ЦК вынікі перавыбараў бюро ячэек, закранулі пытаньне тольк 2 райкомы, і то так, укосна (Дзяржынскі і Высачанскі), а астатнія абыйшлі зусім моўчкі гэтае пытаньне. Зусім ясна, што такое становішча ня можа быць цярпіма ў далейшым. *Партыйныя комітэты* і ячэйкі *павінны надаць больш увагі штодзённаму кіраўніцтву паасобнымі галінамі працы комсамолу.*

**
*

Гаворачы аб ацэнцы вынікаў справаздачна-перавыбарчай кампаніі бюро ячэек і падкрэсьліваючы яшчэ тое, што гэтая кампанія зьявілася сапраўды генэральнай праверкай работы нашых ячэек і мобілізавала масы на барацьбу за далейшыя посьпехі ў рабоце і перамаганьні цяжкасьцяй, якія стаяць на нашым шляху, і разам з тымі агульнымі недахопамі, якія выявіліся ва ўсёй працы ячэек, трэба адзначыць, што мы маем па некаторых раёнах наогул слабыя вынікі гэтай кампаніі і невыкананьне задач, якія партыя высоўвала перад перавыбарамі. У трох раёнах БССР (з 22, якія даслалі вынікі) маецца значны прарыў ў гэтай кампаніі.

Ляднянскі РК так ацэньвае вынікі справаздачна-перавыбарчай паніі:

> «Ня было дастатковай актыўнасьці ў абгаварэньні ўсіх пытаньняў. У спрэчках звычайна ўдзельнічаў партыйны актыў. Ня зусім рашуча выкрываліся зробленыя памылкі пры колектывізацыі з нежаданьнем выпраўляць іх. Крытыка і самакрытыка была разгорнута слаба. Не выяўляліся конкрэтныя носьбіты правага ўхілу і «левых загібаў».

Прыблізна так жа ацэньвае вынікі кампаніі Юравіцкі РК з дадаткам аб «недастатковай колькасьці прысутных беспартыйных. У некаторых ячэйках зусім ня было спрэчак. Былі моманты зажыму самакрытыкі».

*Асьвейскі РК*—«У большасьці перавыбары ня былі скарыстаны для ўзмацненьня росту ячэек, акрамя 2 ячэек (Красоўскай і Падарскай).

Адсюль відаць, што ў гэтых раёнах гэта найважнейшая кампанія ня была ўзьнята на належную палітычную вышыню, а таксама і тое, што не адважыліся сказаць і самі райкомы, што яны не змаглі арганізаваць навокал гэтай кампаніі адпаведнай партыйнай думкі і ня выканалі поўнасьцю сваёй ролі ў кіраўніцтве гэтай кампаніяй, як гэта прадугледжвалася лістом ЦК КП(б)Б, і недастаткова арганізавалі партыйныя масы на барацьбу з ухіламі ад'генэральнай лініі партыі, чаму зусім натуральна, што «не выяўляліся конкрэтныя носьбіты правага ўхілу і «левых» загібаў (Ляднянскі раён)».

І зараз, уступаючы ў новую паласу соцыялістычнага будаўніцтва—наступленьня соцыялізму па ўсяму фронту,—разьбіваючы правы опортунізм і яго «левых» саюзьнікаў на падставе пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б, партыйныя ячэйкі і кіруючыя партыйныя комітэты павінны ўлічыць усе паказаныя ўрокі, якія мы маем з перавыбарчай кампаніі бюро ячэек.

---

Рэдколегія { С. Будзінскі. А. Саевіч. А. Сянькевіч.

